ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА

**Нацыя vs Нацыянальны праект** **№14/2010**

# Змест

## Нацыя vs нацыянальны праект

*Андрэй Казакевіч.* Канцэпцыі (ідэі) беларускай нацыі ў перыяд незалежнасці, 1990-2009

Артыкул у кантэксце гісторыі палітычных ідэяў разглядае асноўныя канцэпцыі беларускай нацыі, якія сфармаваліся і функцыянавалі ў беларускім інтэлектуальным і палітычным полі з 1990 да 2009 гг. Тэкст складзены на аснове даследавання, якое ўключала ў сябе аналіз некалькіх сотняў тэкстаў, апублікаваных у выглядзе манаграфіяў, артыкулаў і палітычных праграмаў. Дэманструецца розніца і асноўныя кірункі ў разуменні таго, на якой аснове мусіць функцыянаваць беларуская нацыя, і якія публічныя інстытуты мусяць структураваць нацыянальную супольнасць. Падаецца кароткая гісторыя і характарыстыка кірункаў.

*Ключавыя словы:* ідэя нацыі, беларуская нацыя, нацыятварэнне, інтэлектуальная гісторыя, гісторыя ідэяў.

*Сяргей Богдан.* Нацыянальна-дэмакратычны праект беларускай палітыкі па версіі Зянона Пазняка, 1987 – 1995 гг.

У артыкуле разглядаюцца ўнутрыпалітычныя аспекты нацыянал-дэмакратычнага праекту на прыкладзе ідэяў самага яркага прадстаўніка гэтай плыні беларускай палітыкі, кіраўніка Беларускага народнага фронту Зянона Пазняка. Асноўная ўвага надаецца тэкстам канца 1980-х і першай паловы 1990-х гг. – часу актыўнай палітычнай дзейнасці Пазняка ў Беларусі. Робіцца спроба прадставіць структуру, а таксама вылучыць асноўныя кірункі і прыярытэты для беларускай палітыкі. Асаблівая ўвага надаецца ключаваму панятку нацыянальнага «Адраджэння» і яго змястоўнай неадназначнасці.

*Ключавыя словы:* беларуская палітыка, Зянон Пазняк, Беларускі народны фронт, нацыянал-дэмакратычны рух, палітычны праект, нацыяналізм.

*Аляксей Ластоўскі.* Русацэнтрызм як ідэалагічны праект беларускай ідэнтычнасці

Артыкул прысвечаны аналізу асноўных уласцівасцяў ды ідэяў русацэнтрызму як інтэлектуальнага праекту беларускай ідэнтычнасці пасля стварэння незалежнай дзяржавы. Разглядаюцца генезіс, інтэлектуальныя і палітычныя крыніцы, эвалюцыя русацэнтрызму ў інтэлектуальнай і медыйнай прасторы Беларусі. Асаблівая ўвага на-

даецца інстытуцыйнаму афармленню, суадносінам з іншымі кірункамі думкі. Падрабязна аналізуюцца ўяўленні пра мінулае, сучаснасць і будучыню беларускай (рускай) нацыі ў межах русацэнтрызму.

*Ключавая словы:* русацэнтрызм, заходнерусізм, нацыяналізм, беларуская ідэнтычнасць, інтэлектуальная гісторыя.

*Салвіта Дэніс.* Стратэгічная «сумесь» для нацыі: аналіз навагодніх зваротаў А. Лукашэнкі (2003–2009)

Артыкул уяўляе з сябе даследаванне палітычнага дыскурсу беларускай улады апошніх гадоў на прыкладзе навагодніх выступаў прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі. Асноўная ўвага скіроўваецца на разгляд прапанаваных у зваротах вобразу нацыі, нацыянальных інтарэсаў, уласцівасцяў і пагрозаў. На аснове метадаў крытычнага аналізу / даследавання дыскурсу шукаюцца адказы на пытанні аб тым, да якой стратэгіі канструявання нацыі звяртаецца прэзідэнт Беларусі і, галоўнае, з якою стратэгічнаю мэтаю ён гэта робіць.

*Ключавыя словы:* палітычная камунікацыя, беларуская палітыка, навагодні зварот, дыскурс, нацыянальная ідэнтычнасць.

*Пэр Андэрс Рудлінг.* Лукашэнка і «чырвона-карычневыя»: дзяржаўная ідэалогія, ушанаванне мінулага і палітычная прыналежнасць

Непаслядоўная палітычная лінія беларускага лідэра блытае шматлікіх назіральнікаў, а афіцыйная дзяржаўная «ідэалогія» разглядаецца як папулісцкі крок. Лукашэнку абралі на платформе яднання з Расіяй, але пад ягоным кіраўніцтвам Беларусь перажывае перыяд нацыянальнай кансалідацыі, а з 2002 г. усё павялічвае дыстанцыю ад Масквы. У той час як знешнепалітычная арыентацыя Лукашэнкі змянілася, ён папранейшаму выкарыстоўвае гістарычныя адсылкі да Савецкага Саюзу. Гэты артыкул вывучае палітычную арыентацыю Лукашэнкі з 1994 да 2008 гг. і разглядае пераход у ягоным кіраванні ад русафільства да абароны беларускай незалежнасці.

*Ключавыя словы:* Аляксандр Лукашэнка, беларуская палітыка, дзяржаўная ідэалогія, нацыятварэнне, нацыяналізм.

## Разнастайнасць нацыяналізмаў

*Хакі Таш.* Нацыяналізм і яго двоістасць. Сцвярджальная і адмоўная самасці ў грэцкім нацыяналізме

У гэтай працы робіцца акцэнт на псіхалагічных функцыях нацыяналізму ў кантэксце працэсу фармавання навагрэцкай нацыі. Робіцца спроба даказаць, што нацыі аб’ядноўваюць у сабе розныя, часам супярэчлівыя аспекты свайго мінулага, каб падтрымаць пачуццё нацыянальнай годнасці. У выніку ў самім вызначэнні нацыі ўзнікае двоістасць, якая можа кампенсавацца акцэнтам на рысах, што адрозніваюць гэтую нацыю ад вонкавых групаў, у прыватнасці, ад варожа настроеных або суперніцкіх на-

родаў. У аналізе выкарыстоўваюцца два асноўныя паняцці: сцвярджальная і адмоўная нацыянальныя самасці, якія падкрэсліваюць канструяваны і адносны характар нацыяналізму. У такім кантэксце аўтар разглядае выбарачнае выкарыстанне элінскага (старажытнагрэцкага) і візантыйскага мінулага пры фармаванні грэцкай ідэнтычнасці, стварэнне значнага «Іншага» і, нарэшце, уплыў Еўрапейскага Звязу на канцэпцыю грэцкай культуры.

*Ключавыя словы:* нацыянальная ідэнтычнасць, грэцкі нацыяналізм, дваістасць, элінізм, фармаванне нацыі.

*Аляксей Міхалёў.* Дэканструюючы «старэйшага брата»: досвед постсавецкай трансфармацыі ў мангольскім нацыяналізме

Распад камуністычнай сістэмы для бальшыні краінаў былога сацыялістычнага лагеру характарызуецца шэрагам тэндэнцыяў у іх сацыяльна-палітычным развіцці, адною з якіх ёсць рост этнічнага нацыяналізму. Манголія тут не выключэнне, хаця мангольская нацыянальная ідэя мае свае спецыфічныя рысы. Гістарычна этнічны нацыяналізм выступаў як інструмент дэкаланізацыі, а ў 1990-я гг. – дэсаветызацыі. У Манголіі гэтая тэндэнцыя пачала губляць сваю актуальнасць толькі на пачатку 2000-х гг. Да таго часу шмат якія постсавецкія краіны, што праходзілі працэс нацыяналізацыі, зрабіліся цалкам нацыянальнымі: сфармаваліся новыя ідэнтычнасці, лаяльнасці, сістэма палітычных міфаў. Вывучэнню гэтых з'яваў палітычнага жыцця Манголіі і прысвячаецца гэтае даследаванне.

*Ключавыя словы:* інтэрнацыяналізм, нацыянальны праект, каланіялізм, постсавецкія трансфармацыі.

*Аляксандр Філіпаў.* «Вечнае Пасланне», «адраджэнне» і «дух» у арабскім нацыяналізме сярэдзіны ХХ стагоддзя

У артыкуле разглядаецца адзін з галоўных канцэптаў у ідэалогіі партыі «Баас», якая кіруе ў Сірыі з 1963 г. Артыкул заснаваны на працах ідэолага і аднаго з заснавальнікаў партыі М. Афляка. Асобая ўвага надаецца ісламскім караням «вечнага арабскага Паслання», «адраджэння» і «духу» ў арабскім нацыяналізме, а таксама іх ролі ў кансалідацыі разнароднага сірыйскага грамадства.

*Ключавыя словы*: вечнае арабскае Пасланне, партыя «Баас», Мішэль Афляк, арабскі нацыяналізм, Сірыя.

## Музыка і палітыка

*Іван Лысюк.* Ультраправая музычная сцэна Расіі на прыкладзе black metal і pagan metal

У артыкуле разглядаецца экспансія ультраправай ідэалогіі ў сучасных расійскіх субкультурах на прыкладзе сцэнаў праварадыкальнага black і pagan metal, якія дынамічна развіваюцца. Аўтар абазначае гісторыю станаўлення сцэны, падрабязна разгля-

дае каштоўнасна-светапоглядную платформу яе ўдзельнікаў. Ультраправая музычная сцэна ў артыкуле прадстаўляецца як феномен не толькі культурны, але і палітычны. Больш за тое, палітычны элемент настолькі значны, што творчасць ператвараецца ў інструмент радыкальнай прапаганды. Характэрным для расійскай праварадыкальнай сцэны ёсць злучэнне палітычных і рэлігійных мэтаў, пабудова альтэрнатыўнай духоўнасці на фундаменце рэканструяваных дахрысціянскіх вераванняў. У гэтым артыкуле таксама закранаюцца пытанні, звязаныя з паганскай ідэнтычнасцю суб'ектаў сцэны.

*Ключавыя словы*: black metal, pagan metal, нацыянал-сацыялізм, неапаганства, музыка, субкультуры.

## Гісторыя ідэяў

*Аляксандр Шамякін.* Бальшавіцкая нацыянальная тэорыя і палітыка на пачатку станаўлення савецкай дзяржавы

У артыкуле разглядаецца развіццё бальшавіцкай нацыянальнай тэорыі ў кантэксце палітычнага разгортвання цэнтрабежных тэндэнцыяў пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. у Расіі. Асаблівая ўвага надаецца такім пытанням, як магчымасць усталявання федэратыўнага ладу ў святле марксісцка-ленінскай нацыянальнай канцэпцыі, а таксама кан'юнктурнага («канкрэтна-гістарычнага») падыходу да вырашэння нацыянальных пытанняў. Акрамя гэтага разглядаецца нацыянальная палітыка бальшавікоў у першы год станаўлення Савецкай Расіі.

*Ключавыя словы*: нацыянальная тэорыя, Уладзімір Ленін, бальшавікі, федэралізм, нацыянальная палітыка.

## Ідэнтычнасць

*Уладзіслаў Іваноў.* Эвалюцыя тоеснасці і культуры старавераў Паўночнай Беларусі, канец XIX – пачатак XXI стагоддзя

У артыкуле разглядаюцца розныя мадэлі развіцця тоеснасці беларускіх старавераў у XIX–XXI стст. На аснове першага перапісу Расейскай імперыі 1897 г., а таксама на падставе сучасных этналагічных экспедыцыях робіцца спроба выяўлення стану культуры і, у прыватнасці, тоеснасці старавераў Паўночнай Беларусі. З улікам перапісу і звестак этнічнай гісторыі вымалёўваюцца розныя, часам супярэчлівыя тэндэнцыі ў развіцці іхнай культуры і тоеснасці: акультурацыя, асіміляцыя, контракультурацыя і пэўны сінкрэтызм – як культурны, так і рэлігійны.

*Ключавыя словы*: стараверства, старaверы Беларусі, нацыянальная тоеснасць, рэлігійная тоеснасць, русіфікацыя.

## Рэцэнзіі

*Анджэй Пукшта.* Gente Lithuana, natione Lithuana (Dariusz Szpoper. Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934). Arche. Gdańsk. 2009)

Рэцэнзія на кнігу вядомага польскага даследчыка Д. Шпопэра, прысвечаную жыццю, культурнай і палітычнай дзейнасці Канстанцыі Скірмунт.

*Ключавыя словы*: Канстанцыя Скірмунт, «краёўцы», краёвая ідэя, літоўскі нацыянальны рух, беларускі нацыянальны рух.

*Аляксей Ластоўскі.* Расія як хвароба, літаратура як зло (Эва М. Томпсан. Песняры імперыі: расійская літаратура і посткаланіялізм / Пераклад з англ. мовы Т. Нядбай. Мн. : Медыясонт, 2009)

У рэцэнзіі разглядаецца пераклад на беларускую мову кнігі амерыканскай даследчыцы Эвы Томпсан «Песняры імперыі», прысвечаная посткаланіяльнай дэканструкцыі расійскай літаратуры як інструменту імперскай улады.

*Ключавыя словы*: посткаланіяльныя даследаванні, імперская ўлада, нацыяналізм, каланіялізм, ідэнтычнасць, ідэалогія.

# POLITICAL SPHERE

**Nation vs National Project** **№14/2010**

## Contents

### Nation vs National Project

*Andrei Kazakevich.* Concepts (Ideas) of Belarusian Nation Since Independence, 1990-2009

The article investigates main concepts of Belarusian nation that have been shaped and articulated in Belarusian intellectual and political domains in 1990–2009 in the context of history of political ideas. The publication resulted from study of some hundreds books, articles and political documents. The differences and main trends in understanding of Belarusian nation and public institutions that should shape it are demonstrated. Brief history, intellectual background and general characteristics of each trend are described.

*Keywords:* History of Ideas, Belarusian Nation, Nation-Building, Intellectual History, Identity.

*Siarhei Bohdan.* The National Democratic Project of Belarusian Politics in 1987–1995: Zianon Pazniak's Version

The article investigates internal politics issues in the National Democratic project through ideas of the most prominent representative from this faction of Belarusian politics – Belarusian People's Front's leader Zianon Pazniak – in late 1980s and early 1990s, i. e. in the time of his most intensive political activities in the country. It attempts at outlining the structure of this part of the project, as well as identify main contents and priorities of the project. The special focus is made on key concept of 'National Revival' and its content ambiguity.

*Keywords:* Belarusian Politics, Zianon Pazniak, Belarusian People's Front, National Democratic Movement, Ideology, Political Project, Nationalism.

*Aliaksei Lastouski.* Russocentrism as a Belarusian Identity Project

The article analyzes the main features and ideas of Russocentrism as an intellectual project of Belarusian identity since establishing an independent state. It deals with genesis, intellectual and political sources, evolution and main proponents, relations with other projects, representations of the past, present and future of Belarusian nation which are offered by this project.

*Keywords:* Russocentrism, Western Rusism, Nationalism, Belarusian Identity, Intellectual History.

*Solvita Denis.* Strategic "Mixture" for Nation – New Year Congratulation Speeches by A. Lukashenka (2003–2009)

The article is a study of the political discourse of the Belarusian authorities in recent years based on the New Year speeches by President Alexander Lukashenko. The main focus is on the image of the nation, national interests, national characteristics and threats offered in Presidents' speeches. Using the method of critical analysis / study of discourse author answers the questions which nation-building strategies are used in Belarusian President's speeches and, most importantly, which strategic goals he tries to achieve by them.

*Keywords:* Political Communication, Belarusian Politics, Political Discourse, Ideology, Nation-Building.

*Per Anders Rudling.* Lukashenka and the "Red-Browns": National Ideology, Commemoration of the Past and Political Belonging

The Belarusian leader's inconsistent political line has confused many observers, and the official state "ideology" is being seen as a populist move. Initially elected on a platform of restoration of a union with Russia, Lukashenka's Belarus has been going through a period of national consolidation, and since 2002 increasingly distanced itself from Moscow. While Lukashenka's foreign policy orientation has changed, his use of Soviet historical references has not. This article is a study of Lukashenka's political orientation, from 1994 to 2008, his reinvention of himself from pan-Slavic Russophile to defender of Belarusian independence.

*Keywords:* Lukashenka, Belarusian Politics, National Ideology, Nation Building, Nationalism.

## Diversities of nationalisms

*Hakki Taş.* Nationalism and its Ambivalence. Positive and Negative Selves in Greek Nationalism

This paper focuses on the psychological functions of nationalism using the case of the modern Greek nation-building process. It also attempts to prove that nations embrace multiple, sometimes conflicting references from the past in order to maintain the national self-esteem. The resulted ambivalence in the very definition of the nation can be compensated by an emphasis on the differences from the outgroups, namely, enemy or rival nations. For the analysis, two terms are operationalized: the positive and negative national selves, which underline the constructed and relational character of nationalism. The selective use of the Hellenic and Byzantine past for the formation of Greek identity, the creation of the significant Other, and finally the impact of the European Union on the conception of Greekness are analyzed within this framework.

*Keywords:* National Identity, Greek Nationalism, Ambivalence, Hellenism, Nation-building.

*Aleksei Mikhalew.* Deconstructing the "Senior Brother": Experience of Post-Soviet Transformation in Mongolian Nationalism

Collapse of the Communist system caused similar tendencies in sociopolitical development of the most former Warsaw Pact's countries, and in particular led to an increase in ethnic nationalism. Mongolia is not an exception among them. Historically, ethnic nationalism was a means of decolonization in Asian countries. Then, in 1990s, it was used for de-Sovietization. In Mongolia, this trend began to lose its actuality only by early 2000s. By that time many nationalizing post-Soviet countries had completely turned into national states. New identity, loyalty and system of political myths were formed. The research is dedicated to studying these phenomena in the Mongolian politics.

*Keywords:* Internationalism, Nation Project, Colonialism, Post-Soviet Transformation.

*Aliaksandr Filipau.* "Eternal Arab Message (Revelation)", "Revival" and "Spirit" Concepts in Arab Nationalism in 20th Century

The article considers one of the main concepts in the ideology of the Ba'ath Party, which has been ruling Syria since 1963. The article is based on the writings of party's ideologist and co-founder M. 'Aflaq. It is focused on the Islamic roots of the "Eternal Arab Message (Revelation)", "Revival" and "Spirit" concepts and their role in consolidation of the heterogeneous Syrian society.

*Keywords:* Eternal Arab Message (Revelation), Ba'ath Party, Michel 'Aflaq, Arab Nationalism, Syria.

## Music and Politics

*Ivan Lysiuk.* Far-Right Music in Russia: Black Metal and Pagan Metal Cases

The article considers expansion of far-right ideology on subcultural level in contemporary Russia. Taken as examples, the dynamically developing scenes of far-right Black and Pagan Metal have been investigated. The author defines the reasons for the scene's growth, tracks down the history of its formation, provides the detailed analysis of its value and worldview foundations. Far-right musical scene in the article is presented as a phenomenon which has not only cultural or counter-cultural, but also political dimensions, being politicized to such an extent that creative works of the musicians became an instrument of radical propaganda. The synthesis of political and religious elements, building of an alternative spirituality on the basis of reconstructed pre-Christian beliefs are also characteristic for the Russian far-right scene. Issues dealing with religious – Pagan, in this case – identity of the scene's subjects are considered as well.

*Keywords:* Black Metal, Pagan Metal, National Socialism, Neo-Paganism, Music, Subcultures.

## History of ideas

*Aliaksandr Shamiakin.* Bolshevik Nation-Building Theory and Practices at the Beginning of Soviet Polity Formation

This article considers the development of the Bolshevik National theory in the context of political developments and the centrifugal tendencies after the February 1917 revolution in Russia. It is focused on a possibility of federal structure in the Marxist-Leninist national concept as well as on the situational ("concrete-historical") approach in addressing national issues. In addition, this article considers the national policy of the Bolsheviks in the first year of the establishment of Soviet Russia.

*Keywords:* Nation-Building Theory, Lenin, Bolsheviks, Nation-Building Policy, Federalism.

## Identity

*Uladzislau Ivanou.* Self-Identity and Culture of Northern Belarusian Orthodox Old Believers in Late 19$^{th}$ – early 21$^{th}$ Centuries

The article examines different models of development of the Orthodox Old Believers identity in Belarus in the 19$^{th}$ – 21$^{st}$ centuries. Based on the first 1897 census of the Russian Empire population and on the basis of modern ethnographic expeditions, the author tries to identify the current cultural situation and in particular the identity of the Old Believers in North Belarus. Given the Census data and ethnic history author notes different, sometimes contradictory tendencies in the development of their culture and identity: acculturation, assimilation, contra-acculturation and syncreticism.

*Keywords:* Orthodox Old Believers, Old Believers in Belarus, National Identity, Religious Identity, Russification.

## Reviews

*Andžej Pukšto.* Gente Lithuana, natione Lithuana (Dariusz Szpoper. Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934). Arche. Gdańsk. 2009)

Review of the book on life, political and cultural activities of Konstancja Skirmuntt authored by the famous Polish scholar D. Szpoper.

*Keywords:* Konstancja Skirmuntt, "Krajoucy", Lithuanian National Movement, Belarusian National Movement.

*Aliaksei Lastouski.* Russia as a Disease, Literature as Evil (Эва М. Томпсан. Песняры імперыі: расійская літаратура і посткаланіялізм / Пераклад з англ. мовы Т. Нядбай. Мн. : Медыясонт, 2009)

The review considers the Belarusian translation of Ewa M. Thompson's "Imperial Knowledge. Russian Literature and Colonialism" which is focused on postcolonial deconstruction of Russian literature as an instrument of imperial power.

*Keywords:* Imperialism, Nationalism, Colonialism, Identity, Ideology.

ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА

**Нация vs Национальный проект** **№14/2010**

# Содержание

## Нация vs Национальный проект

*Андрей Казакевич*. Концепции (идеи) белорусской нации в период независимости, 1990-2009

Статья в контексте истории политических идей рассматривает основные концепции белорусской нации, которые сформировались и функционировали в белорусском интеллектуальном и политическом поле с 1990 по 2009 гг. Текст составлен на основе исследования, которое включало в себя анализ нескольких сотен текстов, изданных в виде монографий, статей и политических программ. Продемонстрирована разница и основные направления в понимании того, на какой основе должна функционировать белорусская нация, и какие публичные институты должны структурировать национальное сообщество. Преподносится краткая история и характеристика направлений.

*Ключевые слова:* идея нации, белорусская нация, национальное строительство, интеллектуальная история, история идей.

*Сергей Богдан*. Национально-демократический проект белорусской политики по версии Зенона Пазняка, 1987 – 1995 гг.

В статье рассмотрены внутриполитические аспекты национал-демократического проекта на примере идей самого яркого представителя этого течения белорусской политики, руководителя Белорусского народного фронта Зенона Пазняка. Основное внимание уделяется текстам конца 1980-х и первой половины 1990-х гг. – времени активной политической деятельности Пазняка в Беларуси. Сделана попытка представить структуру, а также выделить основные направления и приоритеты для белорусской политики. Особое внимание уделяется ключевому понятию национального «Возрождения» и его содержательной неоднозначности.

*Ключевые слова:* белорусская политика, Зенон Позняк, Белорусский народный фронт, национал-демократическое движение, политический проект, национализм.

*Алексей Ластовский*. Русоцентризм как идеологический проект белорусской идентичности

Статья посвящена анализу основных свойств и идей русоцентризма как интеллектуального проекта белорусской идентичности после создания независимого го-

сударства. Рассматриваются генезис, интеллектуальные и политические источники, эволюция русоцентризма в интеллектуальном и медийном пространстве Беларуси. Особое внимание уделено институциональному оформлению, соотношениям с другими направлениями мысли. Подробно анализируются представления о прошлом, настоящем и будущем белорусской (русской) нации в рамках русоцентризма.

*Ключевые слова:* русоцентризм, западнорусизм, национализм, белорусская идентичность, интеллектуальная история.

*Солвита Денис.* Стратегическая «смесь» для нации: анализ новогодних обращений А. Лукашенко (2003–2009)

Статья представляет собой исследование политического дискурса белорусской власти последних лет на примере новогодних выступлений президента Александра Лукашенко. Основное внимание направлено на рассмотрение представленных в обращениях образа нации, национальных интересов, свойств и угроз. На основе методов критического анализа/исследования дискурса находятся ответы на вопросы о том, к какой стратегии конструирования нации прибегает президент Беларуси и, главное, с какой стратегической целью он это делает.

*Ключевые слова:* политическая коммуникация, белорусская политика, новогоднее обращение, дискурс, национальная идентичность.

*Пэр Андерс Рудлинг.* Лукашенко и «красно-коричневые»: государственная идеология, почитание прошлого и политическая принадлежность

Непоследовательная политическая линия белорусского лидера путает многочисленных наблюдателей, а официальная государственная «идеология» рассматривается как популистский шаг. Беларусь под руководством Лукашенко, первоначально избранного президентом на платформе воссоздания союза с Россией, переживает период национальной консолидации, а с 2002 г. все больше дистанцируется от Москвы. В то время как внешнеполитическая ориентация Лукашенко изменилась, он по-прежнему использует исторические отсылки к Советскому Союзу. Эта статья изучает политическую ориентацию Лукашенко с 1994 по 2008 гг. и рассматривает переход в его правлении от панславянского русофильства до защиты белорусской независимости.

*Ключевые слова:* Александр Лукашенко, белорусская политика, государственная идеология, нациотворчество, национализм.

## Разнообразие национализмов

*Хакки Таш.* Национализм и его двойственность. Утвердительная и отрицательная самости в греческом национализме

В настоящей работе акцент сделан на психологических функциях национализма в контексте процесса формирования новогреческой нации. Сделана попытка доказать,

что нации объединяют в себе различные, иногда противоречивые аспекты своего прошлого в целях поддержания чувства национального достоинства. В результате в самом определении нации возникает двойственность, которая может быть компенсирована акцентом на чертах, отличающих данную нацию от внешних групп, в частности, от враждебно настроенных или соперничающих народов. В анализе использованы два основных понятия: утвердительная и отрицательная национальные самости, которые подчеркивают конструируемый и относительный характер национализма. В таком контексте автор рассматривает выборочное использование эллинского (древнегреческого) и византийского прошлого при формировании греческой идентичности, создание значимого «Другого» и, наконец, влияние Европейского Союза на концепцию греческой культуры.

*Ключевые слова:* национальная идентичность, греческий национализм, двойственность, эллинизм, формирование нации.

*Алексей Михалёв.* Деконструируя «старшего брата»: опыт постсоветской трансформации в монгольском национализме

Распад коммунистической системы для большинства стран бывшего социалистического лагеря характеризуется схожими тенденциями в их социально-политическом развитии, одной из которых является рост этнического национализма. Монголия в этом ряду не исключение, хотя монгольская национальная идея имеет свои специфические черты. Исторически этнический национализм в странах Азии выступал как инструмент деколонизации, а в 1990-е гг. – десоветизации. В Монголии этот тренд начал утрачивать свою актуальность лишь к началу 2000-х гг. К тому времени многие национализирующиеся государства постсоветского пространства стали полностью национальными: сформировались новые идентичности, лояльности, система политических мифов. Изучению этих явлений политической жизни Монголии и посвящено данное исследование.

*Ключевые слова:* интернационализм, национальный проект, колониализм, постсоветские трансформации.

*Александр Филиппов.* «Вечное Послание», «возрождение» и «дух» в арабском национализме середины XX столетия

В статье рассматривается один из главных концептов в идеологии правящей в Сирии с 1963 г. партии «Баас». Статья основана на работах идеолога и одного из основателей партии М. Афляка. Особое внимание уделено исламским корням «вечного арабского Послания», «возрождения» и «духа» в арабском национализме и их роли в консолидации разнородного сирийского общества.

*Ключевые слова*: «вечное арабское Послание, партия «Баас», Мишель Афляк, арабский национализм, Сирия.

## Музыка и политика

*Иван Лысюк.* Ультраправая музыкальная сцена России на примере black metal и pagan metal

В статье рассматривается экспансия ультраправой идеологии в современных российских субкультурах на примере динамично развивающихся сцен праворадикального black и pagan metal. Автором обозначена история становления сцены, подробно рассматривается ценностно-мировоззренческая платформа ее участников. Ультраправая музыкальная сцена в статье представлена как феномен не только культурный, но и политический. Более того, политический элемент настолько значителен, что творчество превращается в инструмент радикальной пропаганды. Характерным для российской праворадикальной сцены является соединение политических и религиозных целей, построение альтернативной духовности на фундаменте реконструированных дохристианских верований. В данной статье также рассматриваются вопросы, связанные с языческой идентичностью субъектов сцены.

*Ключевые слова*: black metal, pagan metal, национал-социализм, неоязычество, музыка, субкультуры.

## История идей

*Александр Шемякин.* Большевистская национальная теория и политика в начале становления советского государства

В статье рассматривается развитие большевистской национальной теории в контексте политического развертывания центробежных тенденций после Февральской революции 1917 г. в России. Особое внимание уделяется таким вопросам, как возможность применения федеративного строя в свете марксистско-ленинской национальной концепции, а также конъюнктурного («конкретно-исторического») подхода к решению национальных вопросов. Кроме этого рассматривается национальная политика большевиков в первый год становления Советской России.

*Ключевые слова*: национальная теория, Владимир Ленин, большевики, федерализм, национальная политика.

## Идентичность

*Владислав Иванов.* Эволюция тождественности и культуры староверов Северной Беларуси, конец XIX – начало XXI века

В статье рассматриваются разные модели развития идентичности белорусских староверов в XIX–XXI вв. На основе первой переписи Российской империи 1897 г., а также на основе современных этнологических экспедиций создается попытка выявления положения культуры и, в частности, идентичности староверов Северной Беларуси. С учетом переписи и сведений этнической истории вырисовываются разные, временами противоречивые тенденции в развитии их культуры и идентичности: аккультурация, ассимиляция, контракультурация и определенный синкретизм – как культурный, так и религиозный.

*Ключевые слова*: староверство, староверы Беларуси, национальная идентичность, религиозная идентичность, русификация.

## Рецензии

*Анджей Пукшто.* Gente Lithuana, natione Lithuana (Dariusz Szpoper. Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934). Arche. Gdańsk. 2009)

Рецензия на книгу известного польского исследователя Д. Шпопера, посвященную жизни, культурной и политической деятельности Констанции Скирмунт.

*Ключевые слова*: Констанция Скирмунт, «краёвцы», краёвая идея, литовское национальное движение, белорусское национальное движение.

*Алексей Ластовский.* Россия как болезнь, литература как зло (Эва М. Томпсан. Песняры імперыі: расійская літаратура і постканіялізм / Пераклад з англ. мовы Т. Нядбай. Мн. : Медыясонт, 2009)

В рецензии рассматривается перевод на белорусский язык книги американской исследовательницы Евы Томпсон «Песняры імперыі», которая посвящена постколониальной деконструкции российской литературы как инструмента имперской власти.

*Ключавыя словы*: постколониальные исследования, имперская власть, национализм, колониализм, идентичность, идеология.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Андрэй Казакевіч

# Канцэпцыі (ідэі) беларускай нацыі ў перыяд незалежнасці, 1990-2009[1]

Гэты тэкст накіраваны на прэзентацыю вынікаў даследавання развіцця беларускай нацыі ва ўмовах незалежнасці. Тым не менш, нацыя – складаная палітычная і сацыяльная супольнасць, з дынамічнаю будоваю, а таксама нестабільнымі і пераменлівымі практыкамі навукоўцаў ды інтэлектуалаў у яе даследаванні.

Прапанаваны тэкст мае адносна невялікую задачу ў гэтай сферы. У сваёй аснове ён засяроджваецца на вывучэнні аднаго невялікага аспекту – канцэпцыі беларускай нацыі, прадстаўленай у інтэлектуальнай (інтэлектуальна-палітычнай) сферы. Больш дакладна, артыкул прысвечаны разбору і сістэматызацыі цэнтральных ідэяў нацыі, якія маюць (мелі) устойлівую прысутнасць у інтэлектуальных і палітычных тэкстах эпохі незалежнасці.

Гэта ні ў якім разе не значыць, што праявы *ідэі нацыі* на іншых узроўнях (напрыклад, рэальнае палітыкі ці паўсядзённасці) не важныя. Уплыў інтэлектуалаў можа быць значны, але не вырашальны. Акрамя гэтага, паміж *ідэямі* ды (палітычнай, сацыяльнай) *практыкай* існуюць складаныя дачыненні, а прырода ідэяў як грамадскіх феноменаў – пытанне асобнай дыскусіі[2]. Больш за тое, відавочна, нацыя не ёсць «уяўнаю суполь-

---

1 Тэкст заснаваны на выніках даследавання, праведзенага Інстытутам «Палітычная сфера» ў 2008–2010 гг. Спачатку даследаванне праводзілася пры падтрыманні «Carnegie Corporation» (у рамках праграмы Цэнтру CASE, структурнага падраздзялення Еўрапейскага гуманітарнага універсітэту, Вільня). У выніку канфліктнай сітуацыі, якая ўзнікла з прычыны парушэння ў ЕГУ акадэмічных правоў, праект быў выведзены з пачатковага фармату і завершаны інстытутам самастойна. Даследчая група: Аляксей Дзермант, Андрэй Казакевіч, Аляксей Крывалап, Аляксей Ластоўскі, Таццяна Чыжова.

2 У класічных працах праблема вырашалася па-рознаму. З аднаго боку, напрыклад, Вэбэр адзначаў, што інавацыйныя ідэі могуць стварыць «свет уяўленняў» і радыкальна перафармуляваць сутыкненне інтарэсаў. З другога боку, «стылі мыслення» моцна звязаныя і залежаць ад эвалюцыі сацыяльных групаў ды іх інтарэсаў (Мангейм, 1994: 575). Значная частка гісторыкаў трымаецца дыфузіяніcцкага бачання: ідэі вядучых інтэлектуалаў паступова прымаюцца

насцю» і падтрымліваецца не толькі ідэямі (уяўленнямі), але і інстытутамі[3], што яшчэ больш ускладняе сітуацыю.

Тым не менш, даследаванне інтэлектуальнага ўзроўню падаецца важным для аналізу пераўтварэнняў нацыянальных супольнасцяў пасля распаду СССР. Па-першае, ідэі, сфармуляваныя інтэлектуаламі, у пэўнай ступені ўплываюць на працэс развіцця супольнасці, хаця мы не схільныя перабольшваць гэты ўплыў. Па-другое, ідэі інтэлектуалаў канцэнтравана адлюстроўваюць асноўныя працэсы на ўзроўні паўсядзённасці ды палітыкі, што яшчэ больш важна. Даследаванне інтэлектуальнага ўзроўню мае яшчэ адну перавагу: гэтая сфера больш празрыстая і прыдатная для аналізу. Сістэматызацыя інтэлектуальнага поля можа быць эфектыўнаю асноваю для вывучэння эвалюцыі нацыянальнае супольнасці ў межах іншых сацыяльных палёў.

Як адзначалася вышэй, артыкул прысвечаны разгляду «інтэлектуальных канструкцыяў», і менавіта на іх накіраваная нашая асноўная ўвага. Калі вызначыць дысцыплінарныя рамкі тэксту, то яны бліжэйшыя за ўсё да «гісторыі (палітычных) ідэяў». Агульны тэарэтычныя кантэкст склалі тэксты Квэнціна Скінэра (Skinner, 2002a,b), а таксама Артура Лаўджоя (асабліва канцэпцыя unit-idea, гл.: Lovejoy, 2001: 3–23). Канкрэтныя прыклады аналітыкі палітычных ідэяў гл. у: Нисбет, 2007; Grosby, 2002.

Даследчыкі нацыяналізму таксама надаюць увагу ідэям, у прыватнасці *ідэі нацыі*, але ў большасці выпадкаў сыходзяць з «дыфузіянізму»[4], успрымаючы ідэі інтэлектуалаў (элітаў) як рэальны «праект», паводле якога «будуецца» нацыя, што мае месца вельмі рэдка. Пры гэтым самі ідэі разглядаюцца не як самастойны феномен, але толькі частка нацыяналізму як сацыяльнага і палітычнага працэсу, што не зусім адпавядае нашым мэтам[5]. Апроч таго, аўтары зазвычай засяроджваюцца на паспяховых вы-

шырокімі коламі грамадства (гл. у прыватнасці пра ўплыў ідэяў Бэнтама на сацыяльную палітыку XIX ст.: Parris, 1960; Hart, 1965). Але такі падыход падпадае і пад жорсткую крытыку (Skinner, 1974: 280). Таксама відавочна, што ўплыў ідэяў на палітыку значна залежыць ад тыпу лідэрства (Snare, 1995). Канкрэтны разгляд дачыненняў паміж ідэямі ды палітыкаю гл.: King, 1994; Weir, 1994. Пра неадназначнасць уплыву ідэяў на паводзіны суддзяў гл.: Sherry, 2004.

3 Прынамсі, яна засноўвацца на калектыўных уяўленнях не больш, чым любая іншая супольнасць.

4 Пра дыфузіянізм у гісторыі ідэяў гл. у прыватнасці: Skinner, 1974: 280.

5 Нягледзячы на тое, што асноўныя аўтары (А. Андэрсан, Э. Гобсбаум, Э. Гелнэр і г. д.) напісалі свае асноўныя працы дзесяцігоддзі таму і да пачатку 1990-х гг. ужо сталі артадоксіяй (Сміт, 2004: 51), шматлікія беларускія аўтары да гэтага часу ўспрымаюць іх як актуальную навацыю і сучаснае дасягненне ў галіне сацыяльных навук.

падках, ігнаруючы цэлыя масівы не рэалізаваных і не спраўджаных ідэяў і праектаў. Улічваючы сказанае, тэарэтычная рамка гісторыі ідэяў падаецца больш прыдатнаю для рэалізацыі пастаўленых на пачатку артыкулу задачаў.

Выбар дысцыпліны (гісторыя ідэяў) вызначае метады і стратэгію працы з матэрыялам. Спачатку мы вызначым, што ўласна разумеем пад ідэяй (канцэпцыяй) нацыі ў інтэлектуальных і палітычных тэкстах, затым акрэслім правілы адбору тэкстаў для аналізу і толькі пасля гэтага пяройдзем да больш падрабязнага разгляду інтэлектуальнага поля Беларусі і фармулявання *канцэпцыі нацыі* ў яго межах.

Даследаванне беларускай нацыі ў кантэксце ідэі ды інтэлектуальных канструкцыяў мае пэўную гісторыю, хаця, на жаль, тэксты рэдка вытрымліваюць дакладныя метадалагічныя пазіцыі.

Па-першае, вельмі часта пытанне нацыі («нацыянальнага праекту», «дыскурсу», «візіі») механічна змешваецца з вонкавапалітычнай арыентацыяй, паводзінамі на выбарах, палітычнымі ідэалогіямі ды г. д., хаця гэтыя сферы могуць функцыянаваць дастаткова аўтаномна. Па-другое, часам інтэлектуальныя кірункі ці аўтарскія візіі гісторыі аўтаматычна інтэрпрэтуюцца як «праекты» і канцэпцыі нацыі, што ў большасці выпадкаў некарэктна і проста не адпавядае праўдзе.

Палітычны падыход больш пасуе класіфікацыі палітычных праграмаў, ідэалогіяў, планаў рэформаў. Але для вылучэння канцэпцыі нацыі ён, на нашую думку, не зусім эфектыўны. Такі падыход базуецца на разуменні, што кожны палітычны праект ці ідэалогія мусяць утрымліваць цэласную «канцэпцыю нацыі», што часта не адпавядае рэчаіснасці. Па-першае, палітычная праграма нярэдка не настолькі дэталізаваная, каб артыкуляваць ідэю нацыі. Па-другое, адну канцэпцыю могуць падзяляць розныя палітычныя кірункі, нават вельмі далёкія ў палітычным спектры. Напрыклад, «грамадзянскую» нацыю могуць падтрымліваць і дэмакраты, і прыхільнікі аўтарытарызму, а верыць у «адзіны рускі народ» могуць лібералы і крайне правыя. І наадварот, блізкія палітычныя плыні могуць падзяляць розныя канцэпцыі: кансерватары могуць быць прыхільнікамі як этнічнай, так і культурна-палітычнай канцэпцыі.

Калі казаць пра актуальныя палітычныя арыентацыі, то ў сучаснай Беларусі русацэнтрысты могуць выступаць за незалежнасць, у той час як прыхільнікі ідэі самастойнай нацыі – паслядоўна выступаць за інтэграцыю з Расіяй[6]. Яшчэ менш сэнсу мае падзел спектру на «нацыяналістаў» і «дзяржаўнікаў», «нацыяналістаў» і «лібералаў» і г. д, бо ўсе інтэлектуальныя канструкцыі, якія фармулююць канцэпцыю нацыі, ёсць нацыяналістычнымі па факце свайго існавання.

[6] Прыкладам можа быць Юрый Шаўцоў, гл. ягоную пазіцыю па беларускай нацыі: Шевцов, 2005: 33–38.

Калі закрануць праблему адлюстравання (прынамсі ўскоснага) розных канцэпцыяў нацыі ў тэкстах даследчыкаў, то класіфікацыя звычайна ў значнай ступені адбываецца на падставе ўласнага досведу, адчування, публічных дыскусіяў і датычыць розных узроўняў, што ўскладняе параўнанне высноваў[7]. Размова ідзе пераважна пра «нацыянальныя праекты» ці «дыскурсы», якія спалучаюцца з рознымі палітычнымі і культурнымі аспектамі развіцця беларускага грамадства. Але першасным, як падаецца, у большасці выпадкаў выступае палітычны падзел, які кладзецца ў аснову класіфікацыі.

Уласна, выданні, прысвечаныя гісторыі палітычных ідэяў (палітычнай думкі), надаюць гэтаму мала ўвагі. Ці ўвогуле не разглядаюць гэтага перыяду (Шалькевіч, 2002), ці закранаюць некаторыя далёкія ад канцэпцыяў нацыі фрагменты: дыскусіі пра нацыянальную ідэю і кароткі агляд ідэалогіі беларускай дзяржаўнасці (Вішнеўская, 2004: 252–258).

Большасць публіцыстаў і даследчыкаў, аналізуючы беларускае грамадства, фармулюе бінарную схему культурнага і палітычнага падзелу ў Беларусі: уладна-афіцыйны і апазіцыйны дыскурсы (Гансэн, 2006), «славянскі» і «еўрапейскі» нацыяналізм (Гужон, 2007), «нацыянальны/дэмакратычны», «постсавецкі/пралукашэнкаўскі (pro-Lukashenka)» праект (Brzozowska, 2003), «нацыянальная» і «савецкая» стратэгіі нацыянальнага будаўніцтва (Leshchenko, 2004).

Часам прапаноўваюцца больш складаныя схемы. Напрыклад, вылучаюцца натывісцкі / праеўрапейскі (nativist / pro-european), прамаскоўска-ліберальны (muscovite liberal) і «крэольскі» (creole) нацыянальныя праекты (Ioffe, 2007); пазначаюцца праекты, заснаваныя на «ідэі вяртання Беларусі ў Еўропу», на ідэях «славянскага братэрства» і «памяці пра Вялікую Айчынную вайну» (Pershai, 2006). «Інтэлектуальныя дыскурсы беларускай ідэнтычнасці» могуць проста падзяляцца на «правыя», «левыя» і «цэнтрысцкія» (Rudkouski, 2008), ці прапаноўваюцца складаныя мадэлі з пяці інтэлектуальных праектаў, вылучэнне якіх, на жаль, адбываецца без дакладных крытэрыяў[8].

Большасць пералічаных тэкстаў робіць свой унёсак у разуменне беларускай сітуацыі, але іх нельга выкарыстаць для нашага аналізу ў чыстым выглядзе. Па-першае, большасць з іх толькі ўскосна закранае аналіз канцэпцыі беларускай нацыі як супольнасці, а не палітычнага праекту ці праграмы. Па-другое, нашая задача – зрабіць аналіз на аснове эмпірычных звестак, прынамсі настолькі, наколькі гэта магчыма.

[7] Гэта асабліва датычыць замежных аўтараў, якія зазвычай робяць высновы на падставе «актуальных» тэкстаў ці размоваў з беларускімі інтэлектуаламі.

[8] Асаблівае пытанне ставіць вылучэнне постмадэрнісцкага праекту, фармуляванне якога прыпісваецца аўтарам некалькіх кніг па беларускай гісторыі (Мацкевич и др., 2008: 15–25).

## Канцэпцыя нацыі як інтэлектуальная канструкцыя

Нават калі зыходзіць з *гісторыі ідэяў*, нацыя застаецца дастаткова складанаю структураю, таму фокусам аналізу будуць цэнтральныя, на нашую думку, элементы, якія вызначаюць логіку арганізацыі ды эвалюцыі ўсёй канструкцыі. Гэтыя цэнтральныя элементы мы будзем называць *канцэпцыяй нацыі*.

Адказ на пытанне, што такое нацыя, можа быць розным у залежнасці ад палітычнай арыентацыі, сацыяльнага паходжання, культурнага досведу таго ці іншага прадстаўніка нацыянальнае супольнасці, але адказы мусяць утрымліваць і нейкія агульныя элементы, свайго кшталту *unit-idea*, якія ёсць больш устойлівымі ды адлюстроўваюць *ідэю нацыі* ў канцэнтраванай форме. Натуральна, вылучэнне такіх *unit-ideas* ёсць аналітычнаю і дастаткова адвольнаю працэдураю, якая, тым не менш, адпавядае нашым мэтам.

Пад канцэпцыяй нацыі мы разумеем наступную важную *unit-idea:* якім чынам вызначаюцца межы і складовыя часткі супольнасці, якая супольнасць кладзецца ў яе аснову. Для таго, каб канцэпцыя нацыі была завершаная, мы пазначым, з якімі публічнымі інстытутамі (res publica[9]) вызначаная супольнасць звязваецца. Такім чынам, канцэпцыя нацыі ў межах нашага даследавання – гэта супольнасць і яе публічныя інстытуты.

Першы элемент канцэпцыі нацыі – вызначэнне супольнасці – не патрабуе, як падаецца, дадатковага тлумачэння. Ідзецца пра тое, як (на якіх прынцыпах, паводле якіх правілаў) праводзіцца мяжа нацыянальнае супольнасці і хто ў яе трапляе.

Пытанне з публічнымі інстытутамі не такое простае, таму спынімся на ім больш падрабязна. Абсалютная большасць дэфініцыяў *нацыі* (як навуковых, так і папулярных) утрымлівае адсылкі да таго ці іншага набору інстытутаў. Мы сыходзім з дапушчэння, што супольнасць – і як сацыяльная з’ява, і як інтэлектуальная канструкцыя – базуецца на пэўным наборы інстытутаў. Набор публічных інстытутаў можа быць розным: паходжанне (раса), мова, царква, культурная традыцыя, тэрыторыя, дзяржава і г. д. Дзяржава, у сваю чаргу, можа быць «беларускаю», «нацыянальнаю», «саюзнаю» і г.д. Публічныя інстытуты не толькі кансалідуюць супольнасць (і робяцца асноваю яе тоеснасці), але і вызначаюць калектыўныя паводзіны ды іншыя элементы нацыі.

Калі весці размову пра ўзровень ідэяў, то набор інстытутаў вызначае логіку пабудовы нацыі як інтэлектуальнай канструкцыі: фармуляванне каштоўнасцяў, праектаў, інтэрпрэтацыю гісторыі ды праграмаў паводзінаў. У інтэлектуальнай сферы камбінацыя інстытутаў можа быць бясконцаю, разам з канвенцыйнымі (якія могуць падзяляць шырокія колы супольнасці) паўстаюць розныя

9 Рэч, якая належыць супольнасці (публіцы, народу, нацыі).

экзатычныя, індывідуальныя і перыферыйныя канцэпцыі. Тэарэтычна, асобны інтэлектуал ці звычайны чалавек можа сфармаваць уласную канцэпцыю нацыі. Палёт фантазіі могуць абмяжоўваць толькі культурны кантэкст і перакананні / каштоўнасці або жаданне гэтыя каштоўнасці разбурыць. Экзатычныя канцэпцыі ці спробы іх стварыць могуць мець шырокі рэзананс у інтэлектуальнай сферы, застаючыся пры гэтым маргінальнаю з'яваю. Усё гэта ставіць праблему канону і крытэрыяў адбору тэкстаў для аналізу, падзелу аўтараў і канцэпцыяў на *mainstream* і перыферыю.

## Канон і вызначэнне выбаркі

Кожны даследчык ідэяў пэўнай эпохі сутыкаецца з праблемай адбору тэкстаў і асобаў, што трапляюць у ягонае поле аналізу. У пэўнай ступені сітуацыю спрашчае наяўнасць канону – прызнанага і легітымнага набору аўтараў ды іхных твораў, якія інтэлектуальная ці даследчая традыцыя прызнае адлюстраваннем «ідэяў эпохі». Або проста вельмі малая колькасць даступных тэкстаў, што аўтаматычна знімае праблему выбаркі (такую сітуацыю, напрыклад, мы маем у сферы вывучэння палітычнай думкі Беларусі да XVI ст.).

Пры гэтым значная колькасць аўтараў прызнае магчымую недастатковасць канону, але толькі невялікая іх частка спрабуе пашырыць аналіз і выйсці за межы звыклага кола тэкстаў (Skinner, 2002). Аналіз канону можа мець відавочныя хібы рэпрэзентатыўнасці, але прынамсі быць выверанным традыцыяй ці практыкамі фармавання цэласнага корпусу тэкстаў. Гэта ў любым выпадку, прынамсі ў пэўнай ступені, прадугледжвае аналітычнае прачытанне, селекцыю і ранжыраванне тэкстаў.

У нашым выпадку для аналізу палітычных ідэяў сучаснай Беларусі канон відавочна адсутнічае[10], нават у такім важным пытанні нацыянальнага мыслення як «нацыя» ці «Беларусь»[11]. Пры наяўнасці праблемы з корпусам тэкстаў, якія маглі б стаць асноваю для нашага аналізу, паўстае неабходнасць выбраць метад для апрацоўвання і структуравання шырокага масіву інфармацыі. Пры гэтым, каб зрабіць даследаванне больш эфектыўным, патрабуецца пэўная мадыфікацыя чыстае схемы «інтэлектуальнага поля».

Інтэлектуальнае поле (поле інтэлектуальнае вытворчасці) у Беларусі нельга назваць вузкім, і тэматыка нацыі ды палітычных ідэяў прысутнічае ў ім рэгулярна. Але, як ні дзіўна, масіў тэкстаў гэтай праблематыкі ёсць недастаткова шырокім. Акрамя гэтага, калі арыентавацца на інтэлектуальны ўзровень у вузкім сэнсе,

[10] Існаванне канону беларускай палітычнай думкі праблематычнае ў прынцыпе. Сучасныя інтэлектуалы вельмі рэдка спасылаюцца ў сваіх развагах на папярэднікаў. Таксама цікава, што дзеячы беларускага адраджэння пачатку XX ст. практычна не спасылаліся адзін на аднаго ў сваіх развагах і палітычных працах.

[11] Спробу сістэматызацыі гл. у: Анталёгія..., 2003; Беларуская думка…, 1998.

будзе існаваць значная дыспрапорцыя паміж канцэпцыямі (на карысць «нацыянальных»), бо прадстаўнікі розных поглядаў на беларускую нацыю не аднародныя ў рэпрэзентацыі сваёй інтэлектуальнай пазіцыі.

Магчымым крокам была б арыентацыя на акадэмічны ўзровень, але даследаванняў тут мала. У звязку з тым, што нашая мэта – гэта аналіз больш-менш аформленых інтэлектуальных канструкцыяў, мадыфікацыя заключаецца ў далучэнні да інтэлектуальнага поля часткі поля палітыкі, а менавіта яго інтэлектуалізаванага элементу – палітычнай публіцыстыкі і праграмных дакументаў (але не прамоваў, выступаў, каментарыяў ды іншых аператыўных праяваў палітыкі). Такім чынам, у нашую выбарку трапілі кнігі (навуковыя, масавыя, біяграфічныя), падручнікі, артыкулы ў часопісах, артыкулы ў медыях[12], палітычная ды інтэлектуальная публіцыстыка, а таксама праграмныя дакументы, якія выйшлі ў Беларусі ў 1990–2009 гг. Пасля першага адбору ў поле аналізу трапілі каля 1000 тэкстаў, з якіх у выніку папярэдняга аналізу было адабрана 450[13]. Гэты корпус тэкстаў і стаў асноваю для аналізу канцэпцыяў нацыі ў інтэлектуальнай сферы.

Аналіз, як і чакалася, выявіў інтэлектуальную разнастайнасць і прысутнасць у інтэлектуальным і – у значна меншай ступені – палітычным полі розных канцэпцыяў, што ставіць праблему крытэрыяў.

У нашым даследаванні для адбору канцэпцыяў, якія можна аднесці да «значных», крытэрыямі былі прадстаўніцтва канцэпцыі ў больш як 5 % тэкстаў і наяўнасць прынамсі шасці аўтараў. Толькі чатыры канцэпцыі падпалі пад гэтыя крытэрыі[14]. Пры гэтым дзве з іх мелі пераважна гістарычнае значэнне і былі актыўна рэпрэзентаваныя ў 1990-я гг. (этнакультурная, русацэнтрычная), і дзве – актуальнае (культурна-палітычная, дзяржаўна-палітычная). Назвы адлюстроўваюць арыентацыю канцэпцыяў на палітычныя і культурныя інстытуты. Калі праводзіць намінацыю, сыходзячы з цэнтральнага паняцця канцэпцыяў, то іх можна было б пазначыць такім чынам: эт-

12 Маюцца на ўвазе найперш газеты (нават штодзённыя, як «Народная газета» і «Советская Белоруссия»). Асабліва для 1990-х гг. было характэрнае змяшчэнне ў іх развагаў і праграмных артыкулаў інтэлектуалаў і палітыкаў, якія суправаджаліся дыскусіямі чытачоў.

13 З прычыны абмежаванага памеру артыкулу падрабязнага апісання выбаркі не прыводзіцца, гэта будзе зробленае ў адмысловай публікацыі. Пры гэтым яшчэ раз падкрэслім, што адзінкаю даследавання былі тэксты, а не аўтары. Аўтары маглі мяняць свае пазіцыі з цягам часу ці пад уплывам кантэксту і абставінаў напісання тэксту.

14 У межах гэтага артыкулу мы не прыводзім дакладнай статыстыкі, яна будзе змешчаная ў асобнай публікацыі. Пры ўсёй умоўнасці матэматычнай дакладнасці ў гэтай сферы варта адзначыць колькасную перавагу «нацыянальных» канцэпцыяў над дзяржаўнаю і русацэнтрычнаю.

наса-цэнтрычная, руса-цэнтрычная, нацыя-цэнтрычная, дзяржава-цэнтрычная. На падставе вылучаных канцэпцыяў можна весці размову пра дзяржаўны, культурны, этнічны і русацэнтрычны нацыяналізм.

У гэтую групу чакана не патрапілі «праекты», якія часам уздымалі сярод інтэлектуалаў заўважныя дыскусіі (напрыклад, у блогах), але мелі нізкае прадстаўніцтва ў выглядзе завершаных тэкстаў ці невялікай колькасці аўтараў: «ліцвіны» (розныя скіраванасці), крыўскі нацыяналізм, еўразійства, панславізм, ліберальныя і касмапалітычныя канцэпцыі ды інш.

## Канцэпцыі беларускай нацыі перыяду незалежнасці

*Перадгісторыя*. У XIX – пач. XX ст. беларусы былі і ўспрымаліся як этнічная (этнаграфічная) супольнасць, таму іх апісанне, разуменне ды інтэрпрэтаванне маглі адбывацца толькі ў этнічных катэгорыях і сыходзіць з этнічных (народных) сацыяльных і культурных інстытутаў. Істотная апеляцыя да іншых палітычных, сацыяльных ці культурных інстытутаў – існая дзяржава, «высокая культура», царква – была з розных прычынаў немагчымая і на практыцы значыла аўтаматычны пераход з *беларускай* на іншую (польскую, расейскую і г.д.) канцэпцыю.

Такая сітуацыя вызначыла стратэгію «разумення», «абуджэння» і «адраджэння» асобнага беларускага народу. Практычна ўсе дзеячы беларускага руху канца XIX – пач. XX ст., магчыма, з некаторымі варыяцыямі, разумелі «народ» (а пазней «нацыю») як этнічнае паняцце (гл., напрыклад: Ластоўскі, 1991; Луцэвіч, 2003; Багдановіч, 1994; Лёсік, 1994: 253–262). Аналагічна разумелі беларусаў і іншыя ўдзельнікі палітычнага і культурнага працэсу ў рэгіёне: польскі нацыянальны рух, імперскія ўлады, савецкі ўрад і г. д.

Савецкая дзяржава ў разуменні нацыі (*нацыянальнага пытання*) пераняла пераважна такую этнічную мадэль. Нацыі разумеліся практычна заўсёды як этнакультурныя (этнаграфічныя) супольнасці, новая стадыя развіцця *народнасці*. Канцэпцыя адзінага *савецкага народу* з'явілася крыху пазней, мела складаныя і няўстойлівыя дачыненні з канцэпцыяй шматлікіх *савецкіх нацыяў* нават на ўзроўні ідэалогіі ды тым больш сацыяльнай практыкі. У значнай ступені ў СССР адбывалася супрацьстаянне / спалучэнне «саветызму»[15] і этнічнасці, якое набывала розныя канфігурацыі ў пасляваенны перыяд. Урбанізацыя, распад вясковых супольнасцяў, саветызацыя і русіфікацыя значна аслабілі «этнічнасць», хаця ў пэўнай ступені Беларусь перажыла невялікае «этнічнае адраджэнне» ў 1970-я гг. і ўсплёск цікавасці да этнічнай культуры напрыканцы 1980-х – пач. 1990-х гг., характэрны для ўсяго рэгіёну[16].

Напрыканцы 1980-х для беларускіх інтэлектуалаў паўстала праблема

[15] Заснаваны на русацэнтрызме.

[16] Пра феномен этнічнага адраджэння на Захадзе гл.: Сміт, 1995: 158–173.

перафармуляваць разуменне нацыі, якая на той час уяўляла з сябе асаблівы кангламерат беларускай этнакультурнай традыцыі і саветызму. Кожную з пералічаных канцэпцыяў можна разглядаць як рэакцыю на выклік, звязаны з распадам савецкай сістэмы і стварэннем новай дзяржавы.

***Этнакультурная канцэпцыя нацыі***[17]. Канцэпцыя нацыі, аснову якой утварае комплекс ідэяў пра беларускую этнічную супольнасць. Адпаведна, беларускі этнас, паходжанне (рэальнае або ўяўнае) і этнічная культура разумеюцца як цэнтр і публічныя інстытуты нацыянальнае супольнасці. Этнічная («народная») канцэпцыя беларускай нацыі мае працяглую гісторыю, таму яе ўплыў вызначаецца не толькі самой ідэяй, але і традыцыяй, пакладзенай у аснову ўжо *нацыянальнай* культуры. У даследаваны перыяд канцэпцыя зазнала ўздым у першай палове 1990-х гг., пасля чаго яе ўплыў паступова падаў, саступаючы месца палітычным канцэпцыям. Найбольш характэрныя тэксты: Лыч, 1994: у прыватнасці с. 80–89; Дубавец, 2003; Конан, 1998; Санько, 1999.

Функцыянаванне этнасу-народу[18] як непасрэднай асновы, прычыны і матыву паўстання нацыянальнае супольнасці была дамінантнаю тэндэнцыяй ва Усходняй і Цэнтральнай Еўропе. Паводле такой мадэлі ў XIX – пач. XX ст. афармляліся практычна ўсе сучасныя нацыі рэгіёну, таму, у той ці іншай ступені, уплыў народна-этнічных канцэпцыяў дагэтуль заўважны ў культуры і палітыцы гэтых краінаў. Пры гэтым у выніку мадэрнізацыі, атрымання палітычнае незалежнасці і распаду савецкае сістэмы адбываецца зрух у бок актуалізацыі палітычных інстытутаў і культуры ў больш шырокім, не-этнічным кантэксце.

Такім чынам, супольнасць канцэпцыі – *беларускі народ*, зразуметы як этнічная супольнасць. Уласцівасці супольнасці ў большасці аўтараў адпавядаюць акадэмічнаму вызначэнню этнасу: агульнае паходжанне (рэальнае або ўяўнае), мова, супольная гісторыя і культура (найперш традыцыйная культура). Адпаведна прадстаўнікі этнасу (народу) натуральным чынам утвараюць нацыю, прадстаўнікі іншых этнасаў (народаў) выступаюць нацыянальнымі меншасцямі.

Што датычыць публічных інстытутаў, то ў большасці выпадкаў іх складаюць аўтэнтычная культура, мова, нацыянальная дзяржава, пераемнасць (паходжанне). Хаця гэты пералік хутчэй ёсць вынікам рэканструкцыі, бо не ўсе аўтары дэталёва прапісваюць публічныя інстытуты[19].

*Аўтэнтычная культура, мова.* Нельга сказаць, што ў этнічнай кан-

17 Магчымыя альтэрнатыўныя назвы: этнічная, этнаграфічная (асабліва для савецкага перыяду).

18 Этнас – дастаткова новы тэрмін, у XIX – першай палове XX ст. размова звычайна вядзецца пра народ, народнасць, племя.

19 Прыкладам можа быць формула Сяргея Дубаўца «мова, вёска, Вільня», прапанаваная ў 1990 г. (Дубавец, 2003).

цэпцыі ёсць дакладнае апісанне аўтэнтычнай культуры, але вызначаецца стратэгія яе пошуку – народная традыцыйная культура, а таксама (этнічная) гісторыя. Аўтэнтычная культура – гэта перш за ўсё традыцыйныя сацыяльныя структуры, звычаі, мадэлі свету, правілы паводзінаў і дачыненняў, фальклор, культурныя сувязі. Менавіта гэтыя з'явы сапраўдныя і вартыя «адраджэння». З прагматычнага пункту гледжання «адраджэнне» – гэта насамперш павышэнне сацыяльнага статусу этнічнай культуры (які ў БССР быў традыцыйна нізкі), пашырэнне як сацыяльнай прасторы (праз сістэму адукацыі, палітыку, медыі, культурніцкую працу), набліжэнне да сапраўднай культуры праз узнаўленне традыцыяў (этнічных і гістарычных)[20].

Мове ў канцэпцыі адводзіцца важнае месца, як і імкненню да адраджэння «сапраўднай беларускай мовы» праз рэформу правапісу, змены ў лексіцы і граматыцы. Пры гэтым мова разумеецца як істотны сацыяльны факт: сродак выяўлення традыцыі ды ладу жыцця, светагляд і натуральная мяжа «беларускасці».

Палітычнай арганізацыі нацыі як супольнасці не надаецца шмат увагі, але гэта пераважна мала дэталізаваны вобраз нацыянальнай дзяржавы. *Нацыянальная дзяржава* ёсць, з аднаго боку, прынцыпам, а з другога – фактам палітычнай пераемнасці. Як палітычны прынцып нацыянальная дзяржава мусіць падпарадкоўвацца інтарэсам *народу* і забяспечваць аўтэнтычную культуру, яе адраджэнне і функцыянаванне. Беларусы выступаюць як дзяржаватворная нацыя, што ўступае ў кааліцыю ці супрацьстаіць іншым нацыянальным супольнасцям (у залежнасці ад іх стаўлення і лаяльнасці да дзяржавы).

Падкрэсліванне *наўпроставай пераемнасці* мае звязаць сучасную дзяржаву з палітычным досведам мінулага. Адчуванне і веданне гэтае пераемнасці ёсць істотным для пабудовы сучаснай дзяржаўнасці, а таксама яе легітымацыі. Такім чынам, нацыянальная дзяржава ў этнакультурнай канцэпцыі – гэта насамперш (наўпроставая) палітычная пераемнасць з тымі ці іншымі палітычнымі інстытутамі мінулага, і толькі ў такім выпадку дзяржаўнасць ёсць у поўнай ступені сапраўднаю, аўтэнтычнаю. Для аўтараў пачатку 1990-х гг. легітымныя палітычныя інстытуты мінулага – гэта Полацкае княства, Вялікае княства Літоўскае, БНР і (крыху пазней) дахрысціянская / даславянская эпоха[21]. Інстытуты Расійскай імперыі, СССР, часам Рэчы Паспалітай і нават Рэспублікі Беларусь[22] не прызнаюцца аўтэнтычнымі.

*Паходжанне* – найменш канкрэтны публічны інстытут этнічнай кан-

20 Гістарычная традыцыя – гэта найперш традыцыя ВКЛ.

21 Асобныя элементы такой візіі сфармаваліся ў 1970-я–1980-я гг., але сапраўдную публічную ўвагу яна прыцягнула напрыканцы 1980-х – пач. 1990-х гг. (Крывальцэвіч, 1999). Праграмным тэкстам можна лічыць: Санька, 1993.

22 У тым ліку і таму, што сучасная Рэспубліка Беларусь мае вельмі мала прыкметаў наўпроставай пераемнасці з дзяржавамі мінулага.

цэпцыі. Беларуская нацыя – гэта ў першую чаргу беларусы з паходжання, але значэнне гэтага паняцця звычайна не канкрэтызуецца. Як падаецца, сама канцэпцыя сыходзіць з сітуацыі, калі народ-этнас быў апрыёрнаю і натуральнаю супольнасцю, абумоўленаю культурнымі маркерамі, сацыяльным статусам, графою «нацыянальнасць» у пашпарце і не патрабаваў дадатковага абгрунтавання. Аўтары практычна не апелююць да «крыві», больш важнымі падаюцца культурная і палітычная пераемнасць, а таксама прыняцце культуры, сістэмы паводзінаў цягам дастаткова доўгага часу[23].

***Культурна-палітычная канцэпцыя***[24]. Канцэпцыя, заснаваная на разуменні нацыі як палітычнай і культурнай супольнасці. Палітычнае вымярэнне азначае звязанасць з пэўнымі палітычнымі інстытутамі, у прыватнасці інстытутам грамадзянства; культурнае прадугледжвае наяўнасць агульных культурных сімвалаў, практыкаў, разумення мінулага. Паступовы ўздым канцэпцыі пачынаецца з сярэдзіны 1990-х гг. і прыблізна з сярэдзіны 2000-х гг. яна пачынае пераважаць. Характэрныя раннія прыклады: Пліска, 1999: асабліва с. 26–31; Глушакоў, 1999: у прыватнасці с. 122–124; Яскевич, 1998; Бабосов, 1998: 63–66).

Гістарычна канцэпцыя моцна звязаная з этнакультурнаю, але прапаноўвае іншую стратэгію нацыянальнай кансалідацыі. Культурна-палітычная канцэпцыя змагла афоміцца толькі ў выніку з'яўлення *беларускай незалежнай дзяржавы*, што дазволіла змяніць мадэль разумення Беларусі, беларускага і беларускасці. Пэўныя праявы культурна-палітычнай канцэпцыі можна назіраць і да пачатку 1990-х гг. у выглядзе «патрыятызму БССР»[25], але толькі пасля атрымання незалежнасці такая пазіцыя робіцца інстытуцыйна падмацаванаю і здольнай да мабілізацыі.

Нацыя ў культурна-палітычнай канцэпцыі ёсць супольнасцю грамадзянаў Беларусі, але пры гэтым падкрэсліваецца, што грамадзяне ўтвараюць культурную супольнасць, а нацыянальная культура ёсць інтэграванаю часткаю нацыі. Публічнымі інстытутамі нацыі выступаюць незалежная дзяржава (краіна), нацыянальная культура і палітычная пераемнасць.

Аўтары культурна-палітычнай канцэпцыі надаюць дастаткова шмат увагі палітычнай арганізацыі супольнасці і дзяржавы. Пры гэтым публічны інстытут (незалежнай)

---

23 Пытанне крыві канкрэтна актуалізуе толькі адносна новы альманах «Druvis», але некаторыя яго аўтары ў значнай ступені адыходзяць ад «беларускасці», таму далучэнне іх да этнакультурнай канцэпцыі беларускай нацыі выяўляецца праблемным.

24 Нацыянальная, нацыянал-дэмакратычная.

25 Праявы грамадзянскага патрыятызму можна знайсці нават у ранніх тэкстах Пазняка: *«Усе мы – Нацыя, ня будзем забываца пра гэта. І рускія, і яўрэі, і палякі, і татары – усе. Не забывайцеся ніколі пра гэта!»* (Пазняк, 1988).

дзяржавы выступае не столькі як сукупнасць органаў і ўлады, але як *краіна* – сістэма сацыяльных і палітычных інстытутаў: грамадзянская супольнасць, палітычныя арганізацыі, рэгіёны, канфесіі, дзяржаўны апарат і г. д.[26] Прыметнік *незалежны* падкрэслівае адсутнасць наўпроставай залежнасці ад іншых краінаў, таму канцэпцыя стаіць у апазіцыі да ідэяў «саюзнага» суверэнітэту ці саюзнай дзяржаўнасці, актуалізаванай у 1990-я гг. прыхільнікамі інтэграцыі з Расіяй ці аднаўлення СССР. Пры гэтым *палітычная незалежнасць і нацыянальны суверэнітэт* разглядаюцца як прынцыповыя атрыбуты дзяржаўнасці. Адзначаючы значную залежнасць Беларусі ад Расіі, шэраг аўтараў традыцыйна ставіць пытанне пра тое, ці можна сучасную Рэспубліку Беларусь называць незалежнаю дзяржаваю, асабліва гэта было характэрна для 1990-х гг.

Другім важным публічным інстытутам выступае *нацыянальная культура*. Дзяржава і нацыянальная супольнасць не павінна (і не можа) быць культурна нейтральнаю (як можа быць нейтральнай у дачыненні, напрыклад, рэлігійных інстытутаў). У культурна-палітычнай канцэпцыі пэўная культура ўяўляе з сябе інтэграваную частку нацыі, якая не менш чым дзяржава робіць яе супольнасцю. У аснову кладзецца беларуская культурная традыцыя, як яна склалася цягам XX ст.

Але калі ў этнакультурнай канцэпцыі цэнтральнае месца займае пошук аўтэнтычнай (сапраўднай) культуры, то ў палітычнай сітуацыя выглядае трохі па-іншаму. Адбор паводле крытэру аўтэнтычнасці замяняецца на тое, што можна назваць *прынцыпам досведу*. Розныя культуры беларускага кантэксту могуць інтэрпрэтавацца як беларускія і быць часткаю нацыянальнай культуры[27]. Стратэгія дазваляе ўключаць у культуру, напрыклад, польскамоўных аўтараў XIX ст., заходнерусізм, савецкае мінулае ды іншыя элементы беларускага / тутэйшага / краёвага, наўпрост не звязаныя з «беларускасцю» ў этнічным сэнсе. Вялікае значэнне таксама надаецца беларускай мове. Расійская мова разглядаецца як сродак камунікацыі, але ў межах канцэпцыі яна практычна заўсёды бачыцца як аперацыйная з’ява і, у адрозненне ад русацэнтрызму, ніколі ў якасці каштоўнасці. Русіфікацыя адпаведна не разглядаецца як «нармальная» з’ява[28].

Падобная стратэгія характэрная для інстытуту *сімвалічнай пераемнасці*. Наяўнасць і адчуванне

[26] Акрамя шэрагу дэмакратычных (правільней сказаць рэспубліканскіх) канфігурацыяў пэўны падпарадкаваны стан дзяржавы сярод публічных інстытутаў звязаны з тым, што частка канцэпцыі фармулюецца людзьмі, якія не далучаныя да ўлады ці крытычна да яе ставяцца, часам нават не прымаюць Рэспубліку Беларусь як «нармальнай» дзяржавы з прычыны яе палітычнага рэжыму.

[27] Характэрнаю праяваю такой стратэгіі можа быць канцэпцыя транскультурнасці, гл.: Бабкоў, 1999.

[28] Пытанне мовы ёсць прадметам сталых дыскусіяў.

палітычнай пераемнасці з мінулым і разуменне нацыі як гістарычнай супольнасці застаюцца важнымі, але ў адрозненне ад этнакультурнай канцэпцыі пераемнасць не засяроджваецца на аўтэнтычнасці. Дастаткова розныя палітычныя і сацыяльныя інстытуты могуць быць уключаныя ў «гістарычную спадчыну» нацыянальнае супольнасці (хаця каштоўнасць асобных масіваў досведу актыўна дэбатуецца). Гэта дазваляе спалучаць традыцыйныя элементы спадчыны (ВКЛ, Полацкае княства, БНР) з больш амбівалентнымі ў сэнсе палітычнага і культурнага развіцця – існаванне БССР, міжваеннай Польшчы і нават Расійскай імперыі ды пад.

***Дзяржаўна-палітычная канцэпцыя.*** Канцэпцыя, у аснове якой ляжыць разуменне нацыі як грамадзянаў (*насельніцтва*) Рэспублікі Беларусь. Асноўнымі палітычнымі інстытутамі выступаюць дзяржава, савецкая культурная і палітычная пераемнасць ды этнаграфічныя асаблівасці. Траплянне канцэпцыі ў лік чатырох асноўных звязанае ў значнай ступені з дзяржаўнаю замоваю, якая стымулюе выданне разнастайнай друкаванай прадукцыі ў межах «ідэалогіі беларускай дзяржавы», што значна ўплывае на змест[29]. Канцэпцыя ёсць, напэўна, у большай ступені размытаю і сітуатыўнаю, чым іншыя. Характэрныя прыклады: Белорусская модель…, 2003: асабліва с. 3–8, 46–50; Мельник, 2007.

Апісанне перадгісторыі дзяржаўна-палітычнай канцэпцыі можа быць дыскусійным. Гэтая канцэпцыя – дастаткова новы феномен, аформлены ва ўмовах незалежнасці, хаця часткова яго можна лічыць працягам савецкага рэспубліканскага патрыятызму (народ БССР), ідэі «савецкага народу» і нават «тутэйшасці» як стратэгіі пазбягання дакладнай культурнай ідэнтыфікацыі[30]. Канцэпцыя мела пэўную рэпрэзентацыю на пачатку 1990-х гг., асабліва ў палітычных тэкстах, дзе дэзарыентаваная эліта спрабавала адаптавацца да новай культурнай і палітычнай сітуацыі. У 1994 г. канцэпцыю пасунуў русацэнтрызм, які ў гэты перыяд можна лічыць афіцыйнай ідэалогіяй (Казакевіч, 2005: 132–133). Сапраўдны ўсплёск прадстаўленасці дзяржаўна-палітычнай канцэпцыі ў палітычным і культурным полі адбываецца пасля 2003 г., калі быў ініцыяваны праект «ідэалогіі беларускай дзяржавы».

З аднаго боку, канцэпцыя фармальна набліжаецца да «чыстага» грамадзянскага нацыяналізму: у нацыю ўключаецца ўсё насельніцтва пэўнай тэрыторыі незалежна ад

[28] Пытанне мовы ёсць прадметам сталых дыскусіяў.

[29] Апісанне працэсу стварэння ідэалогіі беларускай дзяржавы гл.: Казакевіч, 2007. Пра інтэлектуальны кантэкст гл.: Казакевіч, 2004.

[30] Гэтае пытанне прадуктыўна абмяркоўвалася на даследчым семінары часопісу «Палітычная сфера» ў 2008 г.

паходжання, рэлігіі, культуры і г.д. Праўда, такі прынцып ёсць тэарэтычным і практычна не мае рэальнага ўвасаблення[31]. З другога боку, у межах дзяржаўна-палітычнай канцэпцыі прынцып «грамадзянства» вельмі рэдка цалкам вытрымліваецца ў рамках асобных тэкстаў, калі аўтары ад дэкларацыі чыстага прынцыпу пераходзяць да дэталяў[32]. Часта сапраўднымі грамадзянамі могуць у выніку быць толькі ўсходнія славяне ці «свае», вызначаныя паводле іншых крытэрыяў (палітычная лаяльнасць, прыналежнасць да дамінантнай мадэлі паводзінаў). Напрыклад, каталікі, палякі і прыхільнікі апазіцыі часта выступаюць «не зусім сваімі». Акрамя таго, дзяржаўна-палітычная канцэпцыя не ёсць культурна нейтральнаю, нават калі гэта фармальна дэкларуецца. Дакладней, яе нейтральнасць зазвычай заключаецца ў дыстанцыі ад беларускай культуры, у той час як савецкі і ў пэўнай ступені расійскі кантэкст відавочна мае вялікае (не нейтральнае) значэнне[33].

У адрозненне ад іншых канцэпцыяў, дзе розныя элементы маюць адносна раўназначны статус, публічныя інстытуты нацыі ў дзяржаўна-палітычнай канцэпцыі ўтвараюць выразны цэнтр (дзяржаву) і перыферыю з іншых, значна менш істотных элементаў.

Такім чынам, цэнтральным публічным інстытутам ёсць *дзяржава* як улада, сукупнасць дзяржаўных органаў. Дзяржава ў канцэпцыі – пераважна прасторавае ўтварэнне, часавая рэпрэзентацыя (гістарычная пераемнасць) акрэсленая адносна слаба. Дзяржава ў канцэпцыі – тэрыторыя, а таксама ўлада, якая дамінуе над гэтаю тэрыторыяй (Казакевіч, 2005: 138). У гэтых аспектах заўважнае некаторае адрозненне ад «звычайнай» грамадзянскай нацыі, асноўны сэнсавы цяжар тут прыпадае на дзяржаўныя органы, а не супольнасць грамадзянаў.

Як і любая «грамадзянская» канцэпцыя нацыі, дзяржаўна-палітычная канцэпцыя не ёсць культурна нейтральнаю. Дадатковым культурным інстытутам выступае *савецкая палітычная і культурная пераемнасць*. Савецкасць і савецкае мінулае разглядаюцца не толькі як нармальнае, але і як каштоўнае. Падкрэсліваецца пераемнасць у сацыяльным ладзе, развіцці эканомікі. Палітычны лад БССР разглядаецца як крыніца каштоўнага досведу і пачатак дзяржаўнасці. Асобныя гістарычныя падзеі савецкага перыяду культывуюцца як цэнтральныя ў гісторыі нацыі. Але акрамя Вялікай Айчыннай вайны і некаторых фрагментаў савецкай гісторыі, цэласная візія мінулага адсут-

---

31 Гэты прынцып у поўнай ступені не выконваецца нават у краінах, заснаваных на вонкавай эміграцыі: ЗША, краіны Лацінскай Амерыкі, Аўстралія і г.д.

32 Паказальны прыклад: Мельник, 2007.

33 Такая стратэгія ў пэўнай ступені была ўласцівая савецкай традыцыі, калі ў межах адной канцэпцыі спалучаліся супярэчлівыя рэчы: дыктатура і дэмакратыя, гуманізм і гвалт, суверэнітэт і падпарадкаванне цэнтру і пад. Гэта робіць канструкцыю супярэчліваю, але і гнуткаю.

нічае. Як частку савецкае пераемнасці можна адзначыць нармалізацыю русіфікацыі ды нават «патрыятычнае» стаўленне да былой імперыі (СССР).

У тым ці іншым варыянце канцэпцыя вымушаная вырашаць пытанне беларускай культуры. Нельга сказаць, што тут існуе кансенсус, але звычайна яно вырашаецца ў форме *этнаграфічнай асаблівасці*. Існаванне і пэўная каштоўнасць беларускай культуры не адмаўляюцца, але яна інтэрпрэтуецца галоўным чынам як этнаграфічная, фальклорная з'ява. Адпаведна, сацыяльная прастора такой культуры мусіць абмяжоўвацца асобнымі сферамі: гісторыя, літаратура і г. д. Выхад этнаграфічнай культуры (мовы) за межы вызначаных сфераў разглядаецца як нязвыклы, ненармальны або як праява «нацыяналізму».

***Русацэнтрызм***[34]. Канцэпцыя нацыі, у аснове якой ляжыць ідэя адзінага *рускага народу*, які складаецца з велікарусаў, маларусаў (украінцаў) і беларусаў[35]. У пэўнай ступені існуе праблема, наколькі гэтую канструкцыю можна адносіць да канцэпцыі *беларускай* нацыі. Асноўная праблема палягае ў тым, што «цэнтр» супольнасці (народу, нацыі) выносіцца за межы Беларусі, што ставіць канцэпцыю ў падвоеную сітуацыю (Казакевич, 2005: 21). Характэрныя прыклады: Криштапович, 1999; Трещенок, 2006; Трещенок, 2002.

Звычайна беларускія русацэнтрысты дакладна не прапісваюць канструкцыі, але паўтараюць формулы пра «трыадзінства» і «рускі суперэтнас». Гэтыя структуры не ёсць празрыстымі ды стабільнымі ў тым, што датычыць вызначэння канкрэтнай канфігурацыі адносінаў паміж складнікамі. Таму пытанне, пра якую нацыю ідзе размова, застаецца адкрытым. Публічнымі інстытутамі звычайна выступаюць «саюзная дзяржава», руская культура (цывілізацыя) і этнаграфічныя (рэгіянальныя) асаблівасці, рускае паходжанне.

Русацэнтрызм у Беларусі – дастаткова старая канцэпцыя, як палітычная з'ява яна канчаткова сфармавалася да сярэдзіны XIX ст. у выглядзе заходнерусізму (Цьвікевіч, 1993). Часткова гэта была плынь у асяроддзі выхадцаў з Беларусі, але таксама афіцыйныя практыкі імперскіх уладаў пасля паўстання 1863–1864 гг. для «абрусення» краю. Адзіны падыход імперскіх уладаў і навукоўцаў да пачатку XX ст. так і не быў выпрацаваны. Беларусы маглі прызнавацца асобным племенем ці народнасцю, а маглі лічыцца «тымі ж рускімі»[36].

Пасля ўсталявання савецкай улады заходнерусізм прызналі праявай расейскага «вялікадзяржаўнага шавінізму», і ён страціў афіцыйны статус, але логіка гэтай канцэпцыі аднавілася ў 1930-я гг. у форме новай савецкай ідэалогіі, заснаванай на русацэнтрызме. На пачатку 1990-х гг. русацэнтрызм у Беларусі аформіўся ў новым выглядзе – як пэўнае спа-

34 Магчымыя альтэрнатыўныя назвы: панрусізм, заходнерусізм.

35 Часам да гэтага шэрагу дадаюцца «русіны».

36 Агляд на канец XIX ст. гл. у прыватнасці: Пыпин, 1892: 3–4. Адмаўленне звычайна сыходзіла з афіцыйных колаў, у той час як для этнографаў, лінгвістаў ды інш. наяўнасць асобнага «народу» было «навуковым фактам». Гэтую сітуацыю добра адлюстроўвае выказванне М. Мураўёва ў 1864 г.: «Бедственная идея о разъединении

лучэнне савецкага русацэнтрызму, расійскага нацыяналізму і спробаў аднавіць заходнерусізм XIX ст. Пасля 1994 г. і да пачатку 2000-х русацэнтрызм зрабіўся фактычна афіцыйнай ідэалогіяй і быў пасунуты толькі ў выніку «ідэалагічнага павароту», які адбыўся пасля 2001 г. (Казакевіч, 2005: 132). Пасля гэтага роля канцэпцыі імкліва падала, і цяпер яна ёсць, як падаецца, перыферыйнаю.

*Саюзная дзяржава* ёсць асноўным палітычным інстытутам канцэпцыі. У звязку з тым, што сама супольнасць *рускі народ* не ўкладаецца ў культурныя і сацыяльныя межы Беларусі, то і суверэнітэт патрабуе вонкавага цэнтру. Саюзная дзяржава мусіць аб'ядноўваць увесь *народ*, хаця яго часткі могуць мець тэрытарыяльную аўтаномію. «Саюз» функцыянуе хутчэй не толькі як палітычная праграма, але як сімвал ды ідэал. Ён больш важны, чым яго складнікі. Такое разуменне дзяржаўнага суверэнітэту вельмі падобнае да савецкай мадэлі федэрацыі, дзе рэспублікі прызнаваліся незалежнымі суб'ектамі, але пры гэтым былі пад непасрэдным кантролем цэнтру. Зрэшты, СССР аўтары канцэпцыі звычайна разглядаюць як удалую і ўзорную мадэль «саюзнай дзяржавы».

Аналагічная логіка вызначае стаўленне да культуры. *Руская культура (цывілізацыя)* як публічны інстытут ёсць не толькі важнаю, але і значна больш каштоўнаю за рэгіянальныя версіі. Пры гэтым тэарэтычна руская культура можа адрозніваецца ад велікарускай, але на практыцы (ці на ўзроўні дэталяў) яны тоесныя. Адпаведна праваслаўем можа быць толькі рускае праваслаўе і г.д. Больш за тое, праявы лакальнасці часта разглядаюцца як пагроза цэласнасці і сепаратызм[37]. Калі ў этнакультурнай канцэпцыі расійская культура адназначна ўспрымаецца як *чужая*, у дзяржаўна-палітычнай яна ёсць нормаю, а ў культурна-палітычнай адбіраюцца толькі часткі, звязаныя з беларускім *кантэкстам*, то для русацэнтрызму гэта значная і бясспрэчная каштоўнасць. Працэс русіфікацыі адпаведна выступае не проста як нармальная з'ява, але і выключна пазітыўная, якая спрыяе культурнай і палітычнай інтэграцыі рускага народу і развіццю яго цывілізацыі.

*Этнаграфічныя (рэгіянальныя) асаблівасці* не адмаўляюцца, але ім адводзіцца перыферыйнае месца. Гэта падмацоўваецца дастаткова крытычным стаўленнем да беларускай мовы, культурнай традыцыі, асабліва калі яна ўключае «нярускія» і неправаслаўныя элементы. Такім чынам, каштоўнымі для *рускага на-*

народностей в России, введении малорусского, белорусского и иных наречий уже глубоко проникла в общественные взгляды. Необходимо положить этому твердую преграду и вменить министру народного просвещения в обязанность действовать в духе единства России, не допускать в учебных заведениях развития противных тому идей» (цыт. паводле: Комзолова, 2005: 107).

37 Напрыклад, можа не прызнавацца існаванне асобнай беларускай мовы, пры гэтым літаратурная мова характарызуецца як «штучная», «чужая» і «непатрэбная», хаця такую пазіцыю выказваюць толькі найбольш радыкальныя аўтары – і звычайна ў тэкстах (прамовах), накіраваных на расійскую публіку.

*роду* выступаюць этнаграфічныя і рэгіянальныя асаблівасці як праява яго культурнага багацця, але шырокае функцыянаванне гэтых адрозненняў у соцыуме хутчэй стварае пагрозу цэласнасці. У такой сітуацыі савецкая мадэль этнаграфізацыі нацыянальных культураў і абмежаванне іх пэўнымі сферамі (літаратура, гуманітарныя навукі) разглядаюцца як пажаданыя. У радыкальных версіях не адмаўляецца і магчымасць поўнай асіміляцыі (інтэграцыі).

Канцэпцыя акрэслівае беларусаў як частку *рускага народу*, які ў сваёй аснове ёсць этнічным утварэннем, дзе важнае значэнне мае этнічнае паходжанне і рэлігійная прыналежнасць. Агульнае паходжанне вызначае натуральныя межы рускага народу, а таксама палітычныя, культурныя і сацыяльныя рамкі супольнасці. Што датычыць дэталяў, то паміж аўтарамі няма кансенсусу. Як у расейскім крайнім нацыяналізме, можна назіраць і тэндэнцыю на этнізацыю, і імкненне да надэтнічнай імперскасці.

## Некаторыя высновы

Праведзенае даследаванне паказвае адносную разнастайнасць канцэпцыяў нацыі ў беларускім інтэлектуальным і палітычным полі, прынамсі ў святле стэрэатыпаў пра гамагенную *ідэю нацыі* ў сфармаваных нацыянальных супольнасцях, да якіх беларусы відавочна належаць[38].

Вызначаны ў даследаванні крытэрый значнасці змаглі прайсці чатыры канцэпцыі, якія маюць гісторыю, а таксама інтэлектуальныя і (каля) палітычныя асяродкі: этнакультурная, культурна-палітычная, дзяржаўна-палітычная і русацэнтрычная. Кожную канцэпцыю можна лічыць важнаю для разумення развіцця беларускага грамадства (ці прынамсі беларускага інтэлектуальнага поля) ва ўмовах незалежнасці. Пры гэтым у гістарычнай перспектыве назіраецца паступовае павелічэнне значнасці «палітычных» канцэпцыяў, у той час як этнічная і асабліва русацэнтрычная выціскаюцца на перыферыю.

Атрыманыя вынікі відавочна адлюстроўваюць некаторыя істотныя працэсы нацыянальнага развіцця, хаця іх дакладнае апісанне патрабуе далейшага даследавання. Таксама варта памятаць, што рэальны ландшафт канцэпцыяў нацыі можа скажацца рознымі фактарамі. Напрыклад, колькасць тэкстаў і аўтараў можа сведчыць не пра рэальную папулярнасць ідэяў сярод інтэлектуалаў і палітыкаў, а пра павышаную актыўнасць яе прыхільнікаў. На колькасць тэкстаў і адпаведна іх змест таксама могуць уплываць фактар дзяржаўнае замовы ці грантавая палітыка, але, на нашую думку, такія «скажэнні» не мусяць парушаць асноўнай структуры інтэлектуальнага поля, калі браць яго ў маштабе дваццацігадовага перыяду. Больш за тое, пасля вызначэння структуры самі «скажэнні» могуць зрабіцца цікавым прадметам вывучэння, які дазволіць больш дакладна зразумець асаблівасці функцыянавання *ідэі нацыі* ды нацыянальнай *тоеснасці* ў сучаснай Беларусі.

[38] Хутчэй за ўсё, стэрэатып не адпавядае рэчаіснасці ў дачыненні большасці сучасных нацыяў.

**Литература**


1. Brzozowska, A. *Symbols, Myths, and Metaphors: the Discursive Battle Over the 'True' Belarusian Narrative* // Slovo. Spring 2003. Vol. 15. № 1. P. 49–58.
2. Grosby, S. *Biblical Ideas of Nationality, Ancient and Modern* // Eisenbrauns. Winona Lake, 2002.
3. Hart, J. *Nineteenth-Century Social Reform: A Tory Interpretation of History* // Past and Present. 1965. № 31. P. 39–61.
4. Ioffe, G. *Culture Wars, Soul-Searching, and Belarusian Identity* // East-European Politics and Societies. 2007. Vol. 21. № 2. P. 348–381.
5. King, D.S. *The establishment of work – welfare program in the United States and Britain: Politics, ideas, and institutions* // Sven Steinmo (ed.). Structuring politics. Historical institutionalism in comparative analysis. Cambridge University Press, 1994. P. 217–250.
6. Leshchenko, N. *A fine instrument: two nation-building strategies in post-Soviet Belarus* // Nations and Nationalism. 2004. № 10 (3). P. 333–352.
7. Lovejoy, A.O. *The Great Chain of Being. A Study of the History of an Idea.* Cambridge, 2001. P. 3–23.
8. Parris, H. *The Nineteenth-Century Revolution in Government: A Reappraisal Reappraised* // The Historical Journal. 1960. Vol. 3. № 1. P. 17–37.
9. Pershai, A. *Questioning the Hegemony of the Nation State in Belarus: Production of Intellectual Discourses as Production of Resources* // Nationalities Papers. 2006. Vol. 34. № 5. P. 623–635.
10. Rudkouski, P. *Bialoruska idea narodowa w XXI wieku.* Lublin, 2008.
11. Sherry, S. *What's law got to do with it?* // Perspectives on Politics. 2004. № 2 (4). P. 769–775.
12. Skinner, Q. *Some Problems in the Analysis of Political Thought and Action* // Political Theory. 1974. Vol. 2. № 3. P. 277–303.
13. Skinner, Q. *Visions of Politics. Volume I: Regarding Method.* University of Cambridge, 2002.
14. Skinner, Q. *Visions of politics. Volume III: Hobbes and Civil Science.* Cambridge University Press, 2002.
15. Snare, C.E. *Windows of Opportunity: When and How Can the Policy Analyst Influence the Policymaker During the Policy Process* // Review of Policy Research. 1995. Vol. 14. Issue 3–4. P. 407–430.
16. Weir, M. *Ideas and the politics of bounded innovation* // Sven Steinmo (ed.) Structuring politics. Historical institutionalism in comparative analysis. Cambridge University Press, 1994. P. 188–216.
17. *Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня.* СПб. : Невский простор, 2003.
18. Бабкоў, І. *Этыка памежжа: Транскультурнасць як беларускі досьвед* // Фрагменты. 1999. № 1–2. С. 75–88.
19. Бабосов, Е.М. *Идеология белорусской государственности – идеология единения. Идеология белорусской государственности: проблемы теории и практики.* Мн., 1998.
20. Багдановіч, М. *Беларускае адраджэнне.* Мн. : Універсітэцкае, 1994.
21. *Беларуская думка ХХ стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура.* Варшава, 1998.
22. *Белорусская модель развития: механизм реализации* / Под ред. Е.В. Матусевич.

Мн. : ИСПИ, 2003.
23. Вішнеўская, І.У. *Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі*. Мн. : Тэсей, 2004.
24. Гансэн, І. *Прастора беларускага палітычнага дыскурсу і яго візуальныя і пэрфарматыўныя элемэнты* // Геапалітычнае месца Беларусі ў Эўропе і сьвеце. Варшава, 2006. С. 121–133.
25. Глушаков, В.Е. *Вызов времени: Беларусь на пороге тысячелетий*. Мн. : БЕЛБИЗНЕСПРЕСС, 1999.
26. Гужон, А. *Национализм и идентичность в Белоруссии* [Электронный ресурс] // Франко-российский научный альманах. 2007. № 1. Режим доступа: http://www.centre-fr.net/IMG/pdf/Almanach1GoujonRU.pdf
27. Дубавец, С. *Падставы рацыянальнага нацыяналізму* [Электронны рэсурс] // Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня. СПб., 2003. Рэжым доступу: http://baj.by/belkalehium/antalohija/art10.htm
28. Казакевич, А. *Про колонию* // Перекрёстки. 2005. № 3–4. С. 17–27.
29. Казакевіч, А. *Беларуская сістэма: марфалогія, фізіялогія, генеалогія* // ARCHE. 2004. № 4. С. 51–84.
30. Казакевіч, А. *Культурны фон беларускай палітыкі* // Найноўшая гісторыя беларускага парламентарызму. Мн., 2005. С. 132–146.
31. Казакевіч, А. *Ідэалагічная інфраструктура беларускае палітыкі* // Беларуская палітычная сцэна і прэзідэнцкія выбары 2006. Мн., 2007. С. 44–60.
32. Комзолова, А. *Политика самодержавия в Северо-западном крае в эпоху Великих реформ.* М., 2005.
33. Конан, У. *Беларуская нацыянальная ідэя: гістарычныя аспект і сучасныя праблемы* // Беларуская думка XX стагоддзя: філасофія, рэлігія, культура. Варшава, 1998.
34. Криштапович, Л.Е. *Белоруссия и русская цивилизация*. Мн., 1999.
35. Крывальцэвіч, М. *Археалёгія і палітыка* [Электронны рэсурс] // Шуфляда. 1999. № 1. Рэжым доступу : http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/szuflada/01/01pub_kryvalcevicz.htm.
36. Ластоўскі, В. *Што трэба ведаць кожнаму беларусу*. Мн., 1991.
37. Лёсік, Я. *Творы*. Мн. : Мастацкая літаратура, 1994.
38. Луцэвіч, А. *Да гісторыі беларускага руху*. Мн. : Беларускі кнігазбор, 2003.
39. Лыч, Л. *Беларуская нацыя і мова*. Мн. : Мастацкая літаратура, 1994.
40. Мангейм, К. *Диагноз нашего времени*. М. : Юрист, 1994.
41. Мацкевич, В., Егоров, А., Водолажская, Т. *Становление нации в Беларуси: от подданства к гражданству*. Серия «Беларусь для начинающих. Мн., 2008.
42. Мельник, В.А. *Государственная идеология Республики Беларусь. Концептуальные основы*. Мн. : «Тесей», 2007.
43. Нисбет, Р. *Прогресс: история идеи*. М. : ИРИСЭН, 2007.
44. Пазняк, З. *Рэвалюцыя зьнізу. Фрагмэнты выступу на Дзядах – 30 кастрычніка 1988 года – у полі за некалькі хвілін перад нападам міліцэйскіх падраздзяленняў* // Навіны Беларускага народнага фронту. 1988. № 1.
45. Пліска, М. *Кансерватызм і лібералізм* // Ад «тутэйшасці» да нацыянальнай дзяржаўнасці. Мінск, 1999. С. 18–31.
46. Пыпин, А.Н. *История русской этнографии* / А.Н. Пыпин // Белоруссия и Сибирь. Т. 4. СПб., 1892.

47. Санька, С. *«Балцкая тэма»* // Наша Ніва. 1993. № 14.
48. Санько, С. *Традыцыяналісцкі погляд на традыцыю: «прэзумпцыя аўтахтоннасьці» і «дэканструкцыя традыцыі»* // Фрагменты. 1999. № 1–2. С. 98–115.
49. Сміт, Э. *Нацыяналізм у дваццатым стагоддзі*. Мн. : Беларускі Фонд Сораса, 1995.
50. Сміт, Е. *Націоналізм*. Кіив : Видавництво «К. І. С.», 2004.
51. Трещенок, Я. *Государственная идеология и национальная идея Республики Беларусь*. Могилев: МГУ им. Кулешова, 2006.
52. Трещенок, Я.И. *Две белорусские национальные идеи (католический национал-сепаратизм и православная национальная идея)* [Электронный ресурс] // VII Международные Кирилло-Мефодиевские чтения, посвященные Дням славянской письменности и культуры: Мат-лы чтений (Минск, 22–24 мая 2001 г.). В 2 ч. Ч. 1, кн. 2 / Европейский гуманитарный ун-т, Бел. гос. ун-т культуры; отв. ред. и сост. А.Ю. Бендин. Мн. : ООО «Ковчег», 2002. Режим доступа : http://sobor.by/zametki.php.
53. Цьвікевіч, А. *Западно-руссизм. Нарысы з гісторыі грамадзкай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в.* Мн., 1993.
54. Шалькевіч, В.Ф. *Гісторыя палітычнай і прававой думкі Беларусі*. Мн. : Маладзёжнае навуковае супольніцтва, 2002.
55. Шевцов, Ю. *Объединенная нация. Феномен Беларуси*. М. : Европа, 2005.
56. Яскевич, Я.С. *Общенациональная идея современного белорусского общества: приоритеты и ценности* // Идеология белорусской государственности: проблемы теории и практики. Мн., 1998. С. 66–69.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Сяргей Богдан

# Нацыянальна-дэмакратычны праект беларускай палітыкі па версіі Зянона Пазняка, 1987–1995 гг.

Нацыянальна-дэмакратычны рух сыграў важную ролю ў палітычнай трансфармацыі Рэспублікі Беларусь у 1987–1995 гг. Для аналізу былі вылучаныя асноўныя тэмы і тэматычныя катэгорыі палітычнага праекту, сфармуляванага Зянонам Пазняком, лідэрам Беларускага народнага фронту да 1999 г. У прыватнасці разгледжаныя яго выступы і артыкулы, напісаныя ў перыяд з канца 1980-х да сярэдзіны 1990-х гг., г. зн. падчас непасрэднай палітычнай дзейнасці Пазняка ў Беларусі, што перарвалася эміграцыяй у 1996 г.

Варта адзначыць, што Пазняк паняволі зрабіўся ў пэўнай ступені ідэолагам нацыянальна-дэмакратычнага руху. У сваіх тэкстах і выступах, а таксама агульнай палітычнай дзейнасці ён паўстае ў ролі хутчэй палітыка-практыка (не абавязкова практычнага!), а не ідэолага. Зрэшты, у выніку актыўнай палітычнай дзейнасці яму было наканавана стаць для беларускага грамадства практычна ўвасабленнем нацыянальна-дэмакратычнай плыні канца 1980-х – 1990-х гг.

## I. Кантэкст: нацыянальны рух

Нацыянальна-дэмакратычны рух у Беларусі ўзнік у выніку палітызацыі створаных у 1980-я гг. нацыянальна-культурных арганізацыяў (у прыватнасці «Тутэйшых» і «Майстроўні») і актывістаў аховы культурнай спадчыны. У гэтым грамадскім руху, які абудзіўся на пачатку 1980-х гг., былі аднак свае моманты, якія істотным чынам абмежавалі ў далейшым яго масавае падтрыманне. З розных прычынаў нацыянальны рух так і не здолеў да сярэдзіны 1990-х гг. стварыць устойлівыя масавыя структуры.

Усведамленне паразы прыйшло пазней, асабліва пасля таго як апазіцыя засталася без такога мабілізацыйнага фактару, як небяспека паглынання Беларусі Расіяй. У 2001 г. філосаф Валянцін Акудовіч выступіў з тэкстам-рэфлексіяй «Без нас»: *«...Адраджэньне адмовіла рэальнай Беларусі ў хоць якой вартасьці. За патрабаваньнем вяртаньня гістарычнай спадчыны, мовы і культур-*

*нага досьведу мінулага хавалася жорсткая ідэалягічная канструкцыя, у якую ня ўпісваліся здабыткі і каштоўнасьці тагачаснага беларускага грамадзтва, бо ўсе ягоныя перамогі, плёны і радасьці мелі альбо камуністычнае, альбо каляніяльнае паходжаньне».* І як вынік: *«Краіна Беларусь жыве бяз нас»* (Акудовіч, 2001).

Сімвалічнымі пераломнымі падзеямі ў гісторыі нацыянальна-дэмакратычнага руху можна лічыць масавыя акцыі, прысвечаныя дню памяці «Дзяды» 30 кастрычніка 1988 г., звязаныя з прыходам Зянона Пазняка ў публічную палітыку. Заяўку на правядзенне шэсця і мітынгу ў гэты дзень фармальна падавала арганізацыя «Тутэйшыя», не звязаная з Пазняком. Адзін з яе актывістаў, Уладзімір Адамчык, адзначыў: *«Гэтая падзея, на маю думку, фатальная для беларускага палітычнага жыцьця. Таму што з нашых, такіх юначых няпэўных рук свабоды сьцяг перайшоў у рукі Беларускага Народнага Фронту, у рукі Зянона Пазьняка. ... гэта была памылка, якая і дагэтуль прыносіць свае наступствы»* (Аксак, 2008).

Пасля «Дзядоў» у кастрычніку 1988 г. на прапанову Пазняка стварыўся Беларускі народны фронт (БНФ), які стаў асноўнаю сілаю беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху ў 1980-я–1990-я гг. Пазняк апісаў гэтую падзею ў рамантычным стылі: *«Храм рукатворны, сьветлы і прыўкрасны, як наша зямля, ужо відаць на небаспадзе, там, за смугою аблокаў, там – куды мы йдзем, куды навобмацак вяртаецца, вандруе наш род. Засталося няшмат, але цяжкі кавалак – перайсьці праз гадзючае поле. [...] 19 кастрычніка 1988 года мы ступілі на гэтае поле. Тады быў створаны Арганізацыйны Камітэт Беларускага Народнага Фронту. І мы памятаем, як увесь тысячаголовы крывавы цмок зашыпеў, заскрыгатаў, закрычаў сваімі вогненнымі пашчамі»* (Пазьняк, 1993d).

Устаноўчы з'езд БНФ прайшоў 24–25 чэрвеня 1989 г. на тэрыторыі Літвы, у Вільні. Апроч актыўных кантактаў Пазняка з кіраўніцтвам прыбалтыйскіх дэмакратычных рухаў, такое месца правядзення з'езду ёсць яшчэ адным пацвярджэннем важнасці прыбалтыйскага, у прыватнасці літоўскага ўплыву на развіццё нацыянальна-дэмакратычнага руху ў Беларусі.

БНФ прэтэндаваў шмат на што, бо, паводле Пазняка, спачатку ён уяўляў з сябе *«канфэдэрацыю дэмакратычных людзей, асацыяцыю ўсёй нацыі супраць таталітарнай сістэмы, за дэмакратыю, адраджэньне народа, незалежнасьць»* (Пазьняк, 1991c). Зрэшты, дэмакратызм Пазняка аспрэчваўся. У прыватнасці Дэйвід Марплз кажа пра «аўтарытарны нацыяналізм» Зянона Пазняка і ранняга БНФ у адрозненне ад «умеранага нацыяналізму» Партыі БНФ Вячоркі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі Лябедзькі ці розных пераходных варыянтаў, якіх прытрымліваюцца сацыял-дэмакраты (Марплз, 2007: 95). Сапраўды, у больш позні перыяд, пасля расколу БНФ, Партыя БНФ пад кіраўніцтвам Вінцука Вячоркі стала

значна больш умеранаю, у той час як Кансерватыўна-хрысціянская партыя БНФ Пазняка захавала жорстка нацыяналістычную, кансерватыўную і пракаталіцкую ідэалогію.

Пазняк заўсёды стараўся пазбавіцца ад цэтліку «радыкала», які навязвалі яму апаненты: *«Цэнтар на беларускай палітычнай палітры даўно заняты Народным Фронтам. Правым яго называла камуністычная прапаганда, зыходзячы з прапагандысцкіх мэтаў»* (Пазьняк, 2007a: 78). Былі вызначаныя даволі асцярожныя мэты: *«Народный фронт Белоруссии поставил задачу – объединить всех для достижения трех основных задач: демократизация общества, ликвидация бюрократической системы и возрождение нации на демократической основе»* (Пазьняк, 1989a).

У далейшым кіраўнік БНФ перайшоў ад даволі безаблічнага цэнтрызму да больш кансерватыўнай пазіцыі, падкрэсліваючы зрэшты, што БНФ не карыстаецца радыкальнымі сродкамі, таму, маўляў, ёсць шырокім цэнтрысцкім рухам: *«Па сваіх палітычных дзеяньнях і імкненьнях, па поглядах ... ва ўсіх галоўных аспэктах сваёй палітычнай дзейнасьці БНФ найбольш набліжаецца да палітычнай практыкі і прынцыпаў эўрапейскай хрысьціянскай дэмакратыі, а таксама да народна-кансэрватыўных партыяў»* (Пазьняк, 1992f).

Пазняк бачыў БНФ у якасці часткі нацыянальна-дэмакратычнага руху, хоць не зусім зразумела, ці лічыў ён, што гэты рух аб'яднаны ў межах Фронту, або Фронт ёсць яго часткаю (магчыма, перадавою); якія канкрэтна партыі ды арганізацыі ўключаў у сябе гэты рух, а таксама як гэты рух суадносіўся з дэмакратычным. У прыватнасці палітык казаў пра «беларускія нацыянальна-вызваленчыя дэмакратычныя сілы», маючы на ўвазе ў тым ліку (ці нават найперш) БНФ, і ў той жа час, разважаючы пра намаганні «Народнага Фронту і ўсіх нацыянальна-дэмакратычных сілаў нашай краіны», прызнаваў наяўнасць «нацыянал-дэмакратычных сілаў» па-за межамі БНФ (Пазьняк, 1993b).

Але ў цэлым Пазняк не быў схільны прызнаваць шматаблічнасць і складанасць палітычнага спектру, а спрабаваў звесці ўсё да палярызацыі ды супрацьстаяння «мы–яны». Напрыканцы 1993 г., кажучы пра сваё супрацьстаянне ўладзе старой партыйна-савецкай наменклатуры, ён назваў «свае» сілы «сіламі нацыянальнай незалежнасці, дэмакратыі, дзяржаўнага развіцця» (Пазьняк, 2007b: 163), але не канкрэтызаваў іх складу і рамак.

Пры гэтым Пазняк быў бескампрамісны: *«...Няма ніякага сэнсу весьці спрэчкі з намэнклятурнымі камуністамі ці іх крэатурамі па праграмных палажэньнях. Гэта толькі марнаваньне часу»* (Пазьняк, 1990d). Нават пазней, у 1993 г., Пазняк ганарыўся, што БНФ *«не паддаўся намэнклятурнай палітыцы дэмакратычнай мімікрыі»* і *«не пайшоў з намэнклятурай»* (Пазьняк, 1993c).

На першым з’ездзе БНФ у чэрвені 1989 г. была прынятая праграма, якая

абвясціла асноўнымі задачамі руху барацьбу за суверэнітэт Беларусі, дэмакратызацыю ўлады, адраджэнне беларускай мовы і культуры – стандартны набор патрабаванняў для народных франтоў у нацыянальных рэспубліках Саюзу, хоць і прыняты даволі рана, практычна ўслед за балтыйскімі рэспублікамі.

Што датычыць асноўных ідэалагічных прынцыпаў, то на II з'ездзе БНФ у сакавіку 1991 г. была прынятая праграмная заява «Свабода, незалежнасць, адраджэнне». У 1993 г. Пазняк адзначаў: *«Асноўны прынцып, асноўны дэвіз нашага руху – гэта Адраджэньне ... для нас цяпер найважнейшай каштоўнасьцю зьяўляецца нацыянальная дзяржава... Калі незалежнасьць мы можам разглядаць як галоўную палітычную задачу, то Адраджэньне – гэта галоўная гістарычная задача нацыі»* (Пазьняк, 1993c).

Гэта падкрэслівае пачатковыя адрозненні ад ліберальна-дэмакратычнай платформы заходнееўрапейскага ўзору. Кажучы пра дылему паміж суверэнітэтам і правамі чалавека і сумняваючыся ў правільнасці прыярытэту правоў чалавека ў той форме, якую гэты прыярытэт набыў у той час у краінах Заходняй Еўропы, Пазняк адзначаў: *«Нельга гаварыць пра прыярытэт: альбо суверэнітэту – альбо правоў чалавека. Бо суверэнітэт – як правы ўсяго народу – гэта таксама правы чалавека ... трэба прызнаваць не прыярытэт, а парытэт, роўнасьць гэтых правоў»* (Пазьняк, 1993c).

## II. Асноўныя кампаненты: незалежнасць

Незалежнасць нязменна бачылася Пазняку галоўнаю мэтаю ягонай палітычнай місіі. Прыкладна з 1989 г. ён адкрыта змагаўся за выхад са складу СССР: *«Главные вопросы, которые объективно стоят теперь перед республиками СССР, – это вопросы национального возрождения и национальной независимости. Еще полтора года назад ситуация была иной. Национальное возрождение воспринималось как составная часть демократизации общества ... Но прошло время и стало ясно, что коренного изменения функций партийного сверхгосударства не предвидится»* (Пазьняк, 1989b).

Знаходзячыся ў савецкім кантэксце, Пазняк не пазбег яго ўплыву, яркімі сведчаннямі чаго ёсць цытаты і спасылкі на Леніна (Пазьняк, 1988a), развагі пра «прагрэсіўнасць» працэсу (Пазьняк, 1989b), а таксама іншыя запазычанні з ідэалогіі ды рыторыкі савецкага рэжыму. Пераломным у адыходзе ад вонкавай мімікрыі быў 1990 г. *«І ў Праграме, і ў Статуце БНФ адзначаны галоўныя мэты руху: стварэньне дэмакратычнага грамадзтва ў Беларусі, дасягненьне "рэальнага суверэнітэту" Рэспублікі і адраджэньне беларускай нацыі [...] Ілюзорнасьць меркаваньня аб суверэнітэце ў складзе СССР пацьвярджаюць ня толькі лёгіка і здаровы сэнс, але, перш за ўсё, гісторыя "краіны Саветаў"...»* (Пазьняк, 1990d).

Пазняк вылучаў і нібыта рацыянальныя аргументы на карысць незалежнасці: *«Гэта імперыя, гэта Савецкі Саюз, які абдзірае ўсе рэспублікі [...] Што мы атрымалі ад іх з-за Чарнобыля? [...] Мы ня маем нічога. Мы маем Чарнобыль і свае рукі. Таму – пакуль ня будзе незалежнасьці, мы ніколі не падымемся з каленяў»* (Пазьняк, 1991a).

З установкаю на незалежнасць звязвалася і чарнобыльская праблематыка: *«Чарнобыльская трагедыя зьяднала ў адно ўсе нашыя беды, усе нашыя праблемы – экалягічныя, эканамічныя, палітычныя, культурныя, маральныя – і паставіла пытаньне рубам: альбо мы памрэм як народ, як нацыя, як культура ў складзе СССР, альбо выратуемся праз незалежнасьць, праз выхад з СССР і аднаўленьне суверэннай Беларускай дзяржавы»* (Пазьняк, 1990d).

Пазней, пасля абвяшчэння суверэнітэту, ён патрабаваў умацоўваць суверэнітэт і быў упэўнены, што сапраўдная незалежнасць яшчэ не дасягнутая: *«У нашых жа варунках акт незалежнасці Беларусі ў асноўным ніхто не заўважыў і не зразумеў, у тым ліку і самі вярхоўныя заканадаўцы ... на сённяшні дзень Дэкларацыя — пустая паперка, не больш»* (Пазьняк, 1990e).

Лідэр БНФ нястомна казаў пра патрэбу замацаваць незалежнасць і ў 1990-я гг., пасля распаду СССР: *«На наш погляд, для ўмацаваньня незалежнасьці неабходна было зрабіць наступныя пераўтварэньні: ажыцьцявіць рэформу ўлады (ліквідаваць саветы і перайсьці на муніцыпальную сістэму кіраваньня); ажыцьцявіць рэформу эканомікі на рыначнай аснове; адрадзіць нацыянальную культуру і нацыянальную сьвядомасьць; стварыць інстытуты дзяржаўнай незалежнасьці»* (Пазьняк, 1992f).

## III. Бачанне незалежнай дзяржавы

У ліпені 1990 г. Пазняк заявіў, што акрамя дасягнення незалежнасці найважнейшаю мэтаю Народнага фронту ёсць будаўніцтва дэмакратычнага грамадства і рэспублікі: *«Гэтай задачы БНФ прысьвяціў асноўную дзейнасьць ... Без дэмакратычнага грамадзтва ў нашых варунках немагчымая і незалежнасьць, і адраджэньне нацыі і культуры, бо існуючы рэжым у БССР самы рэакцыйны, антынародны і антыдэмакратычны, а ў намэнклятурнай верхавіне – нават антысацыяльны»* (Пазьняк, 1990d).

На той момант «незалежнасць» і «дэмакратыя» ў тэкстах Пазняка былі практычна нераздзельныя. *«Перад цяперашнім пакаленьнем грамадзянаў Беларусі стаіць вялікая гістарычная задача – стварыць незалежную дэмакратычную Беларускую Рэспубліку»* (Пазьняк, 1990a). Гэтая задача амаль не закранала катэгорыяў этнічнага нацыяналізму і часам мела падкрэслена грамадзянскую накіраванасць.

*«Толькі ў перабудове, толькі ў дэмакратычнай Беларусі будзе існаваць свабода і роўныя правы для*

*ўсіх нацыянальнасьцяў. Таму трэба змагацца разам за перабудову, за нашу будучыню [...] Усе мы – Нацыя, ня будзем забывацца пра гэта. І рускія, і яўрэі, і палякі, і татары – усе»* (Пазьняк, 1988b).

У той жа час Пазняк казаў пра *«Беларускую рэспубліку»* (Пазьняк, 1990b; 1990c; 1990f), падкрэсліваючы нацыянальны беларускі характар будучай дзяржавы, і нязменна адмаўляў сацыялістычную савецкую дзяржаўнасць з яе дыктатураю пралетарыяту ў якасці ідэалагічнага прынцыпу: *«Гісторыя ж БССР паказала, што дзяржава, у аснову якой пакладзеныя не нацыя і нацыянальная воля аб'яднаных грамадзянаў, а класавыя прыкметы, фальшывыя сацыяльныя ілюзіі і ўтапічная ідэалагічная дактрына, – такая дзяржава абарочваецца супраць людзей, глуміць культуру, зямлю і народ, такое гаспадарства ня можа быць дэмакратычнай гуманнай рэспублікай»* (Пазьняк, 1990a).

З незалежнасцю звязваў ён і развязанне сацыяльных праблемаў: *«Нацыянальная дзяржаўная незалежнасьць – гэта становішча ў грунце сваім сацыяльнае, якое аб'ядноўвае ўсё насельніцтва нацыі»* (Пазьняк, 1990d). У той жа час Пазняк нязменна, абмяркоўваючы практычна любую праблему, падкрэсліваў асноватворны характар чынніка нацыянальнай свядомасці: *«Без нацыянальнай сьвядомасьці ўвогуле немагчымае стварэньне нацыянальнай дзяржавы. Без унівэрсальнасьці нацыянальнай мовы траціцца гісторыя, не разьвіваецца культура грамадзтва, вышэйшай формай якой зьяўляецца, ізноў жа, стварэньне нацыянальнай дзяржавы»* (Пазьняк, 1992b).

## IV. Адраджэнне

Пазняк шмат пісаў пра дэнацыяналізацыю як ключавую праблему беларускага грамадства (Пазьняк, 1990d). Яе пераадоленне звязанае з «адраджэннем», ключавым кампанентам палітычнага праекту Пазняка. Як адзначаў лідэр Фронту, *«невыпадкова БНФ называецца "Адраджэньне". Без адраджэньня нацыянальнай супольнасьці – сьвядомасьці, беларускай мовы, культуры, гістарычнай памяці, беларускай школы, рэлігіі – ніякая свабода недасягальная, ніякія рэформы нерэальныя, ніякага паляпшэньня жыцьця ня будзе»* (Пазьняк, 1991c).

Часам панятак «Адраджэнне» зводзіўся да вузейшага панятку падкрэслена культурнага характару: *«Каб забясьпечыць разьвіцьцё рынкавых рэформаў і стабільнае існаваньне пэўнага цывілізаванага стану грамадзтва, павінен быць адпаведны ўзровень культуры, заснаванай на адзінстве традыцыяў, нацыянальнай сьвядомасьці, гісторыі і мовы [...] Аднаўляць адзінства культуры вымушаны былі шмат якія эўрапейскія народы, што па прычыне гістарычных абставінаў і катастофаў трапілі ў неспрыяльныя ўмовы існаваньня [...] Шлях адзін – нацыянальна-культурнае адраджэньне, якое адбывалася спосабам паскоранага разьвіцьця (паскарэньня), дзе галоўнай задачай было аднаўленьне ўнівэрсальнасьці нацыянальнай мовы»* (Пазьняк, 1992a).

Між тым, гістарычныя задачы мелі на ўвазе нешта большае, чым проста культурныя і моўныя аспекты. Сапраўды, іншым разам Пазняк куды шырэй трактаваў паняцце «Адраджэння» і адзначаў: *«...Беларускае Адраджэньне – гэта ўнівэрсальны, глыбока дэмакратычны, антыталітарны рух, які абыймае ўсе грамадзкія працэсы (палітычныя рэформы, эканоміку, культуру, сацыяльныя пытаньні, экалёгію, войска) і накіраваны на стварэньне нацыянальнай незалежнай дэмакратычнай і прававой дзяржавы»* (Пазьняк, 1992е). Таму цалкам лагічна, што палітык казаў увогуле пра *«беларускае нацыянальна-дэмакратычнае Адраджэньне»* (Пазьняк, 2007с: 116).

Зрэшты, гэтыя паняцці заставаліся не цалкам размежаванымі і ў рыторыцы самога Пазняка, бо перыядычна ён зноў казаў толькі пра «нацыянальна-культурнае адраджэнне» (Пазьняк, 1993d) і спрабаваў звесці іншыя пытанні да культурных: *«Возрождение Республики необходимо начинать по двум направлениям – экономики и культуры, памятуя, что основой всякой экономики является культура общества в самом широком смысле слова [...] Начинать в культуре надо с национальной школы, национального языка, истории, религии и информации»* (Пазьняк, 1992с).

Тым не менш, ёсць усе падставы не зводзіць сэнсу канцэпцыі Адраджэння ў поглядах Пазняка толькі да культурнай сферы, ці нават у першую чаргу да культурнай сферы. Гэта больш маштабная і шматбаковая ідэалагічная канструкцыя, якая прадугледжвае карэнную перабудову ўсяго грамадства і дзяржавы. Пры гэтым канцэпцыя Адраджэння, якая спачатку сапраўды артыкулявалася як культурна-моўная, фактычна непазбежна мусіла ператварыцца ў фундаментальную палітычную ідэалогію. Гэта адбылося як у звязку з прыходам яе носьбітаў у «вялікую палітыку» – пераходам да масавых акцыяў, абраннем у парламент і г. д. – і з іхнаю гатоўнасцю палітызаваць пытанні мовы, культуры ды ідэнтычнасці, так і – самае галоўнае – у звязку з гатоўнасцю кіроўнай эліты таксама зрабіць гэтыя пытанні палітычнымі і ў выніку пайсці на размежаванне не толькі паводле палітычнай або ідэалагічнай прыметы, але і паводле моўнай і культурнай, г. зн. фактычна пагадзіцца на раскол нацыі.

Сапраўды, канцэпцыя Адраджэння ў палітычным праекце Пазняка і нацыянальна-дэмакратычнага руху імкліва развівалася ў бок пашырэння і паглыблення яе палажэнняў, і ў сілу аб'ектыўных акалічнасцяў, паказаных вышэй, не магла захоўваць толькі культурна-моўную накіраванасць. У гэтым яе адрозненне ад паняцця «Адраджэння» ў канцэпцыях беларускіх грамадскіх дзеячаў першай паловы XX ст. У той жа час неабходна адзначыць пераемнасць Пазняка і ранейшай «адраджэнскай» традыцыі, бо спачатку Пазняк таксама прытрымліваўся вузейшай, «культурнай» трактоўкі (падобна да поглядаў ідэолагаў беларускіх нацыянальных арганізацыяў першай паловы XX ст.) і толькі потым, па меры ўцягвання ў практычную палітыку, паступова пе-

рапрацоўваў канцэпцыю. Гэта сведчыць пра наяўнасць пэўнай (хоць і ўскоснай) пераемнасці ў развіцці беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху.

Несумненна, праблема выяўлення часовых і прасторавых адпаведнікаў канцэпцыі «Адраджэння» яшчэ далёкая ад яснасці, але характэрна, што ўжо ў эміграцыйны перыяд ягонай дзейнасці ў кнізе Пазняка «Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня» (Пазьняк, 2007) гаворыцца пра беларускую «нацыянальную рэвалюцыю» 1991 г. (Пазьняк, 2007: 6, 53).

Асобна трэба адцеміць этатысцкія тэндэнцыі ў ягоным бачанні шляхоў ажыццяўлення «Адраджэння». На думку Зянона Пазняка, *«высокая культура, мастацтва, літаратура, друк і ўсё, што зьвязана з культурна-нацыянальным Адраджэньнем і разьвіцьцём, – гэта клопат грамадзянскай супольнасьці і дзяржавы. Дзяржава павінна падтрымліваць, фінансаваць нацыянальна-культурнае Адраджэньне, праводзіць дзяржаўную палітыку ў галіне разьвіцьця нацыянальнай культуры [...] Культура ня можа існаваць без датацыяў, толькі сама з сябе»* (Пазьняк, 1992a).

## V. Мова

Беларускі рух канца XX ст. надзвычай вялікую ўвагу надаваў нацыянальнай мове. Пазняк рэзка выступаў супраць увядзення расійскай мовы ў якасці другой дзяржаўнай (магчымасць увядзення абмяркоўвалася на пачатку 1990-х гг.), тлумачачы гэта монаэтнічнасцю краіны і некарэнным паходжаннем расійцаў Беларусі: *«Дзьве мовы для аднаго народа – поўны абсурд»* (Пазьняк, 1992b).

У другой палове 1992 г. пры абмеркаванні праекту Канстытуцыі парламенцкая фракцыя «Беларусь», якая падтрымлівала прэм’ера Кебіча, і прадстаўнікі ветэранаў у Вярхоўным Савеце прапанавалі вынесці на рэферэндум шэраг канстытуцыйных пытанняў, у прыватнасці пытанні пра дзяржаўны лад і дзяржаўнасць расійскай мовы. Пярэчачы ім, лідэр БНФ заявіў, што такія пытанні на рэферэндум выносіць нельга: *«Мовай не распараджаецца адно пакаленьне. Мова – важнейшая зьява, чыньнік і сродак культуры. Яна належыць гісторыі, сучаснасьці і будучыні. Яе працяг у вечнасьці, і ніхто ня мае права спыніць гэты працяг, а толькі спрыяць. Гэта вышэйшы маральны закон культурнага існаваньня, замацаваны ў шматлікіх традыцыях і законах»* (Пазьняк, 1992a).

У той жа час Пазняк выступаў з вельмі асцярожнымі заявамі што да пашырэння сферы выкарыстання беларускай мовы. Прызнаючы, што шматлікія яго суайчыннікі не валодаюць моваю, ён рабіў акцэнт на паступовым яе вяртанні (*«каб беларускай мовай авалодалі вашы дзеці»*) і падкрэсліваў, што *«ніхто нікога ніколі не прымушаў, нідзе не прымушае і ня будзе прымушаць гаварыць на беларускай мове. Бо калі мова дзяржаўная, то кожны сам будзе імкнуцца яе ведаць. Дзяржаўная мова – гэта абавязак перш за ўсё для дзяржаў-*

*ных афіцыйных установаў»* (Пазьняк, 1992a).

## VI. Перспектывы Беларусі

Беларусь, на думку Пазняка, мела *«лепшыя ўмовы для інтэграцыі ў эўрапейскую сістэму [...] У нас дастаткова збалянсаваная эканоміка, функцыянуе паўнавартасны народна-гаспадарчы комплекс на дастаткова высокім арганізацыйным і тэхнічным узроўні, існуе высокі ўзровень кваліфікацыі рабочага клясу, вялікая канцэнтрацыя інтэлекту: фундамэнтальнай і прыкладной навукі…»* (Пазьняк, 1992d). Выступаючы за мяжою, ён ганарліва заяўляў: *«Беларусь – адна з найбольш разьвітых у эканамічным дачыненьні дзяржава ў шэрагу рэспублік былога СССР, з навукаёмістай living рознабаковай вытворчасьцю, з даволі высокім узроўнем сельскай гаспадаркі (параўнаўча, вядома), зь вялікім навуковым і інтэлектуальным патэнцыялам, з багатымі запасамі вытворчай сыравіны, з грамадзкай стабільнасьцю»* (Пазьняк, 1992f).

Тым самым Пазняк не заўважыў, як уступіў у супярэчнасць са сваёй ацэнкаю БССР, калі ён практычна не бачыў станоўчых бакоў у існаванні беларускай савецкай дзяржаўнасці. У той жа час, робячы працытаваную заяву на заранцы незалежнасці і прызнаючы наяўнасць перадумоваў для паспяховага развіцця, Пазняк адыходзіў ад пытання, якім чынам і ў межах якіх структураў былі створаныя гэтыя перадумовы. Зрэшты, такая алагічнасць і супярэчлівасць не ёсць чымсьці экстраардынарным для любога палітычнага дзеяча. Больш за тое, далей Пазняк зноў адмовіў саму разумнасць дзяржаўнага кіравання ў савецкі час. *«Цяпер не хапае добрага дзяржаўнага думаньня, бо ў часе бальшавіцкага панаваньня і савецкай акупацыі была моцна разбурана культура і нацыянальная самасьвядомасьць людзей. У кіраўніцтве сталі функцыянеры, рэнегаты, здраднікі, якія ненавідзелі свой народ, сваю зямлю»* (Пазьняк, 1992d).

Напрыканцы першага года незалежнасці Пазняк ацаніў становішча маладой незалежнай дзяржавы і, што характэрна, прызнаў існаванне дзяржаўнай структуры, але не палічыў гэта важным, а таксама не палічыў важным наяўнасць дзейнага дзяржаўнага апарату і персаналу – важны фактар для захавання незалежнасці любой краіны. *«Што атрымала ў спадчыну незалежная Беларусь? – дзяржаву, разьмешчаную на дзьвюх трацінах тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі ...; эканоміку і вытворчасьць, сутнасьць якой – зборачны цэх СССР ... вышэйшы ўзровень вытворчасьці, якая, аднак, не разьлічана на нашыя ўнутраныя і дзяржаўныя патрэбы...; сельскую гаспадарку з прыярытэтам індустрыяльнай жывёлагадоўлі, што ператварыла нашу Беларусь у гіганцкі сьвінушнік Савецкага Саюза»* (Пазьняк, 1992a).

На дадатак, Беларусь атрымала *«экалогію, зьмест якой – нітраты ў зямлі, хімічныя, памыйныя рэкі, атамныя палігоны на Палесьсі, дзе выпрабоўвалі ядзерную зброю на людзях, і... Чарнобыль – «детище» КПСС; дэфармаваную нацыяналь-*

*ную сьвядомасьць, духоўна хворы соцыюм ... залежнасьць ад Расеі і пастаянная пагроза з усходу»* (Пазьняк, 1992a).

Такое грэбаванне наяўнасцю эфектыўнай дзяржаўнай структуры ў той жа час цалкам ўпісваецца ў правую кансерватыўную інтэлектуальную традыцыю, якая дастаткова пагардліва ставіцца да бюракратыі ды аддае перавагу мадэлі «рэспублікі» з мінімальным урадам. Гэта, несумненна, пярэчыць этатысцкай арыентацыі ў рэалізацыі «нацыянальнага адраджэння», адзначанай намі вышэй, аднак такая супярэчлівасць у ідэалогіі ды дзейнасці палітыкаў-практыкаў даволі пашыраная ў палітыцы.

## VII. Дэмакратыя і антыкамунізм

У 1991 г. Пазняк адзначаў: *«Беларускі Народны Фронт грунтуецца на прынцыпах дэмакратыі, незалежнасьці Беларусі і адраджэньня нацыі. Як і належыць у такога роду рухах, усіх яднае антыталітарызм, які да сярэдзіны 1990 году ў выніку палітычнага высьпяваньня грамадзтва канкрэтызаваўся ў антыкамунізм. БНФ пасьлядоўна прытрымліваецца асноўных дэмакратычных крытэрыяў: абароны правоў чалавека, права нацыяў на самавызначэньне, а нацыянальных супольнасьцяў – на дзяржаўную незалежнасьць, права чалавека на свабоду, на працу, на свабоднае перамяшчэньне, на свабоду веравызнаньня і выяўленьня поглядаў і г.д.»* (Пазьняк, 1991c).

Разам з тым, дэмакратычная арыентацыя нацыянальна-дэмакратычнага руху была крыніцаю сталай фрустрацыі пры няздольнасці Фронту дасягнуць жаданай шырыні народнага падтрымання, і сама гэтая ідэйная ўстаноўка стварала супярэчнасці і складанасці ў рэальнай палітыцы. Нягледзячы на пачатковыя поспехі ў масавай мабілізацыі праз выкарыстанне сацыяльнай напружанасці, БНФ у далейшым адмовіўся ад выкарыстання сацыяльнай тэматыкі, якая была б прымальнаю для шматлікіх сацыяльных групаў, і вельмі хутка аказаўся хоць і самаю шматлікаю партыяй, але і партыяй, якая завявала сабе вельмі сур'ёзны адмоўны імідж, – своеасаблівою плынню, якая аддзялілася ад грамадства.

Гэтаму спрыяў і радыкальны антыкамунізм, які быў праблематычнаю палітычнаю ідэяй ва ўмовах Беларусі, насельніцтва якой не адчувала такой антыпатыі да савецкага рэжыму, як ва ўсіх суседніх савецкіх рэспубліках. Гэта прызнавалі і прадстаўнікі беларускага нацыянальна-дэмакратычнага крыла, якія падхапілі ўслед за публіцыстам Алесем Адамовічам выслоўе «Беларусь – Вандэя перабудовы».

Ёсць падставы лічыць з'яўленне канцэпцыі «люмпенізацыі» насельніцтва менавіта спробаю растлумачыць гэтую адсутнасць масавага падтрымання з боку народу, пра апору на які ўвесь час казалі Пазняк ды іншыя прадстаўнікі нацыянальна-дэмакратычнага руху: *«Дэмакратыя ў люмпэнізаваным грамадзтве немагчымая»* (Пазьняк, 1991d). Гэтаму ж служылі і захаванне і далейшае развіццё канцэпцыі «дэнацыяналізацыі»: *«Яны (камуністы) падарвалі*

*кансалідацыйныя асновы беларускай нацыі. Таму, пакуль гэтыя кансалідуючыя асновы нацыянальнае сьведамасьці ня будуць адроджаныя, ніякі палітычны рух на Беларусі ня можа быць масавы»* (Пазьняк, 1991e).

На гэта накладваліся праблемы БНФ і яго фракцыі з дастаткова пракамуністычным складам Вярхоўнага Савету (Пазьняк, 1991d; 1991f) і безвыніковымі спробамі дамагчыся правядзення датэрміновых парламенцкіх выбараў (Пазьняк, 1991d). Да пэўнага часу гэтая немагчымасць дабіцца новых выбараў дазваляла тлумачыць палітычна складанае становішча партыі ды ўсяго нацыянальна-дэмакратычнага руху, аптымістычна спасылаючыся на дэмакратыю і выбары як развязанне праблемы, але ў сярэдзіне 1990-х гг. БНФ прайграў на дастаткова свабодных прэзідэнцкіх і парламенцкіх выбарах.

Антыкамунізм, нароўні з канцэпцыяй нацыянальнага Адраджэння, быў адным з ключавых кампанентаў праекту Пазняка. Палітык займаў бескампрамісную пазіцыю ў дачыненні камуністычнай партыі ды ўсяго з ёй звязанага. Ён быў упэўнены, што нават рэфармаваная камуністычная сістэма не мае ніякай будучыні: *«Наперадзе пагібель, распад паўцывілізацыі [...] Выхад з тупіка толькі адзін – назад, калі аднак грамадзтва яшчэ здольнае рухацца. Назад да рынку і прыватнай уласнасьці, назад да дэмакратыі, назад да рэлігіі і традыцыйнай маралі, назад да гуманнай культуры, назад да суверэнітэту і дзяржаўнай незалежнасьці нацыяў [...] ВІДАВОЧНА, ШТО КОЖНЫ сумленны чалавек сваёй гуманнай сутнасьцю павінен змагацца з камунізмам і пераадольваць камуністычную ідэалёгію як крайне антычалавечую, негуманную і антыграмадзкую зьяву»* (Пазьняк, 1990d).

Зрэшты, нават сацыял-дэмакратыю Пазняк лічыў «запасной траншэяй» для камуністаў (Пазьняк, 1990d). Палітык у сваіх заявах асуджаў супрацу з камуністамі і пасля здабыцця незалежнасці: *«У Беларусі ня можа існаваць кааліцыйны ўрад і ніякая кааліцыя з удзелам камуністаў»* (Пазьняк, 1993b).

Гэтае шальмаванне камуністычнага рэжыму ў БССР, насельніцтва якой у цэлым захоўвала яшчэ лаяльнасць савецкаму рэжыму з яго упорам на сацыяльныя аспекты, мела свае наступствы. В. Акудовіч, разважаючы над вынікамі праекту «Адраджэння», пісаў: *«Іншай, акрамя як сацыяльнай, беларуская дзяржава быць ня можа, бо для абсалютнай бальшыні насельнікаў нашай краіны прыярытэтнымі як былі, так і застануцца не нацыянальна-культурныя ці ідэалагічныя, а сацыяльныя каштоўнасьці»* (Акудовіч, 2005). Таму рэзкае адмаўленне Народным фронтам сацыяльных каштоўнасцяў, якія распаўсюдзіліся ў грамадстве за гады існавання СССР, не магло не адбіцца на яго іміджы і падтрыманні грамадства.

## VIII. Рэлігія

Рэлігійная тэматыка прысутнічала ў ідэалагічных канструкцыях Пазняка, які заяўляў у прыватнасці: *«Я католік. Лічу сябе веруючым хрысьціянінам. Аднолькава адчуваю сябе*

*сярод вернікаў усіх хрысьціянскіх канфэсіяў на Беларусі: праваслаўных, каталікаў, уніятаў, пратэстантаў-эвангелістаў. Усіх нас павінна аб'ядноўваць хрысьціянская вера, наша народная гісторыя, культура і Бацькаўшчына-Беларусь»* (Пазьняк, 1991c). Г.зн. у цэлым хрысціянства заходняга ўзору ўсведамлялася хутчэй як культурная традыцыя, чым веравызнанне як такое.

Як адзначыў Алег Латышонак, *«нацыянальнае і рэлігійнае адраджэньне разьвіваліся незалежна адно ад аднаго, бо нацыянальным дзеячом, нягледзячы на іхныя намаганьні, не ўдалося дабіцца падтрымкі ні каталіцкага, ні праваслаўнага духавенства. Першае аддавала перавагу сувязям з Польшчай [...] Другое зрабіла выбар на карысьць Расеі...»* (Латышонак, 2007).

Афіцыйна адраджэнне ўніяцтва не згадвалася ў якасці мэты БНФ у дакументах, але шырока артыкулявалася прадстаўнікамі нацыянальна-дэмакратычнага руху, у тым ліку Пазняком. *«Трагедыя беларускага народу ў тым, што варожыя сілы адарвалі ад яго хрысьціянскую рэлігію ... расейскі царызм разам з расейскай праваслаўнай царквою зьнішчылі Унію (грэка-каталіцтва) на Беларусі ... 80 адсоткаў насельніцтва Беларусі былі ўніятамі [...] Я ня бачу ніякай станоўчай ролі, ніякай маральнай будучыні цяперашняга кіраўніцтва расейска-маскоўскага праваслаўя на Беларусі, калі не адбудзецца пакаяньне за пакуты, за кроў нявінна забітых уніятаў [...] Сьвятая Унія на Беларусі адраджаецца»* (Пазьняк, 1991e). Пазняк непрыхавана ідэалізаваў уніяцкую царкву: *«Беларуская Уніяцкая Царква ёсць пакутніцкая Царква. Унія не запляміла сябе супрацоўніцтвам з НКВД і КГБ. Яна была патоплена ў крыві расейскім самадзяржаўем і расейскім, зросшымся з царскім рэжымам, праваслаўем»* (Пазьняк, 1993a).

Разам з уніяцтвам, Пазняк асцярожна закранаў і пытанне аўтакефаліі праваслаўнай царквы ў Беларусі: *«Не сумняваюся, што Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква, што існуе ў вольным сьвеце, пашырыць сваё дзеяньне зь цягам часу і на этнічную Беларусь. Праваслаўе на Беларусі для беларускага народу павінна быць беларускае, сьвятое й хрысьціянскае, а не расейскае, бальшавіцкае, чарнасотніцкае ці якое яшчэ»* (Пазьняк, 1991e).

Інструментальнае ўспрыманне лідэрам БНФ рэлігіі трохі супярэчыць заяўленай каталіцкасці Пазняка. Зрэшты, выпады ў бок праваслаўя здараліся часцей, чым у бок каталіцтва. *«Ксяндзы і асабліва папы цяпер падтрымліваюць камуністычную намэнклятуру, начальства, засядаюць у Вярхоўным Савеце і, дарэчы, бякуюцца з партгрупай КПБ, нават падпісваюць агульныя лісты з камуністамі супраць дэмакратаў»* (Пазьняк, 1991e).

Погляды Пазняка ў дачыненні рэлігійнай палітыкі таксама адпавядалі ягоным агульным прынцыпам, характэрна нават само абазначэнне Царквы і Касцёлу як праваслаўнай і каталіцкай «адміністрацыі» ды ўяўленне пра тое, што вырашыць лёс беларускага народу можа дзяржава, падтрымаўшы уніяцкую царкву, то

бок практычна ўпэўненасць у тым, што *cuius regio, eius religio.* «*Будучыня на Беларусі будзе за той канфэсіяй, якая хутчэй засвоіць і адродзіць у сваім афіцыйным ужытку беларускую мову ... Калі праваслаўная і каталіцкая адміністрацыя да гэтага часу так і не павернецца тварам да Беларусі, да беларускай мовы, да гістарычнага духоўнага лёсу беларускага народа, можна не сумнявацца, што беларуская дзяржава падтрымае Унію*» (Пазьняк, 1993a).

Вядома, Пазняк нязменна запэўніваў, што БНФ падтрымлівае ўсе традыцыйныя хрысціянскія канфесіі ды імкнецца да іх роўнасці: «*Беларускі Народны Фронт ставіцца аднолькава й падтрымлівае ўсе традыцыйныя канфэсіі на Беларусі. Ніводнай не аддаецца перавагі. Асноваю адраджэньня й кансалідацыі на Беларусі зьяўляецца нацыянальная сьведамасьць, а не рэлігія, як у Польшчы*» (Пазьняк, 1991e). Але на фоне даволі тэндэнцыйнага адлюстравання гісторыі уніяцкай царквы гэтыя запэўненні выглядалі не вельмі пераканаўчымі.

## IX. Рэалізацыя праекту

Хоць, здавалася б, Пазняк для рэалізацыі свайго праекту не прапаноўваў правесці рэвалюцыйныя пераўтварэнні ў грамадстве, напіраючы больш на «адраджэнне», г. зн. аднаўленне ранейшага, больш правільнага парадку[1], але напрыканцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. ягоныя прапановы ўзяць пад кантроль Мінску датычныя БССР пытанні ды вырашаць іх самастойна ад Масквы гучалі беспрэцэдэнтнымі ў рэспубліцы і таму здаваліся радыкальнымі.

«*Калі б Беларусь не аддавала СССР кожны год амаль палову нацыянальнага прыбытку, калі б сама валодала сваёй тэрыторыяй, прыроднымі рэсурсамі і вытворчымі фондамі, калі б сама забірала сваю валюту, вяла б сваю міжнародную палітыку і сама распараджалася сваім лёсам, тады ад Чарнобыля мы ўжо даўно і эфэктыўна ратаваліся б і, упэўнены, выратаваліся б*» (Пазьняк, 1990d).

Акрамя самастойнасці Беларусі ў рашэнні дзяржаўных пытанняў, Пазняк таксама набліжаўся да папулізму і апеляваў да народу. Лідэр БНФ фактычна заклікаў беларусаў да прамога дзеяння: «*Народ павінен дапамагчы правесьці дэпартызацыю, г. зн. працоўныя калектывы павінны расфармаваць камуністычныя партыйныя структуры [...] Народ павінен паспрыяць саветам у справе апячатваньня маёмасьці КПСС і ЛКСМБ праз асабісты ўдзел, устаноўкі пікетаў, арганізацыю патрулёў … Неабходна, каб народ уключыўся ў будаўніцтва сваёй незалежнасьці, сваёй Рэспублікі … Мы павінны сфармаваць свае структуры ўлады і свае структуры абароны гэтай улады паскоранымі тэмпамі. Ініцыятыва народу ў гэ-*

[1] Зрэшты і этымалагічна, і ў пачатковым сэнсе «рэвалюцыя» акурат і азначала вяртанне да ранейшага, «правільнага» парадку рэчаў.

*тай справе шмат у чым паскорыць яе рэалізацыю»* (Пазьняк, 1991b).

У некаторай ступені механізм быў выкарыстаны ў першыя дні пасля жнівеньскіх падзеяў 1991 г. Як сведчыў Вячаслаў Сіўчык, *«акрамя дружыны, мы таксама стварылі з добраахвотнікаў (каля двух тысяч чалавек) нацыянальную гвардыю. Яна вельмі многае зрабіла, каб дзяржава забрала ў кампартыі маёмасць – будынкі абкома, гаркама і ЦК КПБ»* (Тамковіч, 2008: 66).

Пасля распаду СССР, на думку Пазняка, нічога асабліва не змянілася, а таму трэба было ліквідаваць уладу камуністычнай наменклатуры і найперш змяніць урад. *«Стары Ўрад праводзіць антыкультурную, антынародную палітыку ... неабходны новы ўрад народнага даверу. Калі мы здолеем дамагчыся новага ўраду, дык праз 5–8 гадоў ня толькі станем на ногі, але дасягнем узроўню жыцьця такіх краінаў як Данія, Аўстрыя, Фінляндыя і г. д. Гэта не пустыя словы, я маю адпаведныя разьлікі»* (Пазьняк, 1992d).

Але канстытуцыйныя шляхі не дазволілі БНФ і Пазняку дамагчыся змены ўраду і прыступіць да рэалізацыі свайго палітычнага праекту ў 1990-я гг. Напэўна, таму і ў пазнейшы перыяд сваёй палітычнай дзейнасці ў эміграцыі Пазняк настойваў: *«Не забывайма: вырашае ні Амэрыка, ні Масква і ні Брусэль. Вырашае Беларусь і Беларускі Народ»* (Пазьняк, 2001). Яўген Мірановіч пракаментаваў гэта наступным чынам: *«Вера Пазняка ў калектыўную мудрасць народа пазбаўлена рацыяналізму ў той самай ступені, што і вера таго ж народа ў мудрасць «бацькі»* (Рудкоўскі, 2005).

## Заключэнне

Праграма Беларускага народнага фронту знайшла сваё адлюстраванне найперш у выступах і тэкстах лідэра Фронту Зянона Пазняка. Гэта было звязана з персаніфікацыяй гэтай арганізацыі, асабліва ў вачах шырокай грамадскасці. Менавіта палітычны праект (няхай нават і даволі абстрактны) Пазняка лёг у аснову «ідэалогіі» БНФ.

У той жа час у сваёй палітычнай дзейнасці ў разгледжаны перыяд Пазняк быў хутчэй палітыкам-практыкам, чым ідэолагам. Пра гэта сведчаць і такія асаблівасці ягоных ідэяў, як сітуацыйнасць, адсутнасць паслядоўнага і прадуманага бачання шэрагу асноватворных праблемаў (напрыклад, паняцця беларускай нацыі). Апошняя акалічнасць асабліва істотная, бо пры адсутнасці ўласнага распрацаванага бачання гэтых пытанняў Пазняк пазбягаў прывязвацца да якога-небудзь ужо наяўнага канону беларускага нацыянальнага руху. У той жа час ва ўсім масіве тэкстаў і выступаў Зянона Пазняка праект будаўніцтва будучай беларускай дзяржавы і грамадства прысутнічае толькі ў самых агульных рысах. Пазняк практычна абмяркоўваў толькі самі прынцыпы і рабіў гэта нярэдка ў негатыўнай мадальнасці (супраць СССР, камунізму, наменклатуры, русіфікацыі), у сілу чаго пазітыўныя аспекты (за самастойнасць, адраджэнне культуры, усталяванне дэмак-

ратыі ды правоў чалавека) адступалі на задні план.

Палітычны праект, выкладзены ў тэкстах і выступах Пазняка, сыграў важную ролю ў беларускай палітыцы ў 1980-я–1990-я гг. У значнай ступені яе характар быў абумоўлены асаблівасцямі самой фігуры Пазняка, у прыватнасці ягоным нязменна падазроным, калі не сказаць варожым, стаўленнем да Расіі ды скептычным стаўленнем да сучаснага Захаду, нягледзячы на дэклараваную цвёрдую прыхільнасць да заходняй, еўрапейскай цывілізацыі ды адданасць «лацінскай традыцыі».

Збольшага гэтым жа можна патлумачыць і большасць астатніх асноўных рысаў разгледжаных ідэяў, у прыватнасці грэбаванне сацыяльнымі аспектамі, суровыя маральныя асновы, прыярытэт правоў нацыі над правамі індывіда і г. д. Варта адзначыць, што гэтыя прынцыпы хутчэй адпавядаюць ідэалогіі хрысціянска-дэмакратычных партыяў еўрапейскага кантыненту, чым ідэйнай платформе нацыяналістычных арганізацыяў народаў, якія спрабуюць дабіцца незалежнасці. Таму казаць пра нацыяналізм Пазняка варта з агаворкамі, і мы хутчэй схільныя аднесці яго да нацыянальна-дэмакратычнага крыла. Ускосна на гэта паказваюць і занадта правыя, кансерватыўныя як для нацыянальна-вызвольнага руху ідэйныя ўстаноўкі.

Пазняк, што склаўся як асоба ў нетыповай для сярэднестатыстычнага грамадзяніна Савецкай Беларусі атмасферы, не толькі заняў вельмі спецыфічную грамадзянскую і палітычную пазіцыю, але і апынуўся ў шэрагу выпадкаў адарваным ад кантэксту Беларусі тых гадоў. Гэтая адарванасць спалучалася з цеснымі кантактамі лідэра БНФ найперш з польскаю культурнаю і палітычнаю сферамі, а таксама вельмі блізкімі сувязямі з прыбалтыйскімі антысавецкімі рухамі і кантэкстам краінаў Балтыі.

Палітычны праект Пазняка, які ўключаў у сябе канцэпцыю «нацыянальнага адраджэння», у сілу сваёй альтэрнатыўнасці савецкаму рэжыму на мяжы дзесяцігоддзяў змог прыцягнуць увагу даволі значнага сегменту беларускага грамадства, але толькі на пэўны час.

У цэлым погляды і палітычны праект Пазняка даволі характэрныя для антыкамуністычнага руху ў заходняй частцы Савецкага Саюзу, хоць зноў варта падкрэсліць спецыфіку найноўшай палітычнай гісторыі Беларусі, якая рашучым чынам адрознівалася ад астатніх еўрапейскіх рэспублікаў СССР. Таму правая кансерватыўная платформа Пазняка, якая суправаджалася радыкальнаю антыкамуністычнаю рыторыкаю, мела мала шанцаў на тое, каб знайсці водгук у БССР. У прыватнасці варта адзначыць наяўнасць у астатніх еўрапейскіх савецкіх рэспубліках больш моцных традыцыяў уласнай дзяржаўнасці ў найноўшы час, а таксама адсутнасць там фактару магутнай культурнай гегемоніі савецкага рэжыму, які адчуваўся ў Беларусі нават у 1990-я гг.

**Литература**

1. Аксак, В. *Дзяды–1988. Адам Глобус: «Наступствы тых падзей — фатальныя»* [Электронны рэсурс] // Радыё Свабода. 22.10.2008. Рэжым доступу : http://www.svaboda.org/content/Article/1331930.html. Дата доступу : 22.10.2008.
2. Акудовіч, В. *Бяз нас* // Наша Ніва. 2001. № 23 (232).
3. Акудовіч, В. *Вялікая здрада.* Суплёт эсэ [Электронны рэсурс] // Дзеяслоў. 2005. № 12. Рэжым доступу : http://www.dziejaslou.by/inter/dzeja/dzeja.nsf/htmlpage/akud12?OpenDocument. Дата доступу : 24.6.2009.
4. Латышонак, А. *Беларускі нацыяналізм і сутыкненьне цывілізацыяў* // ARCHE. 2007. № 7–8.
5. Марплз, Д.Р. *Ці ёсьць у Беларусі беларусы?* // ARCHE. 2007. № 5.
6. Пазьняк, З. (1988a) *Двуязычие и бюрократизм* // Радуга. Таллинн, 1988. № 4
7. Пазьняк, З. (1988b) *Рэвалюцыя зьнізу. Фрагмэнты выступу на Дзядах – 30 кастрычніка 1988 года – у полі за некалькі хвілін перад нападам міліцэйскіх падраздзяленняў* // Навіны Беларускага народнага фронту. 1988. № 1.
8. Пазьняк, З. (1989a) . *Куропаты приоткрыли завесу над еще одной тайной сталинизма.* Интервью // Молодежь Эстонии. 1989. 20 мая.
9. Пазьняк, З. (1989b) *Путь к независимости.* Выступление на II съезде Народного Фронта Латвии 8 октября 1989 г. // Белорусская трибуна. 1989. № 10 (14).
10. Пазьняк, З. (1990a) *Rec Publica* // Грунвальд. Сакавік 1990.
11. Пазьняк, З. (1990b) *Выступ на пасяджэнні Вярхоўнага Савета БССР 10 сьнежня 1990 г.* // Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча. Мн. : ТВЦ «Паліфакт», 1992. С. 219–227.
12. Пазьняк, З. (1990c) *Выступленьне на семінары «Жыцьцё пасьля Чарнобыля», Берлін, 23 чэрвеня 1990 г.* // Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча. Мн. : ТВЦ «Паліфакт», 1992. С. 149–153.
13. Пазьняк, З. (1990d) *Шлях да свабоды* // Беларусь. Ліпень 1990. № 7.
14. Пазьняк, З. (1990e) *Якая пазіцыя ў апазіцыі.* Інтэрвію // Літаратура і мастацтва. 10.08.1990.
15. Пазьняк, З. (1990f) *Тэкст незаслуханага выступлення на пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета БССР 29 чэрвеня 1990 г.* // Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча. Мн. : ТВЦ «Паліфакт», 1992. С. 141–145.
16. Пазьняк, З. (1991a) *Выступ на мітынгу 7 лістапада 1990 года на плошчы Леніна ў Мінску* // Зянон Пазьняк. Сапраўднае аблічча. Мн. : ТВЦ «Паліфакт», 1992. С. 196–199.
17. Пазьняк, З. (1991b) *Зянон Пазьняк: «Беларусь – незалежная некамуністычная краіна»* // Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». 1991. № 6.
18. Пазьняк, З. (1991c) *На принципах демократии* (беседовал А. Чечко) // Вираж. 1991. № 5.
19. Пазьняк, З. (1991d) *Ствараючы – перамагаем!* // Народная Газета. 1991. 15 кастрычніка.
20. Пазьняк, З. (1991e) *Толькі новыя выбары могуць паправіць становішча* (зь лідарам БНФ гутарыць польская журналістка Івона Кляман) // Свабода. 1991. № 11.
21. Пазьняк, З. (1991f) *Чаму намэнклятура за прэзыдэнта* // Народная Газета. 1991. 26 чэрвеня.
22. Пазьняк, З. (1992a) *Беларусь у дарозе...* // Народная Газета. 1992. 29 кастрычніка.
23. Пазьняк, З. (1992b) *Зянон Пазьняк: «Без нацыянальнай сьвядомасьці немагчыма*

*пабудаваць дзяржаву» (Лідар БНФ – аб сёньняшняй палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы)* // Звязда. 1992. 17 кастрычніка.
24. Пазьняк, З. (1992c) *Зянон Пазьняк: «Защитить народ, не имея власти народа – невозможно»* // Знамя Юности. 1992. 8 апреля.
25. Пазьняк, З. (1992d) *Зянон Пазьняк: «Мы павінны кіравацца ў Эўропу»* // Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». 1992. 9 студзеня.
26. Пазьняк, З. (1992e) *Лёс дэмакратыі вырашаецца на Беларусі* // Народная Газета. 1992. 6 кастрычніка.
27. Пазьняк, З. (1992f) *Палітыка намэнклятуры. Палітычная сітуацыя на Беларусі і пэрспэктывы яе разьвіцьця.* Даклад Зянона Пазьняка, прачытаны для кіраўніцтва і супрацоўнікаў НАТО, 3–га верасьня 1992 г., Брусэль // Выбар. 1992. 23 верасня.
28. Пазьняк, З. (1993a) *Брэйгельскі шлях (надрукавана: «Звязда». 1993. студзень)* // Зянон Пазьняк. *Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня.* Кн. 1. Артыкулы і матэр'ялы. 1990 – III.1996. Варшава, Нью-Йорк, Вільня : Беларускія ведамасьці, Таварыства беларускай культуры ў Летуве, 2007. С. 122–123.
29. Пазьняк, З. (1993b) *Правал намэнклятуры. Да характарыстыкі палітычнага становішча ў краіне.* Даклад, прачытаны ў кастрычніку 1993 г. на соймавай канфэрэнцыі БНФ // Выбар. 1993. 27 кастрычніка – 9 лістапада.
30. Пазьняк, З. (1993c) *Прынцыпы нашае праграмы.* Спавешчаньне на сакавіцкім Сойме БНФ напярэдадні III Зьезду БНФ, 1993 г. Вытрымкі са стэнаграмы // Навіны Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». 1993. 26 сакавіка – 20 красавіка. № 4 (39).
31. Пазьняк, З. (1993d) *Становішча перад III зьездам БНФ* // Навіны Беларускага Народнага Фронту. 1993. Травень, спецыяльны выпуск.
32. Пазьняк, З. (2001). *Старыя дарожкі* // Беларускія ведамасьці. 2001. № 2 (32); Народная воля. 2001. 15 лютага.
33. Пазьняк, З. (2007a) *«А вось і птушачкі...» (Люты–сакавік 1992 г.)* // Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1. Артыкулы і матэр'ялы. 1990 – III.1996. Варшава, Нью-Йорк, Вільня : Беларускія ведамасьці. Таварыства беларускай культуры ў Летуве, 2007. С. 77–78.
34. Пазьняк, З. (2007b) *Галоўны вораг – расейскі імпэрыялізм.* Выступ на V зьезьдзе Руху ў Кіеве 11 сьнежня 1993 г. // Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1. Артыкулы і матэр'ялы. 1990 – III.1996. Варшава, Нью-Йорк, Вільня : Беларускія ведамасьці. Таварыства беларускай культуры ў Летуве, 2007. С. 162–163.
35. Пазьняк, З. (2007c) *Пра незаконную забарону рэфэрэндуму на Беларусі аб новых выбарах.* Выступ у Эўрапарляманце. 1992 г. // Зянон Пазьняк. Развагі. Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня. Кн. 1. Артыкулы і матэр'ялы. 1990 – III.1996. Варшава, Нью-Йорк, Вільня : Беларускія ведамасьці. Таварыства беларускай культуры ў Летуве, 2007. С. 115–116.
36. Пазьняк, З. Развагі. *Канцэпцыя новага Беларускага Адраджэньня.* Кн. 1. Артыкулы і матэр'ялы. 1990 – III.1996. Варшава, Нью-Йорк, Вільня : Беларускія ведамасьці. Таварыства беларускай культуры ў Летуве, 2007.
37. Рудкоўскі, П. *Панская Польшча і бяспанская Беларусь* [Электронны рэсурс] // ARCHE. 2005. №1. Рэжым доступу : http://arche.bymedia.net/2005-1/rudkouski105.htm.
38. Тамковіч, А. *Будзіцелі.* СПб. : Невский простор, 2008.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Аляксей Ластоўскі

# Русацэнтрызм як ідэалагічны праект беларускай ідэнтычнасці

## I. Агульная характарыстыка

Гэтая праца ажыццяўлялася ў межах даследавання «Праекты нацыі ды ідэнтычнасці. Беларусь–Украіна. 1990–2008», якое ставіць мэтаю вылучэнне, апісанне і аналіз найбольш рэпрэзентатыўных канцэпцыяў нацыянальнай ідэнтычнасці, што існуюць у публічнай прасторы Беларусі[1].

У гэтым выпадку мы гаворым пра канцэпцыю нацыі як сукупнасць нейкіх цэласнасцяў і ўзгодненых уяўленняў пра сутнасць беларускай нацыі. Выдзяленне ключавых канцэпцыяў нацыі абапіраецца на дзве характарыстыкі:

а) наяўнасць сістэмнага вобразу мінулага, сучаснасці і будучыні беларусаў, у якім можна вылучыць пэўныя блокі, якія валодаюць семантычнай устойлівасцю і рэпрадуктыўнасцю;

б) магчымасць вылучэння інтэлектуальных асаблівасцяў, якія задаюць спецыфіку і канкрэтыку асобнай канцэпцыі менавіта як інтэлектуальнай канструкцыі.

Сярод асноўных версіяў беларускай нацыі, якія аказваюць непасрэдны ўплыў на палітычнае, культурнае ды інтэлектуальнае жыццё краіны, вылучаецца русацэнтрызм[2]. Ідэйнае ядро гэтага праекту – разгляд беларусаў як неад’емнай часткі рускага народу. Рускі народ разумеецца як суперэтнас, які аб’ядноўвае велікарусаў, маларосаў і беларусаў. Суперэтнас вызначаецца адзінствам мовы і культуры, агульнасцю каштоўнасцяў і менталітэту. Сцісла гэтую галоўную пазіцыю русацэнтрызму можна сфармуляваць наступным чынам: *«Белорус, как великоросс и украинец, по своей теоретической и практической жизни является русским человеком, а Белоруссия, как Россия и Украина, составляют*

1 Праект рэалізоўваўся ў межах Інстытуту палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» (www.palityka.org). Удзельнікі даследавання: Аляксей Дзермант, Аляксей Крывалап, Аляксей Ластоўскі, Таццяна Чыжова. Кіраўнік даследавання: Андрэй Казакевіч.

2 «Русацэнтрызм» у гэтым выпадку ўводзіцца як тэрмін, які не выкарыстоўваецца шырока ў беларускай гуманітарнай сферы, але цалкам пасуе да дэфініцыі гэтага праекту ў звязку з хібамі іншых распаўсюджаных вызначэнняў для гэтага кола ідэяў (рускі нацыяналізм, славянафільства / славянскі нацыяналізм, заходнерусізм).

*часть единой общерусской цивилизации»* (Криштапович, 1999: 134–135).

Адсюль выцякае накіраванасць на саюз з Расіяй як галоўную геапалітычную задачу для Беларусі. У пэўнай ступені перыферыйнымі для гэтага палітычнага праекту ёсць адсылкі да славянскага братэрства і згадкі пра «славянскую цывілізацыю».

Пры гэтым ідэалагічнае афармленне русацэнтрызму мае шэраг спецыфічных рысаў:

1) **ідэалізм**. Гэта самая значная характарыстыка русацэнтрызму, якая праяўляецца ў двух найважнейшых аспектах. Па-першае, гэта пастаяннае падкрэсліванне перавагі духоўнага над матэрыяльным, высокага над нізкім, рэлігійнага над свецкім. І, па-другое, заканамерны сыход у ірацыянальнае бачанне свету і, адпаведна, такі ж ірацыянальны тып абгрунтавання;

2) **дуалістычнасць**. У межах русацэнтрызму свет ва ўсіх яго шматлікіх аспектах ўспрымаецца і апісваецца праз дыхатаміі, дзе ёсць толькі дабро і зло (г. зн. высокадухоўны «славянскі свет» і загніваючы матэрыялістычны Захад), паміж якімі няма пераходных ступеняў. Гісторыя гэтага свету разглядаецца як адвечная барацьба двух пачаткаў, паміж якімі не можа быць перамоваў, узгадненняў і кампрамісаў;

3) **канспіралагізм**. Гісторыя і сучаснасць пры гэтым апісваюцца не з дапамогаю рацыяналістычных тлумачэнняў, а праз набор канспіралагічных тэорыяў. За кожным дзеяннем шукаецца схаваны намер – часцей за ўсё злы. Глыбінныя прычыны працэсаў, якія адбываюцца, сыходзяць у розныя тэорыі змоваў. Адсюль выцякаюць сталыя пошукі ворагаў, нават у асяродку сваіх «паплечнікаў». Пры гэтым, калі «сваім» русацэнтрысты прыпісваюць ідэалізм, выразнасць і чысціню намераў, то для ідэалагічных праціўнікаў магчымыя толькі два варыянты – быць свядомымі змоўшчыкамі, якія плануюць разбурыць светлую і чыстую славянскую цывілізацыю ды ўсталяваць сваё злавеснае панаванне, або быць наіўнымі людзьмі, якіх у сваіх мэтах прагматычна выкарыстоўвае першая катэгорыя;

4) **эсхаталагізм**. Вынікам уяўлення пра шырокія канспіралагічныя сеткі, якія ахутваюць увесь свет, ёсць разгляд чалавечай цывілізацыі як нечага на мяжы знікнення, што надае трагічнае вымярэнне светаадчуванню і патрабуе неймавернай духоўнай мабілізацыі.

Такім чынам, дзякуючы наяўнасці ўстойлівых ідэалагемаў (беларусы як частка рускага суперэтнасу, дамінацыя агульнай рускай культуры і мовы, накіраванасць на саюз з Расіяй) і агульных інтэлектуальных характарыстык, мы бярэмся сцвярджаць магчымасць вылучэння нейкага адзінага і цэласнага праекту русацэнтрызму.

З іншага боку, праект русацэнтрызму не ёсць цалкам замкнёным: пры наяўнасці ідэйнага цэнтру, які выступае несумненнаю аксіялагічнаю дамінантаю, прысутнічаюць і пэўныя моманты, якія выклікаюць канфліктныя інтэрпрэтацыі. Наяўнасць ідэалагічнага адзінства і ад-

стойванне каштоўнасцяў рускага народу зусім не азначаюць поўнага аднадумства, і ў межах праекту русацэнтрызму таксама магчымыя пэўныя разыходжанні і дыскусіі. Найбольш спрэчнымі здаюцца два моманты: стаўленне да савецкага мінулага (ідэалізацыя або крытыка) і ацэнка ролі праваслаўя (пры пераваже артадаксальна-праваслаўнай пазіцыі прысутнічаюць таксама і атэістычная крытыка, і адхіленні ў паганскі містыцызм).

## II. Іституцыйнае афармленне

Любы інтэлектуальны праект існуе ў культурнай прасторы ў двух найважнейшых аспектах:

1) як сукупнасць выдатных асобаў, інтэлектуалаў;

2) як сетка розных інстытуцыйных утварэнняў (палітычныя і грамадскія арганізацыі, газеты і часопісы, розныя нефармальныя ўтварэнні).

Спачатку ўзгадаем некалькі найбольш адметных асобаў, якія, на наш погляд, ёсць вызначальнымі для праекту русацэнтрызму:

- *Леў Крыштаповіч*, намеснік дырэктара Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру пры Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, доктар філасофскіх навук, прафесар, раней – навуковы сакратар Інстытуту сацыяльна-палітычных даследаванняў пры Адміністрацыі прэзідэнта;
- *Эдуард Скобелеў*, пісьменнік, галоўны рэдактар часопісу «Інфармацыйны бюлетэнь Адміністрацыі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь»;
- *Яўген Росцікаў*, журналіст, пераважна супрацоўнічае з расійскаю газетаю «Завтра»;
- *Валянцін Акулаў*, доктар філасофскіх навук, прафесар кафедры філасофіі МДЛУ.

На наш погляд, гэта найбольш рэпрэзентатыўныя прадстаўнікі русацэнтрызму, якія ўстойліва з пачатку 1990-х гг. і да цяперашняга часу працуюць у гэтым рэчышчы, і ў іхных працах у найбольш канцэнтраванай і яскравай форме выражаецца сутнасць і асаблівасці гэтага інтэлектуальнага кірунку.

Таксама ў рэчышчы русацэнтрызму працуе і мноства прафесійных гісторыкаў. Для некаторых з іх гэтае кола ідэяў зрабілася зручнаю гаванню, куды можна было без асаблівых праблемаў перабрацца з савецкай гістарыяграфіі (Петрыкаў, Сташкевіч, Залескі ды інш.), але ёсць і генерацыя маладых «ідэйных» гісторыкаў, якія спрабуюць перааформіць гэты праект з дапамогаю сучаснай мовы гуманітарнай веды (Бендзін, Гігін ды інш.).

У першую чаргу тут трэба вылучыць Якава Трашчанка, кандыдата гістарычных навук, дацэнта Магілёўскага дзяржаўнага універсітэту імя А.А. Куляшова. Менавіта ягоныя погляды найбольш грунтоўна адыходзяць ад савецкіх схемаў інтэрпрэтацыі гісторыі ды ў даволі радыкальнай форме служаць выражэннем ідэяў русацэнтрызму не толькі ў плане гістарычнага абгрунтавання, але і су-

часнай канцэптуалізацыі беларускай нацыі.

Для афармлення і развіцця любой інтэлектуальнай канцэпцыі важнымі ёсць розныя перыядычныя выданні. У гэтым плане праект русацэнтрызму відавочна саступае сваім ідэалагічным супернікам і канкурэнтам. У адрозненне ад Расіі, «патрыятычная» прэса ў Беларусі надзвычай нешматлікая.

Цягам 1990-х гг. існавалі некалькі газетаў, якія можна цалкам аднесці да русацэнтрычных паводле іх пазіцыі:

1) «Славянские ведомости» (1991–1992 гг. выдання);

2) «Русь Белая» (1993–1995 гг. выдання);

3) «Личность» (1996–1999 гг. выдання);

4) «Славянский набат» (1997–1999 гг. выдання).

Таксама доўгі час матэрыялы ў падобным ключы публікаваліся ў газеце «Знамя юности», але гэта газета больш шырокага профілю, і яе складана аднесці да чыста «ідэалагічных» выданняў. Блізкаю паводле пазіцыі была і газета «Мы и время», але асноўны ўпор там усё ж рабіўся на прапаганду рэанімаванай версіі камуністычных ідэалаў.

Своеасаблівы пік друкаванай актыўнасці русацэнтрычнага праекту прыпадае на 1997–1999 гг., калі выходзілі адразу дзве штотыднёвыя газеты: «Славянский набат» і «Личность». Як нескладана ўбачыць, на сённяшні момант праект русацэнтрызму практычна пазбаўлены ўласных медыя-рэсурсаў (гэты факт, на наш погляд, вельмі важны), таму адзначаныя «спікеры» выкарыстоўваюць сваю вагу і ўплыў для публікацыяў або ў дзяржаўных медыях Беларусі, або ў расійскай нацыяналістычнай перыёдыцы.

Блізкасць ідэйных пазіцыяў і добрыя сувязі ў дзяржапараце дазваляюць вядучым прадстаўнікам русацэнтрычнага праекту рэгулярна друкавацца і ў буйных рэспубліканскіх газетах, але наўрад ці такія магчымасці могуць цалкам замяніць наяўнасць спецыялізаваных выданняў, праз якія маглі б транслявацца і распаўсюджвацца такія ідэі.

Што датычыць рухаў і грамадскіх арганізацыяў, то тут росквіт ужо прайшоў у 1993–1999 гг., калі актыўна дзейнічалі такія арганізацыі, як Славянскі Сабор «Белая Русь» і беларускае аддзяленне Рускага нацыянальнага адзінства (РНА). Зрэшты, пасля забойства лідэра гэтай арганізацыі Глеба Самойлава ў 2000 г. РНА ў Беларусі прыйшло ў відавочны занепад, пазнейшыя спробы адраджэння арганізацыйнай структуры поспеху не мелі.

Цяпер жа ў Беларусі дзейнічае шэраг маргінальных невялікіх радыкальных груповак («Схоран Ёж Словен», Славянскі Саюз ды інш.), але яны невялікія па сваіх памерах, арыентаваныя пераважна на агітацыю сярод моладзі і наўрад ці могуць разглядацца як сур'ёзныя актары беларускай палітыкі ці інтэлектуальнай сферы.

Блізкая да ідэалаў русацэнтрызму і Беларуская патрыятычная партыя, якую да 2001 г. узначальваў Анатоль Баранкевіч. Пасля ягонай смерці

кіраўніком партыі стаў Мікалай Улаховіч – вярхоўны атаман Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускае казацтва», а таксама першы рэдактар газеты «Личность». Адзначым, што партыя афіцыйна зарэгістраваная і дзейнічае ўжо доўгі час (з 1996 г.), але нічога істотнага – ні ў плане палітычным, ні ў плане ідэалагічным – дамагчыся не здолела, так і застаўшыся на перыферыі культурна-палітычнай прасторы Беларусі.

Яшчэ адным своеасаблівым месцам, дзе фармуюцца і распаўсюджваюцца ідэі русацэнтрызму, ёсць серыя «міжнародных навукова-практычных канферэнцыяў», куратарствам якой займаецца Уладзімір Сацэвіч. Сам Сацэвіч вядзе грамадскую дзейнасць адразу на некалькіх франтах: ён узначальвае камітэт «Экалогія чалавека» Беларускага сацыяльна-экалагічнага саюзу, уваходзіць у каардынацыйную раду Саюзу барацьбы за народную цвярозасць і ў той жа час выступае ў якасці арганізатара раднаверчага (неапаганскага) руху ў Беларусі. Па выніках канферэнцыяў публікуюцца зборнікі матэрыялаў пад характэрным назовам «Славянское вече» (усяго на 2009 г. выйшлі чатыры зборнікі). Падборка матэрыялаў у гэтых зборніках вельмі эклектычная: там можна сустрэць і маніфесты раднавераў-неапаганцаў, і антысеміцкія лозунгі, і звычайныя навуковыя даклады на розную тэматыку, якія з такім жа поспехам маглі быць агучаныя на любой акадэмічнай канферэнцыі. Разам з тым, у працы гэтых канферэнцыяў бярэ актыўны ўдзел шмат хто з ключавых «спікераў» русацэнтрызму (тыя ж Крыштаповіч і Скобелеў), на іх запрашаюць вельмі шмат рускіх нацыянал-патрыётаў рознага кшталту, таму такія канферэнцыі ў пэўнай ступені можна аднесці да гэтага палітычнаму праекту.

## III. Генезіс ды ідэйныя крыніцы

Самое кола ідэяў, якія кладуцца ў аснову праекту русацэнтрызму, мае даўняе гістарычнае паходжанне, але ў мадэрнай версіі ўпершыню было артыкуляванае ў заходнерусізме. Па сутнасці сучасны русацэнтрызм у Беларусі і ёсць ідэйным пераемнікам заходнерусізму XIX ст. Гэтая пераемнасць усведамляецца і падкрэсліваецца.

Адною з найбольш значных фігураў заходнерусізму лічыцца гісторык Міхаіл Каяловіч (1828–1891). Прычым зварот да ягонай спадчыны ідзе не толькі праз сімвалічныя апеляцыі ды рытарычныя ўсхваленні, але і праз інтэнсіўнае практычнае выкарыстанне ягоных працаў пры рэканструкцыі гістарычнага мінулага беларускага народу. Напрыклад, гістарыясофска-гістарыяграфічныя эцюды Льва Крыштаповіча «Беларусь і руская цывілізацыя» (Крыштаповіч, 1999) непасрэдна грунтуюцца на гістарычных працах Міхаіла Каяловіча, што выразна вынікае нават са спісу выкарыстанай літаратуры.

Яшчэ адною крыніцаю для ўтварэння праекту русацэнтрызму стаў славянафільска-нацыяналістычны кірунак у рускай філасофіі XIX – пач. XX ст. Гэта датычыць дастаткова

шырокага кола мысляроў (ад Дастаеўскага да Ільіна), але выкарыстанне іхных працаў характарызуецца высокаю селектыўнасцю: бяруцца пераважна адсылкі да ідэі славянскага адзінства і высокай рускай духоўнасці.

Калі адсылкі заходнерусізму да славянафільства хутчэй выкарыстоўваюцца з мэтаю легітымацыі, надання аўтарытэтнасці і гістарычнай глыбіні, то найбольш важнаю рэальнаю крыніцаю ідэяў, вобразаў і славесных формулаў робіцца сучасны нацыяналістычны рух у Расіі. Гэты ўплыў можна вызначыць як у прыхаванай форме (агульныя тэмы і прыёмы апісання), так і па частаце цытавання, перадрукавак і г. д. Акрамя таго, мы ўжо згадвалі, што шматлікія прадстаўнікі русацэнтрызму часта друкуюцца ў расійскай перыёдыцы нацыянальна-патрыятычнага зместу («Завтра», «Наш современник», «Русский вестник» і г. д.). Так што ў плане дэклараванага адзінства рускага свету тут і насамрэч назіраецца пэўная еднасць славянафільскага нацыяналістычнага крыла ў Расіі ды Беларусі.

## IV. Эвалюцыя

У 1990–2008 гг. назіраецца пэўная эвалюцыя ў змесце і фармулёўках праекту русацэнтрызму, абумоўленая як унутраным развіццём, так і зменамі ў сацыяльна-палітычнай сітуацыі ў Беларусі.

Для пачатку 1990-х гг. была характэрная вострая хваравітая рэакцыя на распад СССР, якая суправаджалася непрыманнем новаўтворанай беларускай дзяржавы, вострай антыпатыяй да ўлады, што разглядалася як рэалізатар інтарэсаў БНФ. У гэты час адным з найважнейшых пытанняў выступала праблема рускай мовы: *«В Белоруссии вследствие деятельности группы националистов и идущих у них на поводу исполнительных государственных структур сложилось противоестественное положение, когда ставится вне закона, всячески ущемляется и подавляется русский язык, который является языком коренной нации и на котором говорит и думает большинство граждан Республики»* (Обращение…, 1993). У гэты час разгортваецца грамадская кампанія за наданне рускай мове статусу дзяржаўнай, публікуецца мноства артыкулаў, дзе сцвярджаецца палажэнне пра тое, што руская мова ёсць роднаю для беларусаў.

Яшчэ адною важнаю лініяй публіцыстыкі гэтага перыяду можна лічыць патрабаванне аднавіць адзіную дзяржаву з Расіяй. Нягледзячы на тое, што сама ідэя «саюзнай дзяржавы» ёсць цэнтральнаю для праекту русацэнтрызму, фармулявалася яна па-рознаму. Калі ў 1991–1992 гг. ідэальнаю дзяржаўнаю формаю для суіснавання рускага і беларускага народаў абвяшчалі Савецкі Саюз, то ў наступныя гады гаворка ішла ўжо пра стварэнне адзінай дзяржавы Расіі ды Беларусі. Прычым у першыя гады існавання незалежнай беларускай дзяржавы праект русацэнтрызму заклікаў хутчэй да ліквідацыі гэтага «дзіўнага» дзяржаўнага ўтварэння: *«В такой ситуации лучше вручить*

*свою судьбу великой России»* (Тарасевіч, 1993).

З пачаткам прэзідэнцкага кіравання Лукашэнкі адбываецца паступовы пераход да поўнай лаяльнасці прадстаўнікоў русацэнтрызму ў дачыненні дзяржаўнай улады, хаця заўважна, што да 1995 г. да новага прэзідэнта яшчэ прыглядаліся. Але практычная рэалізацыя Лукашэнкам галоўных патрабаванняў, жыццёва важных для русацэнтрызму, – наданне рускай мове статусу дзяржаўнай, стварэнне саюзнай дзяржавы з Расіяй (хоць і не ў радыкальнай форме, пра якую марылі русацэнтрысты), сталыя сімвалічныя апеляцыі да рускай культуры і рускага народу – заканамерна прыцягнула да кіраўніка краіны сімпатыі прыхільнікаў даследаванага праекту. З таго часу гэты праект атрымаў актыўнае падтрыманне новага прэзідэнта Беларусі, якая працягваецца і дагэтуль.

Але такая пазіцыя «звышлаяльнасці» да палітыкі, якая праводзіцца Лукашэнкам, прывяла і да некаторых зменаў ідэалагічных патрабаванняў. Найбольш істотныя трансфармацыі зведала акурат ідэя саюзу з Расіяй. Лозунг простага вяртання ў Расію відавочна апынуўся нерэлевантным у святле самастойнай палітыкі беларускай дзяржавы. Адпаведна, трэба было шукаць нейкія іншыя рашэнні для рэалізацыі гэтай задачы – аднаўлення адзінай дзяржавы з рускім народам. Ужо пачынаючы недзе з 1997–1998 гг. сталі агучвацца куды больш асцярожныя планы стварэння саюзнай дзяржавы, пазбаўленыя першапачатковага энтузіязму: *«При любых интеграционных подвижках – экономических, политических, оборонных, культурных – мы должны свое государство сохранить, а не растворить в новых образованиях. Идя на союз с Россией, мы не можем превращать себя в заложников противоборствующих там криминально-компрадорских группировок, распродающих свою страну иностранному капиталу. Равно как и превращаться в клоаку для накопления прибывающего со всего СНГ криминального элемента. На сближение мы должны идти как централизованная славянская держава и своей организованностью и стабильностью способствовать стабилизации российской державы, самоорганизации там славянского населения, высвобождения его из-под влияния враждебных России политических сил»* (Малашко, 1998).

Разам з тым, варта адзначыць, што ў параўнанні з усімі іншымі праектамі нацыі, якія існуюць у беларускай палітычнай прасторы, русацэнтрызм – найбольш жорсткі ды ўстойлівы. Змены, якія адбыліся ў яго ідэйным ядры за апошнія два дзесяцігоддзі, даволі нязначныя і датычаць хутчэй перафармулявання задачаў для палітычнай практыкі. У адрозненне ад дзяржаўніцкага праекту, у русацэнтрызму няма патрэбы непасрэдна падладжвацца пад актуальныя задачы сацыяльна-палітычнага развіцця, што дазваляе яму захоўваць ідэйную чысціню. У адрозненне ад нацыянальнага (нацыянальна-дэмакратычнага) праекту, ён не зазнаў жорсткіх крызісаў, выкліканых выцісканнем з палітычнай сферы і публічнаю маргіналізацыяй. Такая своеасаблівая пазіцыя

дазваляе русацэнтрызму захоўваць некранутымі свае цэнтральныя пастулаты.

## V. Суадносіны з іншымі канцэпцыямі беларускай нацыі

Уласныя ўяўленні русацэнтрызму пра культурна-палітычную прастору ў нашай краіне грунтуюцца на падкрэслена дуалістычнай карціне, дзе магчымыя толькі два полюсы – Дабра і Зла.

Такім чынам, ёсць толькі сілы, якія адстойваюць інтарэсы беларускага народу, і сілы, якія праводзяць антынародную і антынацыянальнай палітыку. У фармулёўцы Якава Трашчанка гэта дзве нацыянальныя ідэі: праваслаўная нацыянальная ідэя і каталіцкі нацыянал-сепаратызм. Адна з іх загадзя «правільная»: *«Историческим традициям белорусского народа, его мировосприятию, его системе ценностей отвечает только первое, православное, направление. Именно за этот путь неизменно голосует подавляющее большинство народа на выборах и референдумах, этот путь олицетворяет харизматический народный лидер А.Г. Лукашенко»* (Трещенок, 2006: 64).

Іншая нацыянальная ідэя ненатуральная і фальшывая, больш за тое – смяротна небяспечная для беларускага народу: *«Католический сепаратизм есть попытка разрушить национальный менталитет, заменить живую сущность искусственной конструкцией. Если бы подобная попытка удалась, то это означало бы духовное убийство народа, после чего последовало бы и его физическое как православного восточнославянского этноса»* (Трещенок, Две...).

Лагер апанентаў паўстае як нешта гамагеннае і статычнае, цалкам пазбаўленае дыферэнцыяцыі і дынамікі. Ёсць толькі ўстойлівыя апісальныя характарыстыкі: «нацыяналісты», «прыслужнікі заходніх паноў» і г. д. Ніякага істотнага адрознення паміж «нацыяналістамі», «дэмакратамі» і «лібераламі» не праводзіцца, усё роўна гэта «здраднікі радзімы», таму нюансы іхных поглядаў для русацэнтрызму ніякай цікавасці не ўяўляюць.

Адпаведна, ніякага дыялогу або дыскусіі паміж апісанымі нацыянальнымі ідэямі быць не можа. Сучасная культурна-палітычная сітуацыя нацыянальнага развіцця Беларусі апісваецца як антаганістычная, дзе магчымая толькі барацьба, хоць так і не зразумела, дзе палягае ўласна тая прастора, у якой можа разгортвацца гэтае супрацьстаянне. Фактычна ж узаемаадносіны складваюцца ў выглядзе аднабаковай палемікі, г. зн. з публікацыяў і выступаў, якія выкарыстоўваюць нейкія фрагменты ідэяў апанентаў і эпізоды, што могуць паслужыць у якасці фактуры для абвінавачванняў. У любым выпадку, апазіцыйны лагер (няхай і ў недыферэнцыяванай якасці) выконвае для русацэнтрызму найважнейшую функцыю «ворага», шмат у чым надаючы сэнс існаванню першага.

Значна складаней правесці падзел паміж русацэнтрызмам і дзяржаўнаю канцэпцыяй беларускай нацыі. Мы ўжо згадвалі пра тое, што руса-

цэнтрызм паслядоўна вытрымлівае палітыку лаяльнасці і адданасці існай уладзе. Яшчэ адна дадатковая цяжкасць – гэта ўключэнне шмат якіх выдатных прадстаўнікоў русацэнтрызму ў дзяржаўную эліту Беларусі. Таму размежавальная лінія паміж гэтымі двума праектамі ў пэўнай ступені размытая, але ўсё ж існуе (інакш і не варта было б увогуле весці гаворку пра асобную канцэпцыю).

Русацэнтрызм як канцэпцыя нацыі – стабільны і канцэнтруецца вакол выразнага кола ідэяў, ён ідэалістычны ў сваёй сутнасці. Дзяржаўная канцэпцыя беларускай нацыі – прагматычная, змяняецца ў залежнасці ад ваганняў сацыяльна-палітычнай сітуацыі.

У праекце русацэнтрызму ствараецца ідэалізаваны вобраз прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі як персаналізаванага ўвасаблення народных інтарэсаў, харызматычнага правадыра, які інтуітыўна ўсведамляе і рэалізуе нацыянальную палітыку. Але пры гэтым для русацэнтрыстаў застаецца магчымасць заняць пазіцыю пільных і свядомых ахоўнікаў народных інтарэсаў, якія могуць больш выразна і поўна бачыць сітуацыю, даваць парады і ўказваць на памылкі.

Пры гэтым існуе пэўнае падабенства ў ідэях, каштоўнасцях ды рыторыцы русацэнтрызму і дзяржаўнага праекту: акцэнтуацыя блізкасці беларускага і рускага народаў, накіраванасць на прыярытэтны саюз з Расіяй, сімпатыі да праваслаўя. Але калі для русацэнтрызму ўсе сістэмы каардынатаў дакладна расстаўленыя (у саюзе з Расіяй выратаванне, Захад жа нясе для Беларусі духоўную і фізічную смерць), то ў дзяржаўным праекце закладзеныя магчымасці для сітуатыўных зменаў і палітычных гульняў (што і было прадэманстравана падчас газавых і малочных войнаў з Расіяй).

Тым не менш, большасць аналітыкаў схільныя не заўважаць гэтых адрозненняў і, больш за тое, спакойна прыпісваюць уладзе поўнае атаясамленне з ідэямі і каштоўнасцямі русацэнтрызму ў жорсткай версіі. Такое спрашчэнне, на наш погляд, прыводзіць да памылковага разумення сутнасці і характару працэсаў, якія працякаюць у культурна-палітычнай сферы Беларусі.

Але пяройдзем непасрэдна да таго, якім чынам уяўляецца і апісваецца беларуская нацыя ў межах праекту русацэнтрызму.

## VI. Палітычная супольнасць

Для канстытуявання любой ідэнтычнасці асноватворным момантам ёсць дзяленне на «сваіх» і «чужых». Уяўленні пра «сваіх» у русацэнтрызме можна апісаць як канцэнтрычныя колы, дзе ў самым цэнтры – беларусы. Затым больш шырокая супольнасць «сваіх» – рускі народ. І, нарэшце, яшчэ больш шырокая і разам з тым размытая супольнасць – славянскі свет.

Цэнтральным паняццем, несумненна, ёсць катэгорыя «беларускага народу». Яна ў межах гэтага праекту не паддаецца дакладнай канцэптуалізацыі, хаця ў якасці галоўнай характарыстыкі, вядома, вылучаецца сутнасная прыналежнасць беларус-

кага народу да рускай цывілізацыі. Часта пры дэскрыпцыі «беларускага народу» ўжываюцца клішэ савецкіх часоў – вобразы простых працаўнікоў, працоўных людзей і г.д.

Тэарэтычную канцэптуалізацыю на больш высокім узроўні можна сустрэць у Якава Трашчанка, які звяртаецца ўжо не да рытарычных постацяў савецкай эпохі, а да сучаснай тэрміналогіі сацыяльнай веды і ўжывае паняцце «палітычнай нацыі»: *«Все граждане данной страны, независимо от этнического происхождения, составляют единую политическую нацию. Так, наша страна называется Беларусью, хотя, кроме составляющих большинство белорусов, ее населяют представители многих других этносов. А проживающая в Беларуси полиэтническая по составу нация называется белорусской нацией»* (Трещенок, 2006: 25).

Але русацэнтрызм далёкі ад мадэлі грамадзянскага нацыяналізму, якая прадугледжвае інклюзіўнасць паводле палітычнага прынцыпу (усе грамадзяне краіны ўтвараюць палітычную нацыю). Па-першае, вельмі моцны акцэнт робіцца на эсенцыяльна ўласцівыя беларускаму народу характарыстыкі (культура, дух, менталітэт), а гэта значыць, што акрамя грамадзянскай прыналежнасці для залічэння ў беларусы трэба валодаць і нейкімі культурнымі якасцямі. Адпаведна, каб трапіць у лік у беларусаў, відавочна недастаткова проста грамадзянства, і тут Трашчанок супярэчыць сам сабе: *«Белорус сегодня может исповедовать любую религию или быть атеистом, но белорусом его делает реальная принадлежность к генетически восточнохристианской подсистеме европейской цивилизации и восточнославянской (общерусской) культуре, неотъемлемой частью которой является и белорусская культура»* (Трещенок, 2006: 35). Такім чынам, у якасці галоўнага крытэру прыналежнасці да беларускай нацыі ўсё ж выступае не этнічнае паходжанне і грамадзянская прыналежнасць, а атаясамленне са спецыфічным комплексам каштоўнасцяў.

З іншага боку, з беларускага народу выключаецца частка этнічных беларусаў, якія маюць іншыя палітычныя погляды. Іншае, шырэйшае кола «свайго» народу – гэта рускі народ, рускі свет, руская цывілізацыя, часткай якога, на думку ідэолагаў русацэнтрызму, несумненна ёсць беларусы. *«Мы рассматриваем белорусский народ в качестве неотъемлемой части русского народа. Для нас понятие «русский» – не то же самое, что и «великорусский». Великороссы – всего лишь часть русского народа, другими его частями являются белорусы, малороссы (украинцы), русины. Иначе говоря, белорусы, великороссы, малороссы и русины – это субэтносы единого русского этноса»* (Ложь и правда…, 1994).

І, нарэшце, больш шырокі арэал «сваіх» – гэта славянскі свет. Хоць маркер «славянскага» часта выкарыстоўваецца для абазначэння «сваёй» агульнасці, само яго напаўненне значна разыходзіцца з этналінгвістычнымі крытэрамі. Часцей за ўсё тэрмін «славянскі» выкарыстоўваецца для абазначэння ўсходнеславянскіх народаў (рускія, украінцы,

беларусы), у той час як заходнія і паўднёвыя славяне маюць вельмі сумнеўны статус адносна прыналежнасці да ўяўнага «славянскага свету». Асабліва гэта датычыць тых нацыяў, дзе распаўсюджаны каталіцызм. Але і для праваслаўных паўднёваславянскіх народаў месца ў асяродку славянскай цывілізацыі не прадугледжваецца. Яны застаюцца на перыферыі мыслення і рыторыкі русацэнтрызму.

## VII. Мінулае беларусаў

Русацэнтрызм мае моцную гістарыяграфічную традыцыю, якая чэрпае свае вытокі як з гістарычных пабудоваў заходнерусізму, так і з савецкай гістарыяграфіі. Мы ўжо адзначалі, што да фармулявання гэтага праекту прыцягваюцца шматлікія прафесійныя гісторыкі (у тым ліку са ступенямі кандыдатаў і дактароў навук).

У цэлым можна сцвярджаць, што менавіта для русацэнтрычнага і нацыянальна-дэмакратычнага праектаў адсылкі да мінулага граюць істотную ролю пры легітымацыі сваіх прэтэнзіяў на сучаснасць Беларусі (у той час як дзяржаўны праект хутчэй выкарыстоўвае напрацоўкі сваіх канкурэнтаў). Больш за тое, праект русацэнтрызму выглядае гістарысцкім, дзе цэнтр ляжыць менавіта ў мінулым.

Апеляцыі да мінулага ў межах гэтага ідэалагічнага праекту маюць дзве асноўныя мэты (яны непасрэдна вынікаюць з дыхатамічнага характару гэтага тыпу светапогляду): легітымацыя на гістарычным матэрыяле ўяўлення пра беларускі народ як неад'емную частку рускага суперэтнасу і, адпаведна, дэ-легітымацыя «ворагаў» і «чужароднай» інтэрпрэтацыі беларускага мінулага, зноў жа з дапамогаю шырокага выкарыстання гістарычных фактаў.

Спачатку разгледзім, як рэалізуецца першая мэта. Яна вынікае з асноватворнага сцвярджэння, краевугольнага каменя гэтага ідэалагічнага праекту: беларусы – гэта частка рускага суперэтнасу. *«Белорус, как великоросс и украинец, по своему миросозерцанию, практической жизни и культуре является русским человеком, а Беларусь, как Россия и Украина, составляют часть единой русской цивилизации. Белорус этнически, исторически и духовно – это русский человек»* (Криштапович, 1998b).

Пошукі агульных каранёў сыходзяць да мяжы I–II тыс. н. э., калі ўсходнеславянскія плямёны, на думку ідэолагаў русацэнтрычнага праекту, утварылі феадальны саюз – *Рускую зямлю, Русь*. Адсюль выцякаюць карані адзінства рускага народу, якое захоўваецца да гэтага часу. Захоўваецца наўпроставая пераемнасць гістарыяграфічных пабудоваў з працамі прадстаўнікоў заходнерусізму і савецкаю гістарычнаю школаю, якія абгрунтоўвалі сваяцтва рускага, беларускага і ўкраінскага народаў, што бяруць вытокі ў Кіеўскай Русі. *«Из Древнерусского государства, или Киевской Руси, сложившейся древнерусской народности выросли впоследствии различные, но единые в своей основе по общности происхождения, языка, православной веры, культуре и духовности белорусская, украинс-*

*кая и великорусская (русская) народности»* (Петриков, 2007: 33).

Цывілізацыйнае адзінства, якое склалася на аснове праваслаўя, не разарвалася і тады, калі на руінах «Рускага свету» ўтварыліся варагуючыя адна з адною дзяржавы: Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Маскоўскае. Уласна, з гэтага моманту ва «ўлонні адзінага рускага народу» афармляецца дзяленне на тры новыя этнасы, якія аднак у межах русацэнтрычнай канцэпцыі разглядаюцца як часткі адзінага суперэтнасу.

Тут з'яўляецца вобраз аднаго з зацятых ворагаў рускага народу (і, адпаведна, беларускага) – палякаў, ці, дакладней, польскай палітычнай эліты Рэчы Паспалітай, якая нібыта ставіла мэтаю знішчэнне ўсходнеславянскай праваслаўнай цывілізацыі з дапамогаю прымусовага апалячвання і акаталічвання. Асабліва негатыўна разглядаецца засваенне мясцоваю шляхтаю польскай культуры і пераход у каталіцызм, што расцэньваецца як акт здрады ў адносінах да «традыцыйнай» праваслаўнай культуры, які меў найцяжэйшыя наступствы для развіцця беларускага народу: *«В итоге к концу XVIII в. белорусский этнос оказался практически без своей элиты, интеллигенции, школ, литературного языка, книгопечатания. В Речи Посполитой он был обречен на полонизацию, этническое вымирание и исчезновение с карты Европы»* (Петриков, Основные этапы…).

Актыўную дапамогу ў разбурэнні праваслаўнай (рускай) цывілізацыі на беларускіх землях аказалі яшчэ адныя ідэнтыфікаваныя ворагі – езуіты: *«Основная деятельность иезуитов в Белоруссии сводилась к денационализации нашего народа, хотя она и прикрывалась якобы высшими государственными и религиозными целями»* (Криштапович, 1999: 78). Інструментам такога разбуральнага ўздзеяння служыла царкоўная унія, стаўленне да якой у рамках русацэнтрызму рэзка адмоўнае.

У цэлым перыяд гісторыі Вялікага княства Літоўскага ў гістарыяграфічных пабудовах гэтага праекту не мае асаблівага семантычнага значэння, ён разглядаецца толькі як пераходны да перыяду Рэчы Паспалітай – часу прыгнёту і заняпаду. Прычым прыгнёт польскай шляхты меў два асноўныя вымярэнні: культурна-рэлігійнае і сацыяльна-эканамічнае.

Ці варта здзіўляцца, што раздзел Рэчы Паспалітай і далучэнне беларускіх зямель да Расійскай імперыі набывае статус выратавальнага акту для прыгнечанага беларускага народу, ледзьве не боскага ўмяшання, якое выратавала этнас ад пагрозы канчатковага апалячвання: *«Присоединение земель Беларуси к Российской империи, включение белорусского этноса в родственный великорусский историко-культурный организм открыли новую страницу нашей истории. Закончилась борьба белорусов за выживание в условиях ВКЛ и Речи Посполитой. Начался трудный процесс возрождения исторической памяти и самосознания белорусского народа, развития его духовности и культуры, национально-государственного самоопределения»* (Петриков, 2007: 35).

Праз адпаведную прызму апісваецца і гісторыя XIX ст. як ледзь не залаты век для беларусаў. Сувораў

і Мураўёў паўстаюць як абаронцы і заступнікі (*радетели*) беларускага народу, у той час як Касцюшка і Каліноўскі зрынаюцца з вяршыні нацыянальнага пантэону і трапляюць у катэгорыю «каталіцкіх нацыянал-сепаратыстаў», карані якіх сыходзяць да адвечных прыгнятальнікаў беларускага сялянства – польскай шляхты.

Тэрмін «сепаратызм» выкарыстоўваецца ў гэтым праекце як замена «нацыяналізму», рэабілітаванаму ў расейскім патрыятычным дыскурсе 1990-х гг. У публічнай мове Беларусі азначэнне «нацыяналісты» трывала замацавалася за нацыянальнымі палітычнымі сіламі, таму русацэнтрысты правялі семантычную аперацыю замяшчэння «нацыяналістаў» «сепаратыстамі».

Стаўленне ж да савецкага перыяду ў межах русацэнтрычнага праекту неадназначнае. З аднаго боку, Савецкі Саюз заўсёды апісваецца як магутная дзяржава, якая прынесла адчувальныя выгады беларускаму народу: *«Революция разбудила энергию и энтузиазм трудящихся. За короткий срок, отведенный историей, ценой неимоверных усилий страна сохи и цепа превратилась в могучую индустриальную державу, с которой вынуждены были считаться ведущие государства Запада. После революции в стране была создана система гарантированной трудовой занятости, обеспечены бесплатное образование и здравоохранение, право на отдых. Беларусь, которая в послеоктябрьский период обрела государственность, в союзе с другими братскими республиками совершила рывок в создании мощного экономического потенциала, развитии культуры и образования. Для белорусов, в прошлом крестьянской нации, был открыт такой доступ к знаниям, которого они не знали за всю историю своего существования»* (Козляков, 1997).

Найбольш устойлівыя станоўчыя ацэнкі ўласцівыя палітычным колам, блізкім да камуністаў, а таксама старой генерацыі гісторыкаў (Петрыкаў, Сташкевіч ды інш.).

З іншага боку, сярод некаторых прадстаўнікоў русацэнтрызму (у першую чаргу ў Скобелева, Трашчанка, Сяргеева) перыядычна прасочваюцца крытычныя выпады ў адносінах да савецкай дзяржавы, дзе асноўныя папрокі зводзяцца да падкрэслівання бюракратызацыі ўлады і абвінавачвання ў гвалтоўнай беларусізацыі.

У любым выпадку, распад СССР разглядаецца як трагічная падзея, найперш з той прычыны, што разбурылася натуральнае адзінства рускага суперэтнасу, вынікам чаго сталі катастрафічныя эканамічныя і культурныя працэсы.

Іншая стратэгія звароту да гістарычнага мінулага – гэта барацьба супраць «фальсіфікацыі» гісторыі палітычнымі апанентамі русацэнтрызму (гаворка ідзе найперш пра гісторыкаў з нацыянальна-дэмакратычнага лагеру). Калі праглядзець публікацыі на гістарычную тэму ў адпаведнай перыёдыцы, то колькасць матэрыялаў, прысвечаных «правільнаму» выкладанню гісторыі, роўная аб'ёму крытыкі «няправільнага разумення мінулага».

Варта адзначыць, што крытыка нацыянальнай гістарыяграфіі бачыц-

ца ў цэлым адною з найважнейшых задачаў, артыкуляваных у праекце русацэнтрызму. Падкрэсліваецца «ненавуковы» і «негістарычны» характар нацыянальнай гістарыяграфіі: *«Культурологической особенностью националистической исторической школы – совершенно необоснованно претендующей на представительство белорусской национальной историографии – является школярское изучение истории Белоруссии. Такое изучение, не требуя вдумчивого исследования, обычно удовлетворяется поверхностными историческими аналогиями и внешней фактурой»* (Криштапович, 1999: 11). Яшчэ адно метадалагічнае абвінавачванне – у «езуіцкім» абыходжанні з гістарычнымі фактамі, калі праціўнікаў вінавацяць у ігнараванні кантэксту, падтасоўванні ды перакручаных інтэрпрэтацыях.

У рэчышчы адзначанага канспіралагізму ў гісторыкаў, якія адстойваюць нацыянальна-дэмакратычную версію беларускага мінулага, знаходзіцца цэлы набор далёкасяжных намераў. Найперш іх абвінавачваюць у стварэнні штучных перашкодаў паміж беларускім і рускім народамі, што, як мы памятаем, у праекце русацэнтрызму паўстаюць непарыўным цэлым. Праца з гістарычным мінулым выглядае як інструмент для рэалізацыі пэўных палітычных мэтаў: *«Играя на историческом невежестве обывателя и пытаясь спровоцировать антирусские настроения у простого человека, националисты стремятся вбить клин между братскими народами, чтобы и дальше проводить антинародные и антинациональные реформы в Белоруссии в угоду своим западным хозяевам»* (Криштапович, 1999: 24).

Тут можна вылучыць некалькі ключавых эпізодаў для беларускай гістарыяграфіі, якія падвяргаюцца «ачыстцы» ад фальсіфікацыяў і «нацыяналістычных скажэнняў» гісторыкамі, якія захоўваюць адданасць парадыгме русацэнтрызму:

1) указанне на агульнарускі характар Кіеўскай Русі. З гэтай прычыны аспрэчваецца інтэрпрэтацыя Полацкага княства як пачатку беларускай дзяржаўнасці;

2) выкрыванне ўяўлення пра перыяд Вялікага княства Літоўскага як пра залаты век для беларускай нацыянальнай гісторыі (сцвярджаецца, што ўлада ў гэтай дзяржаве належала чужароднай у этнічным і рэлігійным плане эліце, апроч гэтага ВКЛ разглядаецца толькі як пераходны перыяд да палітыкі апалячвання і акаталічвання ў Рэчы Паспалітай);

3) рэабілітацыя сталінскага рэжыму, якая разгортваецца ў дзвюх асноўных плоскасцях: акцэнтуацыя кіроўнай ролі Сталіна ў перамозе ў Вялікай Айчыннай вайне і крытыка прыпісвання камуністычнаму лідэру арганізацыі масавых рэпрэсіяў (на гэтай ніве асабліва плённа працуе старшыня таварыства «Гістарычныя веды», доктар гістарычных навук Адам Залескі).

Гістарычны базіс у праекце русацэнтрызму вельмі грунтоўны, бо выкарыстоўваюцца як напрацоўкі гісторыкаў-заходнерусаў, так і багатая спадчына савецкай школы гістарыяграфіі. Але пры надзвычай шырокім выкарыстанні гістарычнага

матэрыялу бачанне мінулага ў праекце русацэнтрызму своеасаблівае. Можна казаць у гэтым выпадку пра наяўнасць асаблівай гістарыясофіі, цалкам ненавуковай па сутнасці. З аднаго боку, уся гістарычная фактура падладжваецца пад ужо зададзеную жорсткую інтэрпрэтацыйную схему, што дазваляе абыходзіцца без гіпотэзаў і даследаванняў, бо ў гісторыі адкрываць ужо няма чаго, яе сэнс і прызначэнне ясныя і зразумелыя.

З іншага боку, у праекце русацэнтрызму мінулае маналітнае, яно не мае храналагічнай восі, што дазваляе змешваць розныя гістарычныя эпохі і розныя сацыяльныя слаі ў ідэалагічных калажах. Польскія шляхціцы, калабаранты, езуіты, гітлераўцы, бэнэфаўцы – гэта адзін агульны вораг, з аднолькавымі ідэямі ды памкненнямі. Зноў жа, трыадзіны рускі народ паўстае як вечная і нязменная духоўная сутнасць, характар і каштоўнасці якой у крышталізаванай форме існуюць цягам тысячагоддзяў. Эсенцыялізм тут набывае крайнюю форму выказвання, дзе гістарычныя факты выкарыстоўваюцца для ўзбагачэння апісання ідэалістычных сутнасцяў.

## VIII. Сучаснасць

Немагчыма ўявіць сучасную карціну свету, якая малюецца ў русацэнтрызме, без уліку характарыстык гэтага ідэалагічнага праекту, што акрэсліваліся раней. Такім чынам, у ідэалогіі русацэнтрызму свет успрымаецца строга дуалістычна, жорстка дзеліцца на дзве часткі, паміж якімі няма пераходаў і кампрамісаў: Усход – Захад, Дабро – Зло, Бог – Сатана і г. д.

Натуральна, што пазітыўны полюс ўтварае рускі народ або яго семантычны заменнік, славянскі свет. Фактычна можна сцвярджаць, што «чалавечнасць» і «гуманнасць» зводзяцца да рускага /славянскага свету. Пры гэтым толькі рускі народ валодае духоўнасцю, культурай і, адпаведна, цывілізацыяй. Увесь астатні свет успрымаецца як прастора, цалкам падпарадкаваная сілам зла, якія імкнуцца знішчыць апошнюю апору цывілізацыі ды высокага духу.

Рускі народ валодае унікальнаю правідэнцыйнаю місіяй, якая сягае маштабу выратавання ўсяго свету. Ва ўяўленнях ідэолагаў русацэнтрызму свет ужо стаіць на мяжы катастрофы, поўнага знікнення, і толькі рускі народ можа перадухіліць яго пагібель.

Будучая (і, магчыма, непазбежная) катастрофа мае два найважнейшыя вымярэнні: сыравіннае і духоўнае. Як ні дзіўна, але менавіта барацьба за рэсурсы робіцца галоўным тлумачальным матывам для шмат якіх працэсаў, што адбываюцца ў сучасным свеце. Распад Савецкага Саюзу апісваецца выключна як старанна спланаваная і тэхналагічна здзейсненая акцыя з боку заходняга свету, выкліканая жаданнем захапіць шырокія сыравінныя запасы гэтай дзяржавы.

Іншае найважнейшае вымярэнне крызісу сучаснага свету заключаецца ў духоўнай сферы, заходняя цывілізацыя апісваецца як дэгенератыўная, бездухоўная, матэрыялістычная. Захад, які дэградаваў і раскладаецца, да

таго ж спрабуе агрэсіўна падпарадкаваць сабе і апошнюю апору цывілізацыі – рускую культуру, пераважна з дапамогаю мас-культуры і медыяў: *«Детские души программируются на жизненный стандарт, честными средствами не достижимый, а заодно формируется психологический фильтр, через который в душу юных просачивается только культурная дешевка и отцеживается все истинно прекрасное и человеческое. Из западной культуры усваиваются не ее шедевры, а ее отбросы. Формируется то невежество в отечественной и мировой культуре, которое прививали гитлеровские культуртрегеры на оккупированных славянских территориях. В результате воспитываются две категории людей – рабочее быдло, не догадывающееся о том, что оно быдло, и янычары на тот случай, если вдруг это быдло поумнеет и взбунтуется»* (Титов, 1997).

Такім чынам, сучасная рэальнасць апісваецца як перманентная духоўная ды інфармацыйная вайна, якая вядзецца супраць славянскага свету. Тут мы падыходзім да шматграннага і складанага вобразу экзістэнцыйнага «ворага» для беларусаў / рускага народу / славянаў. Пры сталым рэтушаванні гэтага вобразу, які адсылае да яго таямнічасці і магутнасці (інакш складана было б падтрымліваць канспіралагічнае напружанне), усё ж паводле сукупнасці тэкстаў можна рэканструяваць сутнасць і паходжанне гэтага «ворага», які найчасцей азначаецца як «таемны сусветны ўрад».

Генеалогія яго сыходзіць каранямі далёка ў гісторыю, а дакладней да такой рэлігійна-палітычнай дактрыны як сіянізм, што апісваецца як «расісцкая антычалавечая ідэалогія». Цалкам ігнаруецца гістарычны кантэкст, у якім палітычны рух сіянізму ставіў сваёй галоўнаю мэтаю аб'яднанне і адраджэнне габрэйскага народу на яго гістарычнай радзіме – у Ізраілі. Замест гэтага запазычваецца канспіралагічны міф, надзвычай распаўсюджаны сярод расійскіх нацыянал-патрыётаў, пра злавесную скіраванасць сіяністаў на дасягненне сусветнага панавання. *«Цель сионистов заключается в установлении финансового и политического контроля в мире через своих людей в правительствах, в сферах бизнеса, банковского и фондового капитала, через подчиненные СМИ. Этакая гигантская монополия кучки сверхбогатых евреев, помешавшихся на идее обогащения (у них один бог – доллар!)»* (Диктатуров, 1997). Больш за тое, нават еўрапейскі фашызм апісваецца як спараджэнне сіянізму[3].

Яшчэ адною злавеснаю таемнай арганізацыяй лічацца масоны. Зноў жа, тэорыя і практыка масонскіх

[3] Хоць можна сустрэць і іншую генеалогію фашызму як спараджэння заходняй дэмакратыі: «Фашизм закономерно вырос из того уровня западной демократии, явился логическим продолжением ценностей того капитализма. Именно поэтому крупная буржуазия, финансовые воротилы сделали ставку на открытую террористическую диктатуру, призванную удушить рабочее движение и социализм, защитить интересы капитала. Именно в этом заключается основная причина возникновения фашизма» (Козляков, 1998).

ложаў таксама цалкам ігнаруецца, замест гэтага фантазія апалагетаў русацэнтрызму будуе фантастычныя вобразы ўладных пірамідаў са сплаўленых у адно сіяніцкіх і масонскіх кланаў, найперш у Ізраілі ды ЗША. Вонкавая палітыка гэтых дзяржаваў успрымаецца як цалкам падкантрольная ўсёмагутнаму сіяніцка-масонскаму таемнаму ўраду: *«В США довольно прочно укоренился иудо-сионизм, действует мощное произраильское лобби. Империализм США, сросшийся с сионизмом, открыто претендует на мировое господство, угрожая народам томагавками, беря на себя жандармские функции»* (Диктатуров, 1997).

Асаблівая ўвага надаецца ідэалагічным супернікам праекту русацэнтрызму, якія абвяшчаюцца свядомымі агентамі «таемнага сусветнага ўраду», або, у найлепшым выпадку, служаць пешкамі ў чужых руках. Гэта адна са своеасаблівых «аксіёмаў», сталых матываў, што паўтараюцца ледзь не ў кожных артыкуле ці кнізе, створаных «спікерамі» русацэнтрызму.

Мы ўжо адзначалі своеасаблівы гістарызм, характэрны для русацэнтрызму. Адбіваецца ён і на выяве «ворагаў» у будаўніцтве беларускай нацыянальнай ідэнтычнасці – нацыянал-дэмакратаў, якім прыпісваецца тоеснасць з гістарычнымі сіламі, што ідэолагі русацэнтрызму ўспрымаюць як варожыя беларускаму/ рускаму народу. Пры гэтым зноў жа ўлюбёным рытарычным прыёмам ёсць змешванне розных гістарычных часоў, калі ў адным сказе як эквіваленты могуць выкарыстоўвацца польская шляхта, калабарацыяністы часоў Другой сусветнай вайны і сучасныя беларускія нацыянальныя дэмакраты. Для русацэнтрызму гэта ўсё адно і тое ж – смяротна небяспечны «вораг», які падлягае знішчэнню.

У мяккім варыянце гаворка ідзе пра падабенства памкненняў, каштоўнасцяў і практыкаў, у больш жорсткім – пра непасрэдную пераемнасць. Па сутнасці, цалкам у рэчышчы эсенцыялісцкіх уяўленняў беларускім «нацыяналістам» прыпісваецца «спрадвечная» цяга да здрады. Праводзяцца сталыя паралелі з мясцовую шляхтаю, якая здзейсніла «здраду», прыняўшы каталіцызм і польскую мову, затым з беларускімі нацыянальнымі дзеячамі, якія стварылі БНР і зноў жа «здрадзілі» інтарэсам краіны (папулярным прыкладам тут выступае славутая тэлеграма кайзеру Вільгельму), ну і, нарэшце, улюбёным параўнаннем ёсць сталыя генеалагічныя рэканструкцыі дзейнасці калабарацыяністаў часоў Другой сусветнай вайны.

Пры гэтым беларускіх нацыяналістаў абвінавачваюць у спробах рэабілітаваць калабарацыяністаў, што, на думку прадстаўнікоў русацэнтрызму, ёсць яшчэ адным наўпроставым сведчаннем тоеснасці «здраднікаў» розных часоў (Козляков, 1998). Асабліва дастаецца БНФ: *«Не кто иной, как БНФ, поднял на щит и самых злейших врагов белорусского народа, его кровавых палачей – коллаборационистов, служивших Гитлеру»* (Степаненко, 1999).

Такім чынам, паводле ўяўленняў русацэнтрыстаў, Беларусі (і, шырэй, руска-славянскай цывілізацыі) супрацьстаіць таемны сіяніцкі ўрад,

які кантралюе практычна ўвесь свет і абапіраецца на «пятую калону» ўнутры рэспублікі: *«Ни для кого не секрет, что республика буквально нашпигована различного рода фондами, резидентами, магистрами, эмиссарами различных западных организаций, сектами западного происхождения и прочими «агентами влияния», ведущими тайно и явно свою подрывную деятельность. В эту мышиную возню подключились даже представители иностранных посольств»* (Баранкевич, 1996). Як агентаў заходняга ўплыву апісваюць і прадстаўнікоў розных апазіцыйных палітычных рухаў: *«Что стоит за страстным желанием Запада «демократизировать Беларусь»? Сформировать так называемую «политическую элиту», передав ей полноту власти. Проще говоря, подготовить администрацию для будущей колониальной Беларуси, которая верой и правдой стала бы служить новому хозяину»* (Акулов, 1997). Мэтай іх ёсць не толькі ўсталяванне заходняга кантролю над краінаю, але і ўмяшанне ў аб'яднаўчы працэс славянскіх народаў.

І ўсё ж ацэнкі сучаснай сітуацыі ў краіне ў межах русацэнтрызму маюць хутчэй аптымістычны характар. Сцвярджаецца, што планы падначаліць малую незалежную краіну пацярпелі паразу, што тлумачыцца дзвюма асноўнымі прычынамі.

Па-першае, каштоўнасці заходняга свету, з арыентацыяй на скнарнасць і эгаізм, аказваюцца арганічна чужымі нязменнаму і ўстойліваму характару беларускага /рускага народу: *«Негативное отношение нашего народа к западной системе ценностей обусловлено его цивилизационной природой»* (Храмов, 1997). Таму ўсе спробы беларускіх нацыянальных дэмакратаў навязаць іншую сістэму светапоглядных каардынатаў аказваюцца загадзя асуджанымі на правал: *«Их взгляды не способны вместить незыблемые для славянина абсолютные ценности, понять народный архетип, сохраняющий глобальную историческую субъектность всей славяно-православной цивилизации. Изобретенный «за бугром» для белорусов так называемый «национализм» ни в этнической, ни в государственной упаковке никакого отношения к славянскому миру не имеет и не может соблазнить белорусов, которые мыслят и чувствуют другими масштабами»* (Гурин, 1997).

Па-другое, асаблівае значэнне надаецца той ролі, што выконвае прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка, які разглядаецца ў якасці персаніфікаванага ўвасаблення каштоўнасцяў народу: *«Совсем не случайно миллионы людей называют А. Лукашенко «бацька»: он призван осуществить народные чаяния, и он, как никто другой на территории СНГ, стремится осуществлять их»* (Скобелев, 1997). Але калі народу прыпісваецца пасіўнае непрыманне чужых яму каштоўнасцяў, то Лукашэнка выступае як актыўны актор, што ажыццяўляе выратавальную місію для перадухілення змовы супраць беларускага народу.

Такім чынам, сучасная сітуацыя ў Беларусі апісваецца як супрацьстаянне дзвюх сілаў – беларускага народу

(увасабленнем духу і каштоўнасцяў якога выступае Аляксандр Лукашэнка) і таемнага сусветнага ўраду, які з дапамогаю сваіх агентаў – апазіцыйных сілаў – спрабуе ўсталяваць кантроль над краінаю. Пры гэтым такое супрацьстаянне набывае яшчэ больш значную перспектыву. Беларусь (і яе прэзідэнт) разглядаецца як апошні бастыён рускага свету, які адстойвае каштоўнасці славянскай цывілізацыі перад агрэсіўным надыходам таемнага сусветнага ўраду: *«И именно потому, что Беларусь противодействует западным планам, сохраняет славяно-советскую цивилизационную природу, она подвергается яростным нападкам со стороны всех прозападных сил. Образно говоря, все силы ада брошены сегодня на Беларусь, чтобы сбить ее со славянской орбиты и привязать к западной колеснице, несущейся в преисподнюю»* (Криштапович, 1997).

Адпаведна, Беларусь надзяляецца статусам «ратаўніцы свету», бо ўся чалавечая цывілізацыя прыраўноўваецца да Русі: *«Пока только Беларусь сохраняет потенциальную возможность возбудить остальную Русь на великие дела... Уже сейчас Лукашенко подсознательно действует в духе славянского учения. В качестве примера можно взять союз Белоруссии и России. Пока это лишь формальное объединение, но если его наполнить содержанием, Русь не только спасется сама, но и спасет другие народы от надвигающейся катастрофы»* (Немчинов, 2002: 175).

Адпаведна, гэта надзяляе палітычнае супрацьстаянне візіянерскім вымярэннем, дзе абаронцы каштоўнасцяў славянскай цывілізацыі разглядаюць сябе ў якасці апошніх абаронцаў Добра: *«Мы объявляем священную войну Мировому Злу. Наперекор всему мы крупица за крупицей будем закладывать фундамент будущего Величия и Возрождения»* (Геращенко, 1994).

## XIX. Прагноз развіцця

Прагнастычныя сцэнары ў праекце русацэнтрызму насычаныя эсхаталагічнымі ноткамі, што вынікае з апісання сапраўднай сітуацыі: практычна ўвесь свет трапляе пад кантроль таемнага сіяністкага ўраду, і толькі Беларусь застаецца выспаю свабоды, таму прапаноўваюцца толькі два сцэнары – у залежнасці ад таго, ці ўдасца супернікам падпарадкаваць нашу краіну.

Такім чынам, у публіцыстычных працах прадстаўнікоў русацэнтрызму шмат увагі надаецца апісанню трагічных карцінаў будучага свету, ператварэння большасці людзей у паслухмяных рабоў у выніку ўстанаўлення дыктатуры глабалістаў.

Мяркуецца, што першым крокам да канца свету стане прыход да ўлады марыянетачных сілаў, якія здадуць нашу краіну пад заходні кантроль. Адпаведна, знікнуць усе шанцы для аднаўлення саюзу славянскіх народаў, адзінай надзеі для выратавання ўсяго свету.

Карціна ж «новага сусветнага парадку» выглядае жахліва. Новы парадак прадугледжвае ўсталяванне палітычнага і эканамічнага кантролю таемнага ўраду над усімі краінамі свету праз сваіх стаўленікаў, а таксама з

дапамогаю міжнародных фондаў. На тэрыторыі былога Савецкага Саюзу задачаю «сіяністаў» будзе максімальнае раздрабненне дзяржаваў, перашкоды якім-небудзь інтэграцыйным працэсам, што спросціць усталяванне поўнага кантролю над гэтымі тэрыторыямі. Паралельна будзе ісці працэс навязвання заходніх каштоўнасцяў, якія ўспрымаюцца як цалкам чужыя славянскаму духу, і, адпаведна, вынікам стане толькі разбурэнне асноваў славянскай цывілізацыі.

З аднаго боку, стварэнне нацыянальных дзяржаваў пры развале Савецкага Саюзу разглядаецца як непасрэдны вынік падпольнай актыўнасці таемнага сусветнага ўраду і яго агентаў, але з другога – ужо і самі нацыі падлягаюць далейшаму знішчэнню як перашкоды на шляху ўсталявання татальнага кантролю над светам: «Но его (Запада – **А.Л.**) *цель – упразднение национальных культур и их жизнеспособности, поглощение западной цивилизации монстром мондиализма, который является геополитическим орудием шайки, мечтающей о мировой гегемонии и упорно пролагающей к ней дорогу*» (Скобелев, 1997).

Пры гэтым карціна будучага ліберальна-дэмакратычнага свету відавочна мае ярка выяўленыя апакаліпсічныя ўласцівасці, калі задача «сусветнага закулісся» – «*превратить многоцветье современного мира в некое, лишенное красок, «геополитическое пространство», на котором Сатана и его слуги будут водить свои бесовские хороводы*» (Акулов, 1997).

Такія матывы спрыяюць узмацненню матывацыі для сацыяльнай мабілізацыі прыхільнікаў праекту русацэнтрызму, ускладанню на іх асаблівай місіі ратавання свету.

Ужо згадвалася, што фактычна адзінаю перашкодаю для эсхаталагічнага сцэнару ёсць Беларусь, з яе славянскімі каштоўнасцямі ды месіянскім правадыром Аляксандрам Лукашэнкам. Гэта прадугледжвае безумоўнае падтрыманне ягонай палітыкі, што разглядаецца як практычная рэалізацыя каштоўнасцяў ды ідэалаў русацэнтрызму. Фактычна праграмныя патрабаванні зводзяцца да працягу эканамічнай, сацыяльнай і культурнай палітыкі, якая праводзіцца прэзідэнтам Беларусі.

Асаблівае значэнне надаецца «аднаўленню» саюзу славянскіх народаў (хаця цалкам дапушчальнаю выглядае рэдукцыя да саюзу з Расіяй). Рускі народ разглядаецца выключна як трыадзінства трох народаў, таму разбурэнне гэтай цэласнасці адчуваецца як балючая траўма, што замінае захаванню культуры і адстойванню сваёй дзяржаўнасці. Таму саюз з Расіяй набывае статус найважнейшай задачы, хоць перспектывы яго прапісваюцца даволі цьмяна.

Найбольш канкрэтна выглядаюць указанні на пэўныя эканамічныя выгады, якіх можна дасягнуць з дапамогаю гэтага саюзу: доступ да найбагацейшых расійскіх сыравінных запасаў, агульны рынак і г. д. Яшчэ адным найважнейшым матывам для аб'яднання выступае магчымасць больш паспяхова супрацьстаяць агрэсіўным планам «сіяніскага ўраду»: «*Сегодня исторический водо-*

*раздел в Беларуси проходит не между демократией и диктатурой, а между колониальной зависимостью от Запада и объединением Беларуси и России в Союзное государство, ведущим к освобождению от западной зависимости и антинародных реформ»* (Криштапович, 1998a).

Але больш значны гэты саюз усё ж з ідэалістычных прычынаў, якія ў праекце русацэнтрызму заўсёды кладуцца ў аснову. Мяркуецца, што са стварэннем Саюзнай дзяржавы кладзецца пачатак адраджэнню гуманнай сістэмы каштоўнасцяў – сацыяльнай справядлівасці, нацыянальнай роўнасці, працы, салідарнасці, агульнасці, узаемадапамогі. Ніякіх канкрэтных механізмаў і шляхоў устанаўлення такога ідэальнага стану не прапісваецца: простая ліквідацыя падзелу, які так балюча і траўматычна перажываецца, ужо мусіць прывесці да гарманічнага грамадства.

## Заключэнне

Пэўны час праект русацэнтрызму цалкам паспяхова ўпісваўся ў ідэалагічны парадак дня беларускай улады, што асабліва было заўважна ў другой палове 1990-х гг., калі найбольш актуальным быў план пабудовы саюзнай дзяржавы з Расіяй. Тады ідэі русацэнтрызму разглядаліся як абгрунтаванне гэтага геапалітычнага альянсу. Але зафіксаваная жорсткасць і нягнуткасць гэтага ідэалагічнага праекту прывяла да паступовага адцяснення прадстаўнікоў русацэнтрызму ад уплыву на прыняцце канкрэтных палітычных рашэнняў. Пры захаванні за вядучымі «спікерамі» прэстыжных месцаў пры ўладзе, сам русацэнтрызм усё менш адпавядае сітуацыйным і дынамічным дзяржаўным інтарэсам. Абраная стратэгія выхаду з эканамічнага крызісу (лібералізацыя, дапамога ад міжнародных фінансавых арганізацыяў) прыводзіць да падрыву і распаду ўстойлівых русацэнтрычных ідэалагемаў (напрыклад, Лукашэнка як гераічны змагар з міжнароднаю фінансаваю сістэмаю). Адпаведна, сучасная сітуацыя ставіць перад праектам русацэнтрызму сур'ёзны выклік, калі з'яўляецца патрэба змяніць зафіксаваны ў гэтым тэксце набор інтэрпрэтацыйных схемаў, бо яны страцілі сувязь з беларускімі рэаліямі. Працяглая інтэлектуальная стагнацыя русацэнтрызму, у межах якога з другой паловы 1990-х гг. не назіралася ніякага істотнага развіцця, падказвае, што гэтай плыні будзе дастаткова складана знайсці выйсце з такога крытычнага становішча. Перспектывы русацэнтрызму ў вяртанні свайго прывілеяванага становішча таксама выглядаюць зманлівымі без значнага абнаўлення як у ідэйным, так і інстытуцыйным плане.

**Литература**


1. Акулов, В. *Беларусь – Евросоюз: что пишем и что в уме* // Славянский набат. 1997. № 22.
2. Баранкевич, А.И. *Устранить Лукашенко и создать в Беларуси марионеточный режим – таков план Запада* // Личность. 1996. № 7.
3. Геращенко, А. *Под черно-золотисто-белым флагом!* // Русь Белая. 1994. № 1.
4. Гурин, В. *Иноземные уши бэнээфовского «национализма»* // Славянский набат. 1997. № 6.
5. Диктатуров, А. *«Глашатаи свободы» в «фашистской» Беларуси* // Личность. 1997.
6. Козляков, В. *Демфашизм. Краткое исследование одного циничного явления* // Славянский набат. 1998. № 29.
7. Козляков, В. *Исторический выбор народа* // Славянский набат. 1997. № 26.
8. Криштапович, Л. *Белоруссия и русская цивилизация*. Мн., 1999.
9. Криштапович, Л. (a) *Права. Свобода. Демократия* // Славянский набат. 1998. № 37.
10. Криштапович, Л. (b) *Психология Иуды* // Славянский набат. 1998. № 27.
11. Криштапович, Л. *Услышать глас народа* // Славянский набат. 1997. № 12.
12. *Ложь и правда о Славянском Соборе «Белая Русь»* // Русь Белая. 1994. № 6.
13. Малашко, А. *Ползучая интервенция* // Славянский набат. 1998. № 14.
14. Немчинов, Е.Н. *Славянское учение – природопостигающая Русь* // Славянское вече: материалы международной научно-практической конференции, Минск, 13–19 декабря 2000 г. Мн. : БелСОЭС «Чернобыль», 2002.
15. *Обращение «Братья Славяне!»* // Русь Белая. 1993. № 2.
16. Петриков, П.Т. *Основные этапы белорусской государственности* [Электронный ресурс] // Режим доступа : http://www.hist.bsu.by/bel/nauka/konf/75%20let/konference/petrikov.htm.
17. Петриков, П.Т. *Очерки новейшей историографии Беларуси (1990-е – начало 2000-х годов)*. Мн. : Белорусская наука, 2007.
18. Скобелев, Э. *Характер белорусского народа и будущее нации* // Славянский набат. 1997. № 20.
19. Степаненко, О. *Фронт против народа* // Славянский набат. 1999. № 30.
20. Тарасевич, М. *Вся надежда на «заморского дядю»?* // Русь Белая. 1993. № 5.
21. Титов, О. *Янычары из суверенных колоний* // Славянский набат. 1997. № 21.
22. Трещенок, Я.И. *Государственная идеология и национальная идея Республики Беларусь.* Могилев, 2006.
23. Трещенок, Я. *Две беларусские национальные идеи: католический национал-сепаратизм и православная национальная идея. Заметки историка* [Электронный ресурс] // Белорусский православный информационный портал СОБОР.by. Режим доступа : http://sobor.by/zametki.php.
24. Храмов, В. *И права «коллективного гражданина» надо защищать* // Славянский набат. 1997. № 15.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Солвита Денис

# Стратегическая «смесь» для нации: анализ новогодних обращений А. Лукашенко (2003–2009)

## I. Новогоднее обращение как вид политической коммуникации

Новогоднее поздравление или, точнее, обращение – это вид политической коммуникации, который является примером ритуального политического выступления. Роль СМИ в понятии современного «ритуала» невозможно переоценить (Rothenbuhler, 1998). С точки зрения «медийного» процесса, новогоднее обращение – это медиа-событие, которое является традицией.

Это тот вид *институционального* дискурса, который не просто проявляется в СМИ (а именно на телевидении). Новый год – один из немногих поводов, по которым политики допускаются к обращению к нации «без посредников». СМИ, при рассмотрении данного коммуникационного процесса, являются только каналом, функции коммуникатора остаются исключительно за главами государств.

Вне зависимости от стратегии, избранной главой государства (обращение в форме отчета, просьбы, благодарности, призыва и т. д.), новогоднее поздравление является частью усилий по формированию национальной идентичности[1].

Телевидение, как обобщил представления о ритуализированной коммуникации профессор Эрик Ротенбьюлер, является основным «спонсором» ритуала, собирая зрителей у экранов (Rothenbuhler, 2008). Так же сами выступления, рассматриваемые как медийные события, становятся частью истории оформления идентичности (Carey, 1999: 42). С точки зрения процесса политической коммуникации, это исследование полностью сосредотачивается на изучении политической риторики лидера (Norris, 2004). Вот как описывает новогоднее обращение сам А. Лукашенко:

*«В канун Нового года у меня есть уникальная возможность встретиться с вами, когда вы собрались за праздничным столом в кругу са-*

[1] Подробнее см.: Wodak et al., 1999.

*мых близких вам людей. Это президентское полномочие нигде не прописано, но для меня оно – одно из самых приятных и ответственных»* (Новогоднее обращение, 2004).

Как замечает французская исследовательница Александра Гужон, коммуникативной опорой режима Лукашенко является популизм (Goujon, 1999). К 2004 г. популизм Лукашенко соединился с идеологией, которая соответствует выстроенной им политической модели и дает возможность ее легитимации (Гужон, 2007).

С появлением «идеологии белорусского государства» политика Александра Лукашенко стала более националистической[2]. В рамках данного исследования рассматриваются обращения именно в период существования официальной идеологии (первое выступление датируется 31 декабря 2003 г.).

Рассматривается следующая гипотеза: при помощи определенных коммуникативных стратегий Александр Лукашенко пытается установить границы собственного понимания нации и делегитимизирует конкурирующие концепции.

Методология приведенного ниже анализа базируется на представлениях критического анализа /исследования дискурса[3]. На первой стадии анализа выделяются макродискурсы в соответствии с представлениями Тойна Ван Дейка. Далее анализ идет с точки зрения когнитивной лингвистики: выделяются доминирующие группы лемм (через количественный анализ), составляется описание метафор (Lakoff & Johnson, 1980; Lakoff, 1996; Lakoff, 2004). Каждая группа изначально рассматривается отдельно. На следующем уровне анализа производится соотношение макро- и микроанализа, что позволяет выделить определенные стратегии, которые принимаются как доминирующие.

Номинативная стратегия или начало речи могут сами по себе указать на некоторые особенности конструирования идентичности. На протяжении исследуемого периода структура обращения Лукашенко к аудитории не изменялась. Обращения встречаются в речи несколько раз, они разделяют смысловые части выступления. Прямые обращения к аудитории, которые фигурируют в речах за исследуемый период, сводятся к следующим:

– друзья,
– соотечественники,
– земляки,
– гости[4].

---

2 Это отмечают разные авторы, в частности Александра Гужон, Сергей Богдан, Нелли Бекус (Богдан, 2008; Бекус, 2008).

3 Оба определения находятся в процессе формирования. Если «критический анализ дискурса» является устоявшимся определением, то замена «анализа» на «исследование», инициатором которой выступает Ван Дейк, только входит в академический оборот. Подробнее см.: Van Dijk, 2008: 1–26.

4 При этом им в большинстве случаев предшествуют прилагательные «дорогие» или «уважаемые».

лыў і моц Расіі моцна пераўзыходзіць беларускія.

Заняцце расійскага прэзідэнцкага крэсла Уладзімірам Пуціным можа разглядацца як паваротны пункт у постсавецкіх беларуска-расійскіх адносінах. Пуцін кіраваўся намерам узмацніць расійскі ўплыў у Беларусі, не аддаючы занадта шмат яе зменліваму і непрадказальнаму прэзідэнту. У Пуціне Лукашэнка знайшоў суперніка на месца лідэра-праваднікa інтэграцыі. У той час як для Барыса Ельцына дамова паміж Расіяй і Беларуссю была палітычна істотнаю, Пуцін вельмі нязначна цікавіўся гэтым пагадненнем.

У жніўні 2002 г. Пуцін раптоўна абвесціў новую палітыку ў дачыненні Беларусі, якая змяніла саму прыроду расійска-беларускіх адносінаў. Расійскі прэзідэнт шакаваў Лукашэнку прапановаю расфармаваць Беларусь і ўвайсці ў «сям'ю федэральных суб'ектаў» (Расійскую Федэрацыю) асобнымі абласцямі (Шевцов, 2005: 66). Гэта, як мяркуе Рыгор Іофе, *«магчыма, было адзіным сур'ёзным знакам, дадзеным Лукашэнку, за ўвесь ягоны тэрмін знаходжання на пасадзе прэзідэнта»* (Ioffe, 2007c: 353).

Палітычнае становішча Лукашэнкі раптоўна змянілася; Пуцін не проста скраў ягоную палітычную платформу. Як выявілася, ён пераўзышоў беларускага лідэра ў парыве да рэінтэграцыі. Планы саюзу, як падавалася, памерлі, а будучыня Лукашэнкі здавалася няпэўнаю. Некаторыя расійскія газеты адкрыта выказвалі меркаванні, што яму засталіся лічаныя дні пры ўладзе (Winiarski, 2002a).

Адразу пасля жніўня 2002 г. падтрыманне Лукашэнкі дасягнула найніжэйшай кропкі[16]. Крызіс 2002 г. стаўся каталізатарам новай палітычнай лініі Мінску і распачынання новай палітыкі нацыятварэння. Праект ўсталявання новай дзяржаўнай ідэалогіі стартаваў увесну 2003 г., па слядах адмысловага семінару, арганізаванага прэзідэнтам (Лукашенко, 2003).

Лукашэнка апісваў Беларусь і СССР у біялагічных тэрмінах, як арганізмы. Ён згадваў пра эпоху перабудовы як пра інфекцыю, якая прывяла да разбурэння вялікай дзяржавы. Інфекцыю і фізічны ўпадак дзяржавы, які ішоў за ёй, Лукашэнка звязваў з адсутнасцю павучальнай ідэалагічнай структуры.

*«Если иммунитет ослабевает, любая, даже самая незначительная, инфекция становится смертельной. Точно так же с государством: когда разрушается идеологическая основа общества, его гибель становится только делом времени, каким бы внешне государство ни казалось сильным и грозным»* (Лукашенко, 2003).

Пасля ўвядзення прэзідэнтам новай «ідэалогіі» ў 2003 г. змянілася і палітычная мова рэжыму. Замест заклікаў да інтэграцыі з Расіяй усё часцей ўслаўляліся беларуская

16 Паводле стану на верасень 2002 г. ягонае падтрыманне складала 27%; да верасня 2005 г. гэтая лічба вырасла да 47,3% (Быковский, 2006). Цыт. паводле: Ioffe, 2007a: 40.

дзяржаўнасць і незалежнасць. Падчас кампаніі 2004 г. па выбарах у Нацыянальны сход з'явіўся патрыятычны слоган «За Беларусь» (Казакевіч, 2005). Лукашэнка гэтым разам вызначыў сябе як патрыёта, нязломнага абаронцу беларускай незалежнасці і суверэнітэту.

Не пакідаючы рыторыкі ў савецкім стылі, Лукашэнка наноў стварыў сваю палітычную платформу. Звыклыя абвінавачанні ў нявернасці і здрадзе, што прэзідэнт ужо доўгі час закідаў унутранай апазіцыі ды Заходняму свету, былі цяпер перапрацаваныя, перапакаваныя і выкарыстаныя з мэтаю мабілізацыі супраць Пуціна.

Андрэй Казакевіч сцвярджае, што *«гістарычная традыцыя і культурная ідэнтыфікацыя маюць у кантэксце дзяржаўнай ідэалогіі перыферыйнае значэнне. Гэта значыць, што адначасова яна можа ўтрымліваць некалькі версій гісторыі і культурнай ідэнтыфікацыі, не парушаючы сваю цэласнасць»* (Казакевіч, 2005: 138).

Яна адрозніваецца ад ідэалогіі падобных праектаў у іншых аўтарытарных постсавецкіх рэспубліках. У адрозненне ад Ніязава, Назарбаева, Аліева і Кучмы, Лукашэнка не апублікаваў «кананічнага» тэксту па дзяржаўнай ідэалогіі. Тым не менш яна ёсць атожылкам глыбока ўкаранёнай палітычнай традыцыі. Гэта спроба Лукашэнкі прыўласціць спадчыну і палітычную культуру знаёмай мовы, сімвалізму і гістарычных адсылак дзеля ўмацавання своеасаблівай формы палітычнага папулізму.

Андрэй Казакевіч называе ідэалогію Лукашэнкі «праектам ідэнтычнасці» і спробаю стварыць новае адчуванне нацыянальнай еднасці, падмацаваць падтрыманне рэжыму і забяспечыць яго стабільную будучыню. «Ідэалогію» ўвялі ў якасці абавязковага прадмету ва універсітэтах. Афіцыйная ідэалогія, паводле фармулёўкі аднаго з падручнікаў, які стаўся абавязковым для вывучэння на універсітэцкім узроўні, падкрэслівае, што *«менавіта любоў да Радзімы робіць чалавека па-сапраўднаму шчаслівым [...] І дзе б чалавек ні быў, радзіма, як і маці, у яго заўжды адна»* (Князев и Решетников, 2004: 80).

Як і іншыя нацыяналізмы, «беларуская ідэалогія» Лукашэнкі засяроджваецца больш на эмоцыях, чым інтэлектуальнай сутнасці, і прызначаецца для забеспячэння легітымнасці праекту нацыятварэння[17]. Цягам сваёй палітычнай кар'еры Лукашэнка змяняў стаўленне да шэрагу палітычных пытанняў, але нязменным заставалася выкарыстанне ім рыторыкі, гістарычных рэферэцыяў і сімвалізму ў савецкім стылі (Marples & Rudling, 2009: 225–244). Глыбокая прывязанасць Лукашэнкі да Вялікай Айчыннай вайны – краевуголь-

[17] «Нацыянальная ідэалогія» мае шмат прыхаваных адсылак да рыторыкі сталінскай эпохі, асабліва часоў вайны. «*Савецкі патрыятызм – гэта палымянае пачуцце бязмежнай любові, безумоўнай адданасці роднай краіне, найглыбейшай адказнасці за яе лёс, за яе абарону – нараджаецца ў найглыбейшых нетрах нашага народу*», – так апісвала «Правда» савецкі патрыятызм у сярэдзіне 1930-х гг. (Brandenberger, 2002: 28).

нага каменя гэтай «ідэалогіі» – ёсць больш эмацыйнаю, чым інтэлектуальнаю, сканцэнтраванаю хутчэй на форме, чым змесце (Marples, 2006: 362).

## VI. Гістарычныя вобразы ў палітычнай рыторыцы пасля 2002 г.

Рэжым часта звяртаецца да вобразаў вайны. У 2004 г., у звязку з 60-годдзем вызвалення Беларусі, Лукашэнка акрэсліў апазіцыю як *«идейных потомков фашистских пособников»* (Лукашенко, 2004)[18]. Падчас святкавання Дня перамогі 9 траўня 2005 г. у Мінску Беларускае тэлебачанне прадставіла ветэранаў і прасавецкіх партызанаў Вялікай Айчыннай вайны як *«гонар і сумленне нашай нацыі»*, заяўляючы, што абавязкам цяперашніх беларускіх салдатаў ёсць *«жыць і дзейнічаць паводле духу герояў Вялікай Айчыннай вайны»* (Belarus TV, 2005).

Падчас святкавання 60-х угодкаў перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне хадзілі чуткі, што адбудзецца палітычная рэабілітацыя Сталіна. Дзяржаўныя кнігарні былі завалены 700-старонкавым прысвячэннем дыктатару пад назваю «Сталину, Европа, поклонись!» (Скобла, 2005; Maksymiuk, 2005)[19]. У снежні 2005 г. з нагоды дня народзінаў Сталіна беларускае дзяржаўнае тэлебачанне прадэманстравала дакументальны фільм пад назваю «Генералісімус», у якім Сталін паказваўся ў станоўчым святле, а віна за палітычны тэрор 1930-х гг. ускладалася на этнічныя меншасці, такія як габрэі (Stalin's Return…, 2005)[20].

Лукашэнка, які акрэслівае сябе як гісторыка і эканаміста, часта выказваў незадавальненне з нагоды таго, якім чынам малюецца вобраз Сталіна: *«Перестаньте клеймить руководителей страны тех времен, начиная от руководителя главного нашего Сталина и заканчивая другими! Прекратите это делать! Нас в то время не было, и мы не знаем, как было на самом деле. Я только могу предполагать, занимая примерно аналогичную должность [як Сталін], как это всегда делается»* (Лукашенко в разрезе, 2005).

У чэрвені 2006 г. Лукашэнка больш падрабязна акрэсліў сваю думку наконт таго, што ўсе постсавецкія гістарычныя ацэнкі Сталіна заснаваныя на хлусні: *«Выяўляецца, што сучасныя кнігі пра кіраўнікоў дзяржаваў і гістарычных асобаў утрымліваю-*

[18] Дзякую Наталлі Лешчанка за гэтую спасылку.

[19] На вокладцы прыводзіцца наступны ўступ да кнігі: *«О формировании характера будущего неуёмного революционера Иосифа Джугашвили … о его безоглядной борьбе за практическое осуществление идей справедливого социального устройства общества; титанических усилиях для освобождения своего народа и всей Европы от коричневой чумы фашизма; вожде, литераторе, дипломате, христианине, отце, товарище […] Адресуется руководителям, политикам, историкам, широкому кругу читателей»* (Гуменюк, 2004).

[20] Крыніца прыводзіць словы беларускага гісторыка Ігара Кузняцова.

*ць каля 80 % хлусні. Што датычыць кіраўнікоў савецкага часу, пачынаючы ад Уладзіміра Ільіча Леніна і Іосіфа Сталіна да сучасных кіраўнікоў, гэтая доля дасягае 100 %. Нас змушаюць забыць пра ўсе вялікія ўчынкі гэтых людзей...»* (Belarus president..., 2006).

У кастрычніку 2006 г. у Беларусі апублікавалі новую гісторыю КДБ пад назваю «Шчыт і меч Бацькаўшчыны». У ёй праслаўляецца гераізм таемнай паліцыі, у той жа час збольшага ігнаруецца дзейнасць НКУС у другой палове 1930-х гг. (Мазуркевич, 2006; Игорь Кузнецов..., 2006)[21]. *«Яе хочацца чытаць і чытаць»*, – заяўлялі захопленыя функцыянеры КДБ падчас прэзентацыі кнігі ў клубе імя Фелікса Дзяржынскага ў Мінску (Мазуркевич, 2006).

Аднак рэабілітацыі Сталіна не адбылося, а ўшанаванне яго не сталася часткай афіцыйнай ідэалогіі. Сталін ані крытыкуецца адкрыта, ані ўслаўляецца афіцыйна, але ў той жа час подзвігі савецкага рэжыму, асабліва яго перамога ў Вялікай Айчыннай вайне, ёсць ключавым складнікам савецкай настальгіі – цэнтральнай для афіцыйнай ідэалогіі.

## VI. Польская «пагроза»

Рыторыка Лукашэнкі перажыла эвалюцыю ад акцэнтавання патрэбы аднаўлення саюзу да савецкага беларускага патрыятызму і падкрэслівання таго, якім чынам беларускія культурныя каштоўнасці і палітычныя традыцыі адрозніваюць Беларусь ад Расіі. Беларускі патрыятызм Лукашэнкі ёсць больш грамадзянскім, чым этнічным, афіцыйны патрыятызм робіць акцэнт на сувязь з зямлёй і тэрыторыяй (Казакевіч, 2005). У той жа час, гэтая традыцыя, карані якой сыходзяць у савецкую палітыку, не ёсць вольнай ад этнічных кампанентаў. Пры гэтым «нацыянальны» палітычны наратыў Лукашэнкі больш падкрэслівае адзінства ўсходніх славянаў, чым акцэнтуе нацыянальную адметнасць беларусаў.

З гэтай нагоды польская меншасць рэпрэзентуецца як «Іншы», частка асобнай цывілізацыі ды патэнцыйны вораг рэжыму (Radzik, 2005: 166). Вобраз польскай культуры як «чужой» можна пабачыць у расійскім нацыяналізме XIX ст. Вобраз Польшчы як варожай дзяржавы, а таксама палякаў як культурна і сацыяльна чужых для ўсходніх славянаў перыядычна ўзнікаў у сталінскай прапагандзе, якая адлюстроўвала добра задакументаваную засяроджанасць Сталіна на Польшчы. Палякі былі выключаныя з наратыву пра ўяўленую савецкую супольнасць «дружбы народаў», і доля этнічных палякаў сярод ахвяраў сталінскага тэрору аказалася вельмі высокаю (Martin, 2001: 321, 339)[22].

Неаднаразовы наступ уладаў на незалежныя польскія культурныя аб'яднанні часам суправаджаўся антыпольскаю рыторыкаю, якая нагадвала сталінскую эпоху, калі незалежныя польскія культурныя асацы-

[21] Рэцэнзію на кнігу гл.: Липский, 2007.

[22] Пра міф «дружбы народаў» як савецкую ўяўленую супольнасць гл.: тамсама, с. 461.

яцыі паказваліся як пагроза для нацыянальнага адзінства і грамадскага парадку (Bordering on Madness…, 2005; Kościński, 2005: 7).

У жніўні 2005 г. МЗС Беларусі абвінаваціла беларускія польскія арганізацыі ў тым, што яны ёсць *«шпіёнскім цэнтрам»*, які нібыта *«ўмешваецца ва ўнутраныя справы суверэннай дзяржавы»*. Лукашэнка абвінаваціў Польшчу ў выношванні планаў акаталічвання і падпарадкавання Беларусі (Radzik, 2005: 164)[23]. Вечаровыя навіны на кантраляваным дзяржаваю Беларускім тэлебачанні паказалі раз'юшаных пенсіянераў, якія абражалі Польшчу, у той час як пралукашэнкаўская газета «Рэспубліка» абвінаваціла Польшчу ў змове для перанясення мяжы і вяртання памежных раёнаў са значным адсоткам палякаў сярод насельніцтва (TT-AFP, 2005).

Ізноў беларускі прэзідэнт звярнуўся да рыторыкі замежнай пагрозы. *«Мы на парозе вельмі сур'ёзнай канфрантацыі. Вядома, Амерыка, Захад паспрабуюць дэстабілізаваць сітуацыю тут усімі магчымымі спосабамі. Яны распрацавалі пэўную тактыку, якая можа ўключаць нават інтэрвенцыю ў нашую краіну*, – заявіў Лукашэнка, дадаўшы: – *Я хачу папярэдзіць, што мы пра гэта ведаем. Мы ведаем, як супрацьстаяць інтэрвенцыі»* (Maunk, 2005). Вобраз паляка як «чужога» зноў узнік падчас выбарчай кампаніі 2006 г., калі афіцыйныя медыі малявалі вобраз Аляксандра Мілінкевіча, галоўнага апазіцыйнага кандыдата, як каталіка «польскага кшталту», што адкрыта падтрымлівае цесныя стасункі з палякамі[24].

## VII. Трэці тэрмін Лукашэнкі: энергетыка і адносіны з Расіяй

Нягледзячы на знікненне палітычных апанентаў і грубыя парушэнні правоў чалавека, нават апаненты Лукашэнкі не маглі адмовіць таго факту, што яго падтрымлівае прыкладна палова жыхароў і ён нашмат апярэджвае ўсіх патэнцыйных супернікаў (Forbrig, Marples & Demeš, 2006: 11; Ioffe, 2003b: 1009; Marples, 2005: 896).

Пенсіянеры складаюць касцяк электарату Лукашэнкі, у той час як сярод моладзі ён карыстаецца нізкаю папулярнасцю. Прэзідэнт мае шмат прыхільнікаў сярод менш адукаваных слаёў грамадства, вясковага насельніцтва, жыхароў найбольш усходніх абласцей Беларусі і жанчын (Манаев, 1998: 280). Старэйшае пакаленне пенсіянераў, у прыватнасці, жыве адносна камфортна і складае палітычную базу для прэзідэнта. У даследаванні 2007 г. Беларусь нават апісвалася як *«грамадства задаволеных пенсіянераў»* (Вардомацкий и Николюк, 2007).

Аднак ацэнкі эканамічнай дзейнасці рэжыму Лукашэнкі розняцца. Некаторыя аглядальнікі падкрэсліваюць эканамічныя дасягненні рэжыму як крыніцу падтрымання, акцэнтуючы ўвагу на тым, што Беларусь ёсць

23 Цыт. паводле: Mironiwicz, 1997.

24 Сам Мілінкевіч сцвярджаў, што паходзіць з праваслаўнай сям'і.

*«найбольш хутка растучай эканомікай у Еўропе»* (Ioffe, 2007b: 69), і на тым, што Лукашэнка *«здолеў забяспечыць штогадовы 8–11 % эканамічны рост пачынаючы з 2001 г. і значна павысіць заробкі»* (Ioffe, 2007a: 49). Эканамічны рост апошніх гадоў у Беларусі быў большы, чым у Расіі ды на трэцім месцы паводле хуткасці ў СНД, складаючы 9,9 % росту ў 2006 г. (CIS Statistics...).

Крытыкі акцэнтуюць увагу на тым, што большая частка афіцыйнай эканамічнай статыстыкі, выпушчанай беларускім урадам, была і ёсць зманліваю, і трэба мець на ўвазе, што ў 2002 г., падчас змены пуцінскай палітыкі ў дачыненні Беларусі, беларуская эканоміка складала 3 % ад расійскай, у той час як насельніцтва Беларусі складае 7 % ад насельніцтва Расіі (Winiarski, 2002b).

Такім чынам, беларускі ВУП на душу насельніцтва, выражаны ў далярах, а гэта 8 100 даляраў за 2006 г., трэба параўноўваць з расійскімі 12 200 далярамі (The CIA World...). У 2007–2008 гг. Беларусь заняла 64-е месца ў сусветным рэйтынгу, падняўшыся на тры пазіцыі, у той час як Расія апусцілася на дзве пазіцыі ды заняла 67-е месца (Human Development Report..., 2007: 245).

Цягам апошніх гадоў і Расія, і Беларусь развіваліся ў кірунку аўтарытарнага кіравання (Kekic, 2007; The Economist..., 2008: 3–5). Як заўважыла Наталля Лешчанка, беларускае тэлебачанне робіцца ўсё больш «нацыянальным», і ў цэнтры яго ўвагі – ідэя пра тое, што беларуска-расійская мяжа ёсць міжнароднаю мяжою паміж дзвюма незалежнымі дзяржавамі. Гэта дэманструе, што адбылася істотная змена ў параўнанні з савецкім часам.

Суверэнітэт быў выкарыстаны, каб збудаваць «вонкавую абарончую абалонку» Беларусі. Паводле абвінавачання ў «дыскрэдытацыі беларускага ўраду» ў Беларусі перапынілі трансляцыю праграмаў расійскага тэлебачання, што ў 2002 г. стала мэтай афіцыйнай палітыкі (Leshchenko, 2004: 346). Сфальсіфікаваныя вынікі прэзідэнцкіх выбараў у сакавіку 2006 г., у якіх Лукашэнка афіцыйна набраў 82,6 % галасоў выбарнікаў, суправаджаліся жорсткімі дзеяннямі, у межах якіх былі арыштаваныя сотні апанентаў рэжыму і зачыненыя дзесяткі няўрадавых арганізацыяў (Forbrig, Marples & Demeš, 2006: 12).

Нягледзячы на змены ў сваёй палітыцы ў дачыненні Беларусі, рэжым Пуціна быў адзіным еўрапейскім урадам, які прызнаў гэтыя выбары легітымнымі. Са свайго боку, Лукашэнка захаваў падтрыманне сярод «нацыянальна-патрыятычнага» лагеру Расіі. Пасля «элегантнай» перамогі Лукашэнкі і абрання на трэці тэрмін «чырвона-карычневыя» пісьменнікі, пад кіраўніцтвам Юрыя Бондарава, аднымі з першых павіншавалі беларускага лідэра (Бондарев и др., 2006).

2006 год, першы год трэцяга тэрміну Лукашэнкі, сутыкнуў беларускага лідэра з шэрагам палітычных выклікаў. Адным з наступстваў пагаршэння адносінаў з Расіяй была сур'ёзная спрэчка наконт паставак энергіі ў Беларусь. Краіна амаль цалкам залежыць ад вонкавага свету ў забеспячэнні энергіяй, і газавы крызіс зімою 2006–2007 гг.

прывёў Беларусь фактычна на мяжу эканамічнага крызісу.

Адчуўшы ціск Расіі, Лукашэнка зноў абапёрся на рыторыку Вялікай Айчыннай вайны: *«Но знаете, какую нам предложили цену на газ? Больше, чем Германии. Кто бы мог подумать полвека назад, что вы немцам будете продавать газ дешевле, чем белорусам?»* (Лукашенко, 2006).

Перапыненне паставак газу з Расіі ўдалося ў апошні момант пазбегчы, але ў выніку кампрамісу, якім завяршыўся канфлікт, кошт на газ для Беларусі вырас удвая – з 45 да 100 даляраў за 1 000 кубаметраў, акрамя таго дадалося разуменне, што цягам пяці гадоў сума, якую Беларусь будзе плаціць за газ, дасягне міжнароднага рынкавага ўзроўню (TT-AFP, 2007). Пуцін ужыў палітыку ціску праз кантроль над пастаўкамі энергіі, якая выкарыстоўвалася супраць некаторых іншых краінаў СНД (Follath & Schepp, 2007).

Падчас энергетычнага канфлікту з Расіяй некаторыя шматгадовыя прыхільнікі Лукашэнкі, напрыклад, Сяргей Бабурын – на той час намеснік спікера расійскай Дзяржаўнай Думы і віцэ-старшыня Парламенцкай Асамблеі Саюзу Беларусі і Расіі, – пачалі выкарыстоўваць у дачыненні будучыні беларуска-расійскага саюзу рыторыку, блізкую да пуцінскай.

Сяргей Бабурын заявіў, што «*працэс стварэння саюзнай дзяржавы на цяперашні час знаходзіцца ў глыбокім крызісе*». З мэтай узнавіць інтэграцыю Бабурын прапанаваў новае імя і канцэпцыю для аб’яднанай дзяржавы: *«Мы прапаноўваем, каб да цяперашняга часу «безназоўная» [беларуска-расійская] аб’яднаная дзяржава называлася Расійскі Саюз»*[25]. Такая рыторыка з вуснаў старога прыхільніка Лукашэнкі ілюструе тое, што беларускі лідэр страціў ініцыятыву ў саюзе. У той жа час папулярнасць Пуціна ў Беларусі рэзка ўпала пасля таго, як ён прапанаваў паглынанне краіны Расіяй (Ioffe, 2007a: 41–42).

## Заключэнне

Распад савецкай сістэмы выклікаў адчуванне страты і збянтэжанасці. Беларусь была не падрыхтаваная да незалежнасці, часткова з прычыны слабага развіцця нацыянальнай самасвядомасці, перарванага савецкай ідэнтычнасцю. Узнесены на вяршыню ўлады ў 1994 г. як папулісцкі кандыдат на антыкарупцыйнай платформе і хвалі савецкай настальгіі, Лукашэнка ўмела задавальняў тыя групы беларускага грамадства, якія страцілі на балесным эканамічным пераходным перыядзе. Цягам першых васьмі гадоў ягонай улады гэтая настальгія была павязаная са спадзевамі на аднаўленне саюзу з Расіяй. Пры Пуціне гэты кірунак перастаў спрацоўваць.

Нягледзячы на змяненне палітычнай сітуацыі пасля сыходу Ельцына з палітыкі, пэўныя тэмы ды ідэі ў рыторыцы Лукашэнкі засталіся нязменнымі. Ён вярнуў на цэнтральнае месца ў палітычным дыскурсе пэўныя

25 Назва, якую прапанаваў Бабурын, дэманструе ідэю пра ўключэнне Беларусі ў Расійскую Федэрацыю (Леонов, 2006).

беларускія савецкія традыцыі, сімвалы і каштоўнасці. Калектывізм, патрыятызм, гераізм і самаахвярнасць пазіцыянуюцца ў якасці ключавых цнотаў у рыторыцы Лукашэнкі. Прэзідэнт вярнуў савецкае мінулае і прыняў расійскую мову ў якасці часткі агульнай савецкай ці постсавецкай ідэнтычнасці для Беларусі.

Выкарыстоўваючы мову масаў, а не інтэлігенцыі, рыторыка і форма рэжыму Лукашэнкі былі савецкімі, а не нацыянальнымі, нават нягледзячы на тое, што ён усё больш артыкулюе гэтую палітыку ў імя «нацыі» ці «нацыянальных» інтарэсаў. Дзякуючы свайму кантролю над медыямі Лукашэнка здолеў стварыць палітычную нішу, даволі прывабную для значнай часткі грамадства, асабліва жанчын, вясковага насельніцтва і старэйшых пакаленняў, досвед якіх сфармаваўся ў межах савецкай сістэмы. Выкарыстанне звыклай мовы і савецкіх рэференцыяў забяспечыла адчуванне пераемнасці і было выкарыстанае як аснова для мабілізацыі грамадства.

«Ідэалогія» Лукашэнкі мае на мэце захаванне ягонай улады і кансалідацыю дзяржавы. Пачынаючы з 2002 г. яе фокус перасунуўся ад савецкага аднаўлення да нацыянальнай кансалідацыі. Беларусь усё часцей акрэсліваецца як дзяржава беларусаў, а вызначальным крытэрам ёсць этнічная прыналежнасць ядра яе супольнасці. Да таго ж, гэта дапамагло беларускай супольнасці вылучыцца адрознасцю ад сваіх суседзяў, зацвердзіць палітычныя і этнічныя межы ў тых сферах, дзе яны раней былі слабыя.

Форма нацыяналізму Лукашэнкі была збольшага этнічна інклюзіўная, аднак яна таксама выкарыстоўвалася для стварэння вобразу варожага «іншага» – Польшчы, Захаду і ўсё часцей Расіі – у межах рыторыкі, якая нагадвала сталінскія часы.

Ідэя незалежнасці Беларусі паступова робіцца агульнапрынятаю. Паводле апытанняў, беларусы адчуваюць вышэйшую ступень гонару за сваё грамадзянства, чым іхныя бліжэйшыя суседзі па СНД (Водолажская, 2006; White, Korosteleva & Löwenhardt, 2005: 147). Лукашэнка прадэманстраваў павышэнне адкрытасці ў дачыненні традыцыяў нацыянальнай апазіцыі, беларускі лідэр свядома малюе сваё нацыятварэнне як пераемнае з БССР. Савецкая і нават нацыянал-бальшавісцкая рыторыка саслужыла яму добрую службу ў справе мабілізацыі самых прасавецкіх сегментаў грамадства. У гэтых колах прэзідэнт карыстаецца пэўнаю папулярнасцю ў Расіі ды іншых краінах СНД[26].

Нацыятворчы праект Лукашэнкі ўтрымлівае большасць складнікаў класічнага нацыяналізму – нацыянальную мабілізацыю, нацыянальныя святы, рытуалізацыю мінулага. Савецкія рэферэнцыі, якія былі часткаю парадку дня пры аднаўленні саюзу з Расіяй, захаваліся нават пасля таго, як праект саюзу заглух. Цяпер у масавай свядомасці ўсталёўваецца

26. Гл., напрыклад, інтэрнэт-форум http://lukashenko2008.ru/ (Дата доступу : 21 сакавіка 2010 г.).

ясная мяжа паміж Расіяй і Беларуссю. Сыход Лукашэнкі наўрад ці дасць зваротны ход працэсу нацыянальнай кансалідацыі ды мабілізацыі, нават калі ўведзеныя ім новыя дзяржаўныя сімвалы будуць аспрэчвацца (Lalkou, 2010; Kotljarchuk, 2004).

Аднак, нягледзячы на рост масавай ідэнтыфікацыі з беларускаю дзяржаўнасцю, моцнаю застаецца савецкая ці постсавецкая ідэнтычнасць. Замест спробаў «адвярнуць назад» 70 гадоў савецкага кіравання, Лукашэнка выкарыстаў савецкую спадчыну для ўласных палітычных мэтаў. Замест адмаўлення ад расійскай мовы, рэжым спрабуе выкарыстаць яе як сваю уласную, гэтак сама як ён прыпісаў сабе традыцыю і сімвалізм БССР.

Ваенны гераізм, вобраз радзімы ў небяспецы і савецкая настальгія складаюць рытарычную сістэму, у межах якой фармулюецца «дзяржаўная ідэалогія» гэтага анахранічнага ўраду. Хоць савецкая настальгія назіраецца і ў іншых постсавецкіх рэспубліках, з усіх постсавецкіх лідэраў Лукашэнка здолеў найбольш эфектыўна эксплуатаваць гэтую памяць. Нягледзячы на парушэнні асабістых, інтэлектуальных і палітычных свабодаў на ўзроўні, які не мае сабе роўных у Еўропе, Лукашэнка, здавалася б, рухаецца ў кірунку кансалідацыі беларускай калектыўнай ідэнтычнасці на аснове нацыі-дзяржавы. Беларускае нацыятварэнне – доўгатрывалы, незавершаны працэс. І, у якасці іроніі, Лукашэнку, абранага на платформе рэінтэграцыі Беларусі з Расіяй, будуць памятаць хутчэй за нацыятварэнне, а не за аб'яднанне з нашаю ўсходняю суседкаю.

**Литература**


1. Abrahamson, K.-A. *Vitryssland – 89 millimeter från Europa*. Stockholm, Fischer & Co, 1999.
2. *Belarus president says history books full of «lies» about Stalin* // Interfax-Ukraine news agency. Minsk. 2006. June 16.
3. *Bordering on Madness: Belarus Mistreats its Polish Minority* // The Economist. 2005. June 16.
4. Brandenberger, D. *National Bolshevism: Stalinist Mass Culture and the Formation of Moderna Russian National Identity*, 1931–1956. Cambridge, MA, London, England : Harvard University Press, 2002.
5. *CIS Statistics Committee reveals average GDP growth* [Electronic ressource] // RosBuisness Consulting. Mode of access : http://www.rbcnews.com/free/20070403193147.shtml. Date of access : Jan 11, 2008.
6. Dahl, G. *Radikalare än Hitler? De esoteriska och gröna nazisterna. Inspirationskällorna. Pionjärer. Förvaltare. Ättlingar*. Stockholm : Atlantis, 2006.
7. Eke, S.M., Kuzio, T. *Sultanism in Eastern Europe: The Socio-Political Roots of Authoritarian Populism in Belarus* // Europe-Asia Studies. 2000. Vol. 52. № 3. P. 523–547.
8. Fitzpatrick, S. *Everyday Stalinism: Ordinary Life in Extraordinary Times: Soviet Russia in the 1930s*. Oxford : Oxford University Press, 1999.
9. Follath, E., Schepp, M. *Der Konzern des Zaren* // Der Spiegel. 2007. № 10. P. 120 – 137.
10. Forbrig, J., Marples, D.R., Demeš, P. (eds.). *Prospects for Democracy in Belarus.* Wa-

shington, DC : The German Marshall Fund of the United States and the Heinrich Böll Stiftung, 2006.
11. Gerlach, C. *Kalkulierte Morde: Die deutsche Wirtschafts- und Vernichtungspolitik in Weißrußland 1941 bis 1944.* Hamburg : Hamburger Edition, 1999.
12. Gross, J.T. *Fear: Anti-Semitism in Poland After Auschwitz, an Essay in Historical Interpretation.* New York : Random House, 2006.
13. Hirsch, F. *Empire of Nations: Ethnographic Knowledge and the Making of the Soviet Union.* Ithaca, NY : Cornell University Press, 2005.
14. *Human Development Report 2007/2008. Fighting Climate Change: Human solidarity in a divided world.* New York : Palgrave Macmillan, 2007.
15. Ioffe, G. (a) *Understanding Belarus: Belarusian identity* // Europe-Asia Studies. 2003. Vol. 55. № 8. P. 1241–1272.
16. Ioffe, G. (b) *Understanding Belarus: Questions of Language* // Europe-Asia Studies. 2003. Vol. 55. № 7. P. 1009–1047.
17. Ioffe, G. *Understanding Belarus: Economy and Political Landscape* // Europe-Asia Studies. 2004. Vol. 56. № 1. P. 85–118.
18. Ioffe, G. (a) *Unfinished Nation-Building in Belarus and the 2006 Presidential Election* // Eurasian Geography and Economics. 2007. Vol. 48. № 1. P. 37–58.
19. Ioffe, G. (b) *Nation-Building in Belarus: A Rebuttal* // Eurasian Geography and Economics. 2007. Vol. 48. № 1. P. 68–72.
20. Ioffe, G. (c) *Culture Wars, Soul-Searching, and Belarusian Identity* // East European Politics and Societies. 2007. Vol. 21. № 2. P. 348–381.
21. Karlsson, K.-G. *Historia som vapen: Historiebruk och Sovjetunionens upplösning 1985–1995.* Stockholm : Natur och Kultur, 1999.
22. Kekic, L. *A pause in democracy's march* [Electronic ressource] // The World in 2007. Mode of access : http://www.economist.com/theworldin/international/displayStory.cfm?story_id=8166790&d=2007.
23. Kościński, P. *Co wymyśli Łukaszenko* // Rzeczpospolita. 2005. Aug 11.
24. Kostenko, N., Androshenko, T., Males, L. *In Search of Holidays: The Case of Ukraine* // Linda K. Fuller (ed.). National Days / National Ways: Historical, Political, and Religious Celebrations around the World. Westport, CT and London : Praeger, 2004. P. 285–302.
25. Kostyrchenko, G. *Out of the Red Shadows: Anti-Semitism in Soviet Russia*. Amherst, NY: Prometheus Books, 1995.
26. Kotljarchuk, A. *The Tradition of Belarusian Statehood: Conflicts about the Past of Belarus* // Egle Rindzeviciute (ed.). Contemporary Change in Belarus, Baltic and East European Studies 2. Huddinge : Baltic & East European Graduate School, Södertörns Högskola, 2004.
27. Lalkou, I. *National Symbols in Belarus: the Past and Present* [Electronic ressource] // Belarus Digest. 2010. Mar 6. Mode of access : http://belarusdigest.com/2010/03/06/national-symbols-in-belarus-the-past-and-present/. Date of access : Mar 21, 2010.
28. Laqueur, W. *Black Hundred: The Rise of the Extreme Right in Russia*. New York : Harper Collins Publishers, 1993.
29. Leshchenko, N. *A Fine Instrument: Two Nation-Building Strategies in Post-Soviet Belarus* // Nations and Nationalism. 2004. Vol. 10. № 3. P. 333–351.
30. Leshchenko, N. *The National Ideology and the Basis of the Lukashenka Regime in Belarus* // Europe-Asia Studies. 2008. Vol. 60. № 8. P. 1419–1433.
31. Lindner, R. *The Lukashenka Phenomenon* // Margarita M. Balmaceda, James I. Clem and Lisbeth L. Tarlow (eds.). Independent Belarus: Domestic Determinants, Regional

Dynamics, and Implications for the West. Cambridge, MA : Harvard University Press and the Ukrainian Research Institute and Davies Center for Russian Studies, Harvard University, 2002.
32. Ljunggren, M. *Rysslands rödbruna författare* // Internationella Studier. 1992. Vol. 2. P. 15–23.
33. Maksymiuk, J. *Analysis: Stuck in a Rut* [Electronic ressource] // RFE/RL Reports. 2005. Feb 18. Vol. 7. № 7. Mode of access : http://www.rferl.org/reports/pbureport/2005/02/7-180205.asp. Date of access : Oct 14, 2006.
34. Marples, D.R. *Belarus: From Soviet Rule to Nuclear Catastrophe*. Edmonton : The University of Alberta Press, 1996.
35. Marples, D.R. *Europe's Last Dictatorship: The Roots and Perspectives of Authoritarianism in 'White Russia'* // Europe-Asia Studies. 2005. Vol. 57. № 6. P. 895–908.
36. Marples, D.R. *Color Revolutions: The Belarus Case* // Communist and Post-Communist Studies. 2006. Vol. 39. P. 351–364.
37. Marples, D.R. *Elections and Nation-Building in Belarus: A Comment on Ioffe* // Eurasian Geography and Economics. 2007. Vol. 48. № 1. P. 59–67.
38. Marples, D.R., Rudling, P.A. *War and memory in Belarus: The Annexation of the western borderlands and the myth of the Brest Fortress, 1939–1941* // Białoruskie Zeszyty Historyczne. 2009. Vol. 32. Białystok : Białoruskie Towarzystwo Historyczne. P. 225–244.
39. Martin, T. *The affirmative action empire: nations and nationalism in the Soviet Union*, 1923–1939. Cornell University Press, 2001.
40. Maunk, A. *Lukashenko's War on Poles* [Electronic ressource] // Axis Information and Analysis. 2005. Aug 8. Mode of access : http://www.axisglobe.com/article.asp?article=294. Date of access: Apr 4, 2007.
41. Mikhailisko, K. *Belarus: Retreat to Authoritarianism* // K. Dawisha, B. Parrott (eds.). Democratic Change and Authoritarian Reaction in Russia, Ukraine, Belarus. Cambridge : Cambridge University Press, 1997.
42. Mironiwicz, E. *Dwa światy* // Rzeczpospolita. 1997. Feb 10.
43. Radzik, R. *Białorusini i Polacy. Świadomość społeczna mieszkańców Białorusi w XX stuleciu* // E. Mironowicz, S. Tokć, R. Radzik. Zmiana Struktury Narodowościowej na pograniczu polsko-białoruskim w XX wieku. Białystok : Wydawnistwo Uniwersytetu w Białymstoku, 2005. P. 149–171.
44. *Republic of Belarus: Violations of Academic Freedom* // Human Rights Watch Report. Vol. 11. № 7. Washington, DC : Human Rights Watch, 1999.
45. Rudling, P.A. *Belarus in the Lukashenka Era: National Identity and Relations with Russia* // O. Schmidtke and S. Yekelchyk (eds.). Europe's Last Frontier?: Belarus, Moldova, and Ukraine between Russia and the European Union. Houndmills, Basingstoke : Palgrave Macmillan, 2008.
46. Rudling, P.A. (a) *The Battle Over Belarus: The Rise and Fall of the Belarusian National Movement*, 1906–1931. Ph. D. Dissertation, University of Alberta. Edmonton : University of Alberta, 2009.
47. Rudling, P.A. (b) *The Great Patriotic War and National Identity in Belarus* // T. Kamusella, K. Jaksułowski (eds.). Nationalisms Today. Vol. 1 of Nationalisms Across the Globe. Berne : Peter Lang, 2009. P. 199–226.
48. Snyder, T. *Sketches From a Secret War: a Polish Artist's Mission to Liberate Soviet Ukraine*. New Haven and London : Yale University Press, 2005.
49. *Stalin's Return. BT Shows Film «Generalissimo» citing Belarusian historian Ihor Kuznyatsou* [Electronic ressource] // Charter'97 News. 2005. Dec 21. Mode of access :

http://www.charter97.org/eng/news/2005/12/21/stalin. Date of access : Oct 14, 2006.
50. *The CIA World Fact Book* [Electronic ressource]. Mode of access : https://www.cia.gov/library/publications/the-world-factbook/geos/bo.html#Econ. Date of access : Jan 11, 2008.
51. *The Economist Intelligence Unit democracy index 2006* [Electronic ressource] // The World in 2008. Mode of access : http://graphics.eiu.com/PDF/Democracy%20Index%20 2008.pdf. Date of access : Mar 15, 2010.
52. Timmermann, H. *The Union of Belarus and Russia in the European Context* // A. Lewis (ed.). The EU & Belarus: Between Moscow & Brussels. London : The Federal Trust, 2002.
53. TT-AFP. *Dyrare gas och olja kan fälla Vitryssland* [Electronic ressource] // Dagens Nyheter. 2007. Jan 2. Mode of access : http://dagensnyheter.se/DNet/jsp/polopoly.jsp?d=148&a=601822. Date of access : Jan 5, 2007.
54. TT-AFP. *Vitrysk hets mot polacker inför val* // Dagens Nyheter. 2005. Aug 10.
55. Umbach, F. *Back to the Future? Belarus and its security Policy in the Shadow of Russia* // Berichte des Bundesinstituts für ostwissenschftliche und internationale Studien. 1993. № 10.
56. Verbatim. Time, Canadian Edition. Vol. 169. № 22. 2007. May 28.
57. Weiner, A. *Making Sense of War: The Second World War and the Fate of the Bolshevik Revolution*. Princeton : Princeton University Press, 2001.
58. White, S., Korosteleva, E., Löwenhardt, J. (eds.) *Postcommunist Belarus*. Lanham, Boulder, New York, Toronto, Oxford : Rowman & Littlefield Publishers, Inc., 2005.
59. Winiarski, M. (a) *Putins utspel svårt bakslag för Lukasjenko* // Dagens Nyheter. 2002. Aug 18.
60. Winiarski, M. (b) *Putin-utspel enar vitryssar* // Dagens Nyheter. 2002. Sep 18.
61. Belarus TV. *Торжественный праздник Советского народа* [Электронный ресурс]. 09.05.2005. Режим доступа : http://www.vunet.org/videos/video_belarus_military-185.html. Дата доступа : 20.09.2006.
62. Андреева, Н. *Не могу поступится принципами* // Советская Россия. 1988. 13 марта.
63. Андреева, Н. *Неподаренные принципы, или краткий курс истории пересторйки*. Избранные статьи, выступления / Под ред. А.И. Белицкого. Саранск : Красный Октябрь, 1993.
64. Бондарев, Ю. и др. *Президенту Республики Беларусь Александру Григорьевичу Лукашенко* // Лад: Белорусско-Российская Газета, Совместный проект «Литературной газеты» и Постоянного Комитета Союзного государства. 2006. № 37. 22–28 марта.
65. Быковский, П. *Рейтинг Лукашенко и его конкурентов*. 2006 [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://ru.belaruselections.onfo/current/2006/sociology/0022756.
66. Вардомацкий, А., Николюк, С. *Государство удовлетворенных пенсионеров* // Вестник общественного мнения. Данные, Анализ, Дискуссии. 2007. № 4 (90). Июль–август. С. 52–58.
67. Водолажская, Т. *Представление жителей Беларуси о понятии «гражданин»* // Палітычная сфера. 2006. № 6. С. 72–82.
68. Володин, Э. *Победа* // Аль-Кодс, Святой город: русско-палестинский голос. 1994. № 22 (43).
69. Гуменюк, Ю.Н. (ред.) *Сталину, Европа, поклонись: Сборник статей, материалов, документов о руководителе СССР в 1924-1953 годы Иосифе Виссарионовиче*

*Сталине*. Мн. : ФУАинформ, 2004.
70. Дзярновіч, А (рэд.) *Рэабілітацыя: Зборнік дакументаў і нарматыўных актаў па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 1920–1980-х гадоў у Беларусі*. Мн. : Athenæum, Калекцыя «Архіў Найноўшае Гісторыі», 2001.
71. Екадумаў, А. *Палітычная сістэма Беларусі з 1990 па 1996 год* // Беларуская палітычная сістэма і прэзідэнцкія выбары 2001. Зборнік аналітычных артыкулаў. Менск–Варшава, 2001.
72. Зенькович, Н. *Тайны ушедшего века: Границы, споры, обиды. Досье*. М. : Ольма-Пресс, 2005.
73. Игорь Кузнецов: *«Шит и меч отечества – неслучайное явление»* [Электронный ресурс] // Хартыя‘97/Charter 97 News. 09.09.2006. Режим доступа : http://www.charter97.org/bel/news/2006/09/12/igor. Дата доступа : 15 октября, 2006.
74. Казакевіч, А. *Культурны фон беларускай палітыкі* // Найноўшая гісторыя беларускага парламентарызму. Мн. : Аналітычныя грудок, 2005. С. 132–146.
75. Князев, С.Н., Решетников, С.В. (ред.) *Основы идеологии белорусского государства. Учебное пособие для вузов*. Мн. : Академия управления при президенте Республики Беларусь, 2004.
76. Ковкель, И.И., Ярмусик, Е.С. *История Беларуси*: *С древнейших времен до нашего времени*. Мн. : Аверсев, 2000.
77. Коктыш, К. *Белоруссия в европейском контексте* // А. Мошес, К. Коктыш. Между востоком и западом: Украина и Белоруссия на европейском пространстве. М. : Гендальф, Московский центр Карнеги, 2003. С. 29–50.
78. Ластоўскі, А. *Русацэнтрызм як ідэалагічны праект беларускай ідэнтычнасці* // Палітычная сфера. 2010. № 14.
79. Леонов, А. *Акценты взаимодействия* // Лад: Белорусско-Российская газета. Совместный проекта «Литературной газеты» и Постоянного комитета союзного государства. 2006. № 46. 20–26 декабря.
80. Липский, Д. *«Не отрекаемся от прошлого…»* // Палітычная сфера. 2007. № 8. С. 108–118.
81. *Лукашенко, Александр* // «Народная газета». 1995. 12 апреля.
82. Лукашенко, А. *Доклад на семинаре руководящих работников по идеологической работе 27.03.2003* [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://president.gov.by/press10957.html#doc. Дата доступа : 19.05.2010.
83. Лукашенко, А. *Выступление Президента Республики Беларусь А.Г. Лукашенко на торжественном собрании, посвященном 60–й годовщине освобождения Республики Беларусь от немецко–фашистских захватчиков и Дню Независимости Республики Беларусь (Дню Республики)*. 03.07.2004 [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://president.gov.by/press18721.html#doc. Дата доступа : 17.04.2007.
84. Лукашенко, А. *Стенограмма пресс–конференции для представителей российских региональных СМИ, 29.09.2006* [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://www.president.gov.by/press31104.html. Дата доступа : 09.01.2008.
85. *Лукашенко в разрезе: по частям тела* // Московский Комсомолец. 2005. 30 апреля.
86. Мазуркевич, М. *КГБ Беларуси издал книгу по истории спецслужб* [Электронный ресурс] // Deutsche Welle. 14.10.2006. Режим доступа : http://www.dw-world.de/dw/article/0,2144,2170947,00.html. Дата доступа : 15.10.2006.
87. Манаев, О. *Электорат Александра Лукашенко* // Д.Е. Фурман (ред.). Белоруссия и Россия: общества и государства. 2-е издание. М. : Издательство «Права человека»,

1998.
88. Мацузата, К. *Рэжым Лукашэнкі як выспа папулізму ў акіяне кланавай палітыкі* // ARCHE. 2005. № 4.
89. Недасек, Н. *Большевизм на путях к установлению контроля над Белоруссией. Очерки истории большевизма в Белоруссии*. Исследования и Материалы. Серия 1-я, вып. 18. Munich : Institute for the Study of the History and Culture of the USSR, 1954.
90. Невзоров, А. *Славяне подтверждают волю к единству: президент Беларуси – Александр Лукашенко* // Завтра: газета духовной оппозиции. 1994. № 27 (32).
91. Платонаў, Р.П., Коршук, У.К. (рэд.) *Беларусізацыя ў 1920-я гады: Дакументы і матэрыялы*. Мн. : Беларускі Дзяржаўны Універсітэт, 2001.
92. Протокол Центральной комиссии по выборам и проведению республиканских референдумов [Электронный ресурс]. 1995. Режим доступа : http://www.rec.gov.by/refer/ref1995respr.html. Дата доступа : 19 мая, 2010.
93. Скобла, М. *Алег Дзярновіч: «Рыхтуецца грамадская рэабілітацыя Сталіна»* [Электронны рэсурс] // Радыё Свабода. 28.03.2005. Рэжым доступу : http://www.svaboda.org/articlesprograms/openstudio/2005/3/8159f6ac-16bd-40b5-be9c-79a9ef-79fe1f.html. Дата доступу : 14.10.2006.
94. Степаненко, О. *Выбор народа* // Советская Россия. 1994. № 67 (11056). 12 июля.
95. Федута, А. *Лукашенко: политическая биография*. М. : «Референдум», 2005.
96. Фурман, Д.Е. (ред.) *Беларуссия и Россия: общества и государства*. 2-е издание. М.: Издательство «Права человека», 1998.
97. Шевцов, Ю. *Объединенная нация: Феномен Беларуси*. М. : Издательство «Европа», 2005.
98. Шушкевич, С. *Неокоммунизм в Беларуси: идеология, практика, перспективы*. Смоленск : Скиф, 2002.

**Часопісы ды інтэрнэт-крыніцы**

1. Аль-Кодс, Святой город: Русско-Палестинский Голос.
2. Dagens Nyheter.
3. Der Spiegel.
4. The Economist.
5. Interfax-Ukraine news agency.
6. Крыніца.
7. Лад: Белорусско-Российская Газета, Совместный проект «Литературной газеты» и Постоянного Комитета Союзного государства.
8. Хартыя ‘97 / Charter 97 News.
9. Moscow News.
10. Московский комсомолец.
11. Naviny.by: Белорусские Новости.
12. President.by.
13. RFE/RL Reports.
14. Rzeczpospolita.
15. Советская Россия.
16. Time.
17. Завтра: газета духовной оппозиции.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Хакки Таш

# Национализм и его двойственность

## Утвердительная и отрицательная самости в греческом национализме

Современная политическая панорама мира доказывает, что предсказание об упадке национализма под влиянием укрепившейся теории модернизма[1] выражало скорее надежду, нежели научный факт. Как писал Майкл Игнатьев (Ignatieff, 1993: 5), *«угнетенный возвратился, и имя ему – национализм»*. Враждебное отношение к национализму по сути отодвинуло на второй план значимые научные изыскания в этой области. Попытка преодолеть сложившуюся ситуацию и сгладить противоречия обернулась повторением основных дихотомий в национализме, вроде этнический vs гражданский, восточный vs западный или немецкий национализм vs французский. В каждом случае одна часть относится к «плохому» национализму, а другая предполагает «правильный», ради которого каждой нации и стоит бороться.

В связи с этим не часто можно наблюдать появление научных работ, хотя бы не погребенных под тяжестью подобных разграничений, а уж тем более преодолевших их. Лишь в немногих исследованиях объективно рассматриваются устойчивость национализма и те причины, по которым люди несмотря ни на что сохраняют приверженность национальным чувствам. К таким исключениям относится работа Георга Шёпфлина (Schöpflin, 2000: 51–65), в которой автор отмечает, что национализм придает окружающему миру значение путем создания «космоса» из «хаоса». Соответственно, возникает хорошо упорядоченный мир, в котором люди могут существовать в человеческих сообществах. Создание того, что является нормальным и естественным, достигается за счет «культурного воспроизводства». Функция национальной идентичности в придании миру значения, на которую указал Г. Шёпфлин, как правило, была вне сферы внимания ученых и нуждается в дальнейшей теоретизации.

[1] При таком понимании подъем национализма рассматривается как иррациональное атавистическое явление. В частности, марксистская теория «неправильного адреса в истории» предусматривает, что «история предназначала свое послание для классов, но оно ошибочно было доставлено нациям» (Yack, 1999: 114). В том же духе и Эли Кедури (Kedourie, 1960) считал национализм всего лишь случайностью.

Исходя из этого, настоящая работа представляет собой попытку изучить то, как конкретно национализм создает для мира значение, и какой вклад эта психологическая функция вносит в устойчивость национализма. На примере новогреческой национальной идентичности будет показано, как и почему греческий национализм приобрел свойственную ему двойственность и каковы механизмы ее уравновешивания. В этих целях мы будем часто обращаться к социальной психологии, используя ее достижения в области изучения национализма.

## I. Изменение рамок национализма

Попытки вывести изучение национализма на теоретический уровень носили ограниченный характер из-за сильной закрытости самого объекта исследования. По-видимому, создать единую всеобъемлющую теорию невозможно, да в этом и нет особой практической пользы. Тем не менее, этот факт не должен служить оправданием тому, что в течение длительного времени работы в области национализма находились на слабом теоретическом уровне. Как утверждает Юли Тамир (Tamir, 1999), в то время как либералы считают национализм примитивным выражением эмоций, не достойным какой бы то ни было теории, националисты воздерживаются от каких-либо обобщений из опасения, что последние отодвинут на второй план их особость, а в чем-то даже и избранность. Существующие ныне дихотомии наподобие противопоставления этнического и гражданского национализма также не способствуют дальнейшим теоретическим разработкам. Представляется, что более перспективным в разрыве этого порочного круга будет междисциплинарный подход при изучении национализма.

Причины и характер устойчивости национализма до настоящего времени рассматриваются в основном в контексте его связи с политической структурой или этнокультурной составляющей. Психологические функции практически не затрагиваются. На основании данных социальной психологии в настоящей работе доказывается, что национальная идентичность выполняет ключевую функцию в создании имеющего значение мира. Кроме того, она поддерживает стабильность и формирует чувство собственного достоинства. Национализм выполняет эти функции через создание национальных «схем», под которыми мы понимаем *«высоко организованные и обобщенные структуры в памяти, которые отвечают за познание и ячейки памяти»* (Morgan & Schwalbe, 1990: 148–164).

Эти «схемы» обеспечивают людей «шаблонами для интерпретации». Последние снижают познавательную активность субъекта при интерпретации им каких-либо событий (Monroe et al., 2000: 423). «Схемы» служат своеобразными ярлыками, указывающими на способ понимания того или иного явления. События, укладывающиеся в эти «схемы»,

имеют гораздо больше шансов быть воспринятыми, чем информация, противоречащая сформировавшимся «схемам». Последняя может быть искажена или даже проигнорирована. Субъект воспринимает искаженную картину мира, чтобы поддержать чувство собственного достоинства, быть последовательным в своих взглядах или согласовывать их со взглядами других (Monroe et al., 2000: 424). Такое избирательное восприятие и объясняет стабильность социальной идентичности субъекта.

Поддержка чувства собственного достоинства принадлежит к числу фундаментальных желаний любого человека. Именно оно может стать ключом к пониманию силы национальной идентичности. Генри Тайфель, анализируя социальную идентичность именно в этом контексте, пришел к выводу, что люди, как правило, отдают предпочтение той группе, в которой они состоят (in-group), а не внешним группам (out-groups), даже если и первые, и вторые представляют собой только искусственные конструкции. Простое образование группы, до этого не наделенной значением, порождает внутригрупповую лояльность (in-group favoritism) (Tajfel, 1970: 96 – 102).

В результате члены группы получают мотивацию еще раз заявить о своем самоуважении перед соответствующими внешними группами. Более того, наблюдается тенденция к возникновению негативных стереотипов об указанных группах, даже в тех случаях, когда нет борьбы за ресурсы. В отличие от того, что утверждает теория рационального выбора, самоуважения, получаемого индивидуумами от положительной оценки собственной группы, вполне достаточно, чтобы подчеркнуть самоидентификацию и свое превосходство над другими группами.

Теории модернизма[2], которые предполагают ослабление религиозных и национальных уз и усиление рационализации в индустриальных обществах, фактически отрицают на их взгляд «нерациональные», но вместе с тем основные человеческие качества. Классические модернистские теории утверждают, что национализм возникает в результате перехода от традиционного общества к современному. Для Эрнста Геллнера (Gellner, 1983) переход от аграрного к индустриальному обществу, который сопровождался развитием «высокой» культуры, обслуживаемой унифицированным национальным языком, вел к возникновению нации. Э. Геллнер определяет национализм как *«прежде всего политический принцип, суть которого состоит в том, что политическая и национальная единицы должны совпадать»* (Gellner, 1983: 1)[3]. Только пос-

2 О национализме как о современном феномене см.: Kedourie, 1960; Gellner, 1983; Anderson, 1983; Hobsbawm, 1990. Об этно-символическом подходе, признающем исконные корни нации, см.: Smith, 1991.

3 Перевод цитаты дан по русскому изданию: Геллнер, Э. Нации и национализм: Пер. с англ. М. : Прогресс, 1991. – *Прим. переводчика.*

ле индустриализации политические единицы могут рассматриваться как культурное целое, что характерно для государств-наций.

Если довести эту аргументацию до логического конца, возникает причинно-следственная связь между модернизмом и упадком национализма в связи с «атомизацией общества» и «размыванием классовых барьеров» (Jenkins & Sofos, 1996: 169). В индустриальном обществе высокая мобильность, распад местных общин, высокая рационализация и индивидуализм должны были уменьшить значение культурных и этнических различий. Таким образом, модернисты считают, что из-за постепенного ослабления своих основ национализм приходит в упадок. Однако социально-экономическое основание модернистской теории не учитывает того, что национальная идентичность служит также и для удовлетворения других потребностей, в частности, потребности принадлежать к группе, в которой реализуется чувство собственного достоинства.

Норманн Вэйн (Wayne, 1999) определил нацию как «сообщество чувства» (community of sentiment) в веберовском понимании. По его мнению, нужно исследовать, как эта психологическая связь, возникающая из чувства родства, служит для формирования идентичности. Целостное психологическое изучение национализма не является целью данной работы. Основной акцент в ней сделан на двойственности самого национализма в контексте поддержки чувства собственного достоинства.

Национальная идентичность анализируется в двух плоскостях: в плоскости *утвердительной (национальной) самости* (positive self) и плоскости *отрицательной (национальной) самости* (negative self). Утвердительная самость указывает на сформулированные внутри группы характерные особенности нации на основе ее культуры, этнической принадлежности и прошлого; отрицательная же самость определяется по отношению к другим и указывает на не характерные для нации особенности.

В этой связи в работе выдвигаются два положения. Во-первых, утвердительная (определенная самой группой) самость носит двойственный характер, так как в целях поддержания чувства самоуважения черпает из разных источников, а значит, ведет к разным, если не к взаимно противоречивым, характеристикам данной нации. Такая двойственность обеспечивает достаточную гибкость для утверждения чувства национального превосходства. Во-вторых, двойственность и нелогичность в том сплаве, который называется утвердительной самостью, компенсируются акцентом на негативной самости. Последняя связана с тем, как нация позиционирует себя по отношению к другим. Здесь уже подчеркиваются не те характеристики, которыми нация обладает, а те, которые ей не свойственны. Выдвинутые положения раскрываются на основе новогреческого национализма, а также на том способе, с помощью

ў практычнай палітыцы. Гэта датычыць і федэратыўнага ўладкавання новай савецкай дзяржавы, хаця федэрацыя ў ленінскім уяўленні была толькі пераходнаю формаю да цэнтралізаванай дзяржавы. У гады станаўлення Савецкай Расіі (1917–1922 гг.) і нацыянальных савецкіх рэспублікаў супрацьстаялі дзве канцэпцыі: федэралісцкая і аўтанамісцкая. Але абедзве гэтыя канцэпцыі па сутнасці былі скіраваныя на тое самае. Федэралісцкая канцэпцыя Леніна была проста тактычным крокам у перыяд распаду Расіі.

**Литература**

1. *Декларация прав народов России* // История советской Конституции (в документах), 1917–1956. Составители: А.А. Липатов, Н.Т. Савенков. М., 1957. С. 57–58.
2. *История России. XX век*: Учебное пособие / О.А. Яновский, С.В. Позняк, В.И. Меньковский и др.; Под ред. В.И. Меньковского и О.А. Яновского. Мн. : РИВШ, 2005.
3. Карр, Э. *История Советской России*. Книга 1: Т. 1 и 2. Большевистская революция. 1917–1923. Пер. с англ. / Предисл. Ненарокова А.П. М. : Прогресс, 1990.
4. *Ко всем трудящимся мусульманам России и Востока* // История советской Конституции (в документах), 1917–1956. Составители: А.А. Липатов, Н.Т. Савенков. М., 1957. С. 66–68.
5. ***Конституция Российской Социалистической Федеративной Советской Республики, принятая V Всероссийским съездом Советов в заседании от 10 июля 1918 г.*** // История советской Конституции (в документах), 1917–1956. Составители: А.А. Липатов, Н.Т. Савенков. М., 1957. С. 142–158.
6. Ладысеў, У.Ф., Брыгадзін, П.І. *На пераломе эпох: Станаўленне беларускай дзяржаўнасці (1917–1920 гг.)*. Мн. : БДУ, 1999.
7. Ленин, В.И. (a) *Задачи пролетариата в нашей революции* // ПСС. Изд-е 5. Т. 31. М. : Изд-во политической литературы, 1962. С. 164–169.
8. Ленин, В.И. (a) *Критические заметки по национальному вопросу* // ПСС. Изд-е 5. Т. 24. М. : Изд-во политической литературы, 1961. С. 113–150.
9. Ленин, В.И. (b) *Национальный вопрос в нашей программе* // ПСС. Изд-е 5. Т. 7. М.: Изд-во политической литературы, 1959. С. 233–242.
10. Ленин, В.И. (a) *О манифесте «Союза армянских социал-демократов»* // ПСС. Изд-е 5. Т. 7. М. : Изд-во политической литературы, 1959. С. 102–106.
11. Ленин, В.И. (b) *О праве наций на самоопределение* // ПСС. Изд-е 5. Т. 25. М. : Изд-во политической литературы, 1961. С. 256–320.
12. Ленин, В.И. (c) *Первоначальный вариант статьи «Очередные задачи советской власти»* // ПСС. Изд-е 5. Т. 36. М. : Изд-во политической литературы, 1962. С. 145–153.
13. Ленин, В.И. (b) *Речь о войне 9 (22) июня* // ПСС. Изд-е 5. Т. 32. М. : Изд-во политической литературы, 1962. С. 277–291.
14. Ленін, У.І. *Прамова па нацыянальнаму пытанню 29 красавіка (12 мая)* // Творы. Пераклад з чацвёртага рускага выдання. Т. 24. Красавік–чэрвень 1917. Мн. :

Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1951. С. 266–270.
15. Макарова, Г.П. *Народный комиссариат по делам национальностей РСФСР 1917–1923 гг. Исторический очерк*. М. : Наука, 1987.
16. Минц, И.И. *Иностранная вооруженная интервенция в Советской России (1918–1920 гг.)* [Электронный ресурс] // Всемирная история дипломатии. Режим доступа: http://www.diphis.ru/index.php?option=content&task=view&id=118#8.
17. *Национальная политика России: история и современность*. М. : Инфармационно-издательское агенство «Русский мир», 1997.
18. *О признании Советом Народных Комиссаров народной Украинской Республики и о предъявленном Центральной Раде ультиматуме ввиду ее контрреволюционной деятельности. [Извлечение]* // История советской Конституции (в документах), 1917–1956. Составители: А.А. Липатов, Н.Т. Савенков. М., 1957. С. 74.
19. *О федеральных учреждениях Российской Республики [Резолюция III Всероссийского съезда Советов]* // История советской Конституции (в документах), 1917–1956. Составители: А.А. Липатов, Н.Т. Савенков. М., 1957. С. 105–106.
20. *Программа и устав Российской С.-Д.Р. партии, принятые на 2-м (1903 г.) и на 7-м (1917 г.) съездах партии*, 1917.
21. *Рэзалюцыя па нацыянальнаму пытанню* // У.І. Ленін. Творы. Пераклад з чацвёртага рускага выдання. Т. 24. Красавік–чэрвень 1917. Мн. : Дзяржаўнае выдавецтва БССР, 1951. С. 271–272.
22. Сталин, И.В. *Как понимает социал-демократия национальный вопрос* // Сочинения. Т. 1. М. : Государственное изд-во политической литературы, 1946.
23. Сталін, І.В. *Даклад па нацыянальнаму пытанню на VII (Красавіцкай) Усерасійскай канферэнцыі РСДРП(б) 29 красавіка (12 мая) 1917 г.* Мн., 1937.
24. Чистяков, О.И. *Становление Российской Федерации (1917–1922).* М. : Изд-во Московского университета, 1966.
25. Энгельс, Ф. *Какое дело рабочему классу до Польши?* // К. Маркс и Ф. Энгельс. Сочинения. Изд-е 2. Т. 16. М. : Государственное изд-во политической литературы, 1960. С. 156–166.

**Іншыя крыніцы**

1. Шаститко, П.М. *Обреченные догмы: Большевизм и национальный вопрос.* М. : Вост. лит., 2002.
2. Ленін, У.І. *Аб нацыянальным пытанні.* Мн. : Дзяржвыд. Беларусі, 1925.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Уладзіслаў Іваноў

# Эвалюцыя тоеснасці і культуры старавераў паўночнай Беларусі, канец XIX – пачатак XXI стагоддзя

## Уступ

Старавеpы, ці «маскалі», «маскоўцы», як іх традыцыйна называюць беларусы, у стэрэатыпным, а таксама афіцыйным уяўленні належаць да расійскай культуры. Натуральна, не выклікае сумневу іхнае паходжанне, з'яўленне на беларускіх землях з Расіі, іхныя, так бы мовіць, расійскія карані. Але тое, што яны жылі сярод беларусаў цягам некалькіх стагоддзяў, наклала пэўны адбітак на іхную тоеснасць, мову і традыцыі, і гэтага таксама нельга адпрэчыць. Мэта артыкулу палягае ў тым, каб высветліць, якія формы прымалі кантакты паміж старавераміі і беларусамі ў XIX–XXI стст., у якіх культурных і моўных канфігурацыях яны развіваліся і якіх вынікаў дасягнулі.

Дзякуючы этнаграфічным апісанням і статыстыцы (звесткі «Памятных кнігаў» розных беларускіх губерняў, першы перапіс насельніцтва Расійскай імперыі), мы маем магчымасць зазірнуць у этнічную гісторыю паўночнай Беларусі ды выявіць пэўныя індыкатары (афіцыйныя і дадатковыя) тагачаснай тоеснасці стараавераў. У нашым выпадку асноўным індыкатарам выступаюць, па-першае, мова, а па-другое, самавызначэнне.

Так, сцвярджаючы, што старавеpы – адданыя расійцы, якія захоўваюць расійскую мову і традыцыю стараправаслаўя, мы мімаволі ператвараем іх у супольнасць, якая не мяняецца. Пры гэтым самі расійцы Расіі значна эвалюцыянавалі за апошнія некалькі стагоддзяў. Тым не менш, размова ідзе аб простых людзях, якія жывуць у зменлівым свеце войнаў, міграцыяў, безупынных сацыяльна-эканамічных трансфармацыяў, прымусу і гвалту (як фізічнага, так і сімвалічнага), таму змены як якаснага, так і колькаснага кшталту ёсць натуральнымі спадарожнікамі любой культуры.

Гэтае даследаванне накіраванае на вывучэнне асаблівасцяў эвалюцыі культуры стараавераў Беларусі, ці, дакладней, толькі паўночнай Беларусі. Непасрэдным прадметам аналізу выступаюць такія важныя элементы культуры, як «тоеснасць» і «мова». У гэтай сувязі трэба патлу-

мачыць мінімальны інтарэс у гэтай працы да рэлігійнай кампаненты стараверскай тоеснасці, тым не менш вельмі важнай для поўнага разумення старaверства. Прызнаючы, што менавіта дзякуючы рэлігійнаму чынніку большасць старавераў захоўвае сваю спецыфіку, а таксама канстатуючы важнасць рэлігійнага вымярэння ў самавызначэнні саміх старавераў, аўтар тым не менш цікавіўся не столькі канфесійнаю, колькі палітычнаю, нацыянальнаю і моўнаю кампанентамі тоеснасці, праз якія лепей бачная эвалюцыя ўсёй культуры старавераў.

На дадатак, у межах секулярызаванага грамадства часам досыць цяжка вылучыць і апісаць рэлігійнае, нават на прыкладзе такой тыповай, стэрэатыпнай рэлігійнай групы, як старaверы.

## Асноўныя паняткі і метады

Для нас, людзей XXI ст., панятак тоеснасці ёсць натуральным: ён часта сустракаецца ў газетах, манаграфіях, прамовах палітыкаў. Але ж зазначым, што ён вельмі новы; актыўна пачаў ужывацца ў сацыяльных і палітычнай навуках у Еўропе толькі ў 1980-я–1990-я гг. Так, напрыклад, Фэрнан Брадэль, выбітны французскі гісторык, у 1980-я гг. пазначаў, што ў Францыі да той пары навукоўцы не аперавалі такім паняткам (Thiesse, 1999). Шмат пісалася пра нацыянальнае пачуццё ў гістарычнай перспектыве, але ніколі не ўжываўся панятак «тоеснасць» або «ідэнтычнасць» (Thiesse, 1999). Псіхолагі і сацыёлагі, такія як Ірвінг Гофман у ЗША, пачалі ўводзіць яго ва ўжытак толькі ў 1960-я–1970-я гг. (Thiesse, 2000).

Аднак за малы прамежак часу гэты тэрмін стаўся натуральным і відавочным для ўсіх. Не зважаючы на відавочнасць, пазначым акцэнты: *тоеснасць* – не нешта беспаваротна вызначанае і зафіксаванае, а толькі дынамічная сукупнасць пэўных супольных пунктаў, момантаў, якія падзяляе пэўная група (у прыватнасці старaверы).

Гэтымі супольнымі пунктамі ёсць мова, рэлігія, тэрыторыя, падобны сацыяльна-эканамічны лад жыцця, гістарычная памяць, а таксама разуменне самой супольнасці, падабенства і належнасці да яе. Акцэнт тут робіцца на абавязковай дынаміцы тоеснасці і спецыфіцы кожнай суполкі, таму ў прынцыпе немагчыма даць адзін дакладны і сціслы адказ на пытанне, што такое стараверская тоеснасць. Трэба сказаць, што няма адной тоеснасці, а ёсць сукупнасць стараверскіх – часам вельмі адрозных – тоеснасцяў і тэндэнцыяў.

Даследаванне сучаснай тоеснасці віцебскіх старавераў базуецца на першым перапісе Віцебскай губерні ў межах першага ўсеагульнага перапісу Расійскай імперыі 1897 г., а таксама на сучасных апытаннях і экспедыцыйных матэрыялах пачатку XXI ст. Натуральна, аўтар улічвае стогадовы прагал паміж гэтымі пунктамі, але ж варта зазначыць, што цягам усяго XX ст. не праводзілася ніводнага даследавання ці перапісу мясцовых старавераў, а таму эвалюцыя стараверскай

тоеснасці заставалася па-за ўвагаю навукоўцаў.

Такім парадкам вылучэнне агульнай тэндэнцыі развіцця беларускага стараверства ў ХХ ст. адбываецца перадусім шляхам гістарычнай рэканструкцыі, у чым аўтару дапамаглі ўспаміны старых стараveraў, а таксама пэўныя архіўныя звесткі. Хаця трэба прызнаць, што лакуна ў вывучэнні стараверства ў Беларусі ў ХХ ст. усё адно застаецца незапоўненаю. Варта таксама пазначыць, што сённяшнія стараверы Віцебшчыны сустракаюцца ва ўсіх раёнах вобласці, але асабліва кампактна жывуць на захадзе (Мёрскі, Пастаўскі, Браслаўскі раёны, а таксама Полацк, Шаркоўшчына, Шуміліна, Бешанковічы ды інш., дзе жывуць пераважна паморскія стараверы-беспапоўцы, якія складаюць абсалютную большасць мясцовага стараверства). Што датычыць стараveraў-папоўцаў[1], то яны кампактна жывуць у Віцебску, яго ваколіцах і Лёзненскім раёне. Гэтак званыя стараверы-адзінаверцы[2] не фіксуюцца падчас апытанняў, бо пасля 1905 г., калі быў прыняты маніфест аб умацаванні верацярпімасці, яны зліліся ці то з праваслаўнымі, ці то з іншымі староверамі; у XXI ст. пра іх не засталося звестак, прынамсі ў віцебскім рэгіёне[3].

Пошук стараveraў Віцебшчыны адбываўся шляхам апытання стараveraў паводле ланцуговага прынцыпу: падчас сустрэчаў са староверамі Віцебску, напрыклад, ці Шуміліна, аўтар выяўляў іншыя месцы іхнага рассялення, бо ў размовах аўтаматычна выходзілі шматлікія назвы вёсак і мястэчак, адкуль рэспандэнты ці рэспандэнткі прыехалі ў Віцебск ці іншы горад або мястэчка. Акрамя гэтага аўтар абапіраўся на прыблізную мапу рассялення стараveraў у Віцебскай вобласці, створаную Наталляй Мінінай і яе калегамі з Віцебскага дзяржаўнага універсітэту імя Пятра Машэрава (Белорусское Поозерье..., 2001: 203).

Нарэшце, перад тым як перайсці да ўласна высвятлення тоеснасці беларускіх стараveraў, трэба патлумачыць, хто такія цяперашнія стараверы Беларусі. Ці гэта ўсё яшчэ субэтнас расійскага этнасу, як іх інтэрпрэтуе расійская этналогія? Ці гэта субэтнас беларусаў? Спецыялісты, як будзе відаць ніжэй, маюць розныя версіі. Фактычна, не існуе аднаго стараверства, дакладней, больш карэктна весці гаворку пра стараверствы. Не зважаючы на малалікасць, раскіданасць і пэўную маргіналізаванасць мясцовых стараveraў, што, без сумневу, ускладняе даследаванне гэтай

1 Папоўства – адна з дзвюх асноўных плыняў стараверства, якая прызнае таінства святарства (у адрозненне ад беспапоўцаў, што, сярод іншага, бачна ў самой назве суполкі).

2 Адзінаверства – плынь у стараверстве (іншыя назвы: «новыя дабраслаўленцы» і «царкоўныя стараверы»), якая захоўвае старыя рэлігійныя даніканаўскія традыцыі, але прызнае, тым не менш, іерархічную юрысдыкцыю Маскоўскага патрыярхату.

3 На сённяшні момант у Беларусі існуе толькі адна суполка адзінаверцаў – у Мінску.

своеасаблівай супольнасці Беларусі, розныя групы, розныя сагласы[4] старавераў знаходзяцца на розных стадыях адначасова акультурацыі ды асіміляцыі. Шмат якія гарадскія і местачковыя суполкі старавераў – як папоўцаў, так і беспапоўцаў – у XX ст. канчаткова асіміляваліся беларускаю культураю. Іншыя старaверскія суполкі яшчэ на стадыі асіміляцыі.

Натуральна, усе гэтыя вельмі адрозныя тэндэнцыі не дазваляюць даць адзіны адказ на пытанне пра цяперашні стан старавераў Беларусі. Нарэшце, досыць дыскусійным застаецца пытанне, хто такія старaверы Беларусі. У працы робіцца спроба часткова даць адказ і на апошняе пытанне.

Каб дакладна адказаць на гэтыя пытанні ды апісаць стан узаемапранікнення культураў старавераў і беларусаў, трэба ўвесці такія паняткі, як акультурацыя[5], асіміляцыя[6] і сінкрэтызм[7]. Праўда, варта адзначыць, што ў нашым выпадку акультурацыя не мае ніякіх адмоўных канатацыяў, а ўжываецца ў разуменні Бастыда (Bastide, 1960, 1970, 1971; Souty, 2002: 44–46), які ўспрымаў акультурацыю як з'яву заўсёды ўзаемную і двухбаковую для ўдзельнікаў працэсу, вядомага ў этналогіі як узаемапранікненне культураў. І гэты працэс выклікае якасныя змяненні як у мінарытарнай, так і дамінантнай культуры, і змены гэтыя з'вязаныя з існаваннем у межах адной тэрыторыі, дзяржавы (Souty, 2002: 44–46). Такім парадкам, акультурацыя не раўназначная заняпаду і выміранню культуры, як гэта часта ўспрымаецца ва Усходняй Еўропе, а азначае хутчэй ідэю сінкрэтызму і стварэння новай культуры на аснове дзвюх кантактных культураў (Tardieu, 1990–1991: 493–496).

Неабходна дапусціць, што некаторыя мінарытарныя і адначасо-

---

4 Саглас – суполка, секта, плынь, кірунак (пераважна рэлігійны). Зазвычай гэты панятак ужываецца ў дачыненні старaверскай культуры. Гістарычна склаліся некалькі дзесяткаў старaверскіх сагласаў (папоўцы і беспапоўцы; у межах беспапоўскай культуры існуе цэлы шэраг большых і дробных сагласаў: паморцы, федасееўцы, філіпаўцы, нетаўцы ды інш.). У Беларусі бальшыня старавераў належыць да беспапоўскага паморскага (каля 50 тыс. прыхільнікаў) і папоўскага сагласаў (няма звестак пра колькасць).

5 Акультурацыя – працэс трансфармацыі, які закранае некалькі культураў (пераважна дзве культуры, якія суіснуюць, кантактуюць), і выпрацоўвання новай культуры на аснове звычак і традыцыяў кантактных культураў. У заходняй этналогіі працэс акультурацыі звычайна не раўназначны дэкультурацыі, то бок вынішчэнню першапачатковай культуры ці, хутчэй, культураў. Акцэнт робіцца акурат на выпрацоўванні новай культуры, таму акультурацыя часцяком трактуецца як памяркоўная, натуральная асіміляцыя без гвалту.

6 Асіміляцыя – радыкальная форма акультурацыі, якая азначае поўнае вынішчэнне пэўнай першапачатковай культуры і пераход да культуры дамінантнай.

7 Сінкрэтызм – у этналогіі гэта своеасаблівы культурны мэтысаж (métissage) або сумесь уплываў, то бок стварэнне новай культуры на базе шэрагу кантактных культураў. Такім чынам, сінкрэтызм у пэўнай ступені падобны да акультурацыі ў яе мяккай форме.

ва маргінальныя культуры здатныя супрацьстаяць і нават уплываць на дамінантныя культуры. Таму не варта ўспрымаць акультурацыю стараквераў як дэградацыю і вынішчэнне іхнай культуры і мовы, а хутчэй як выпрацоўванне новай сінкрэтычнай беларуска-староверскай культуры. Кажучы пра *сінкрэтызм*, трэба ўдакладніць, што ён не ахоплівае ўсёй мясцовай староверскай супольнасці, а хутчэй значную частку стараквераў-беспапоўцаў, якія былі і застаюцца ў актыўных і сталых стасунках з беларусамі.

Тут варта звярнуцца да этнографаў XIX ст. (Никифоровский, 1895; Маркс, 1995), якія апісвалі культурны абмен паміж беларусамі і стараверамі, уплыў моды, кулінарных і агародніцкіх звычак стараквераў на беларускую культуру, а таксама ўплыў мовы беларусаў на гаворкі стараквераў, уплыў шматлікіх беларускіх традыцыяў – як харчовых, так і прамысловых – на лад жыцця стараквераў (Болонев, 1985; Гарбацкі, 2003). Беларуска-староверскі сінкрэтызм на сучасным этапе закрануў не толькі культурнае вымярэнне, але, як ні парадаксальна, і рэлігійнае: так, падчас экспедыцыі ў Браслаўскі раён у студзені 2009 г. аўтар зафіксаваў надзвычай цікавую з'яву.

Шмат якія цяперашнія староверы-беспапоўцы заходняй Віцебшчыны, дзе яны мірна суіснуюць з беларусамі-каталікамі, прымаюць у сябе ксяндза, які «ходзіць па Калядзе». У адсутнасць свайго ўласнага святара староверы спавядаюцца ксяндзу і дазваляюць яму асвячаць хату на Каляду. Трэба канстатаваць, што гэта вельмі радыкальнае змяненне ў паводзінах стараквераў XXI ст.

Іншаю праяваю пэўнага беларуска-староверскага культурнага і рэлігійнага сінкрэтызму можа лічыцца радыкальнае рашэнне святарскага пытання. Вядома, напрыклад, што ў другой палове XX ст., а таксама на пачатку XXI ст., староверы сутыкнуліся з праблемаю нястачы святароў, ці настаўнікаў у беспапоўцаў (Інтэрвію…, 1998: 4; Подмазов, 1973: 99). У звязку з гэтым і пад несумненным уплывам як ідэяў пэўнага парытэту палоў у беспапоўскіх суполках, так і афіцыйнай дэкларацыі роўнасці палоў у БССР, беспапоўкам дазволілі рабіцца святаркамі, узначальваць вясковыя староверскія грамады (Отрывки..., 2006).

Нарэшце, менавіта праз прызму сінкрэтызму варта трактаваць такую з'яву, як сучасны ўплыў старaверства на праваслаўе. Тут маецца на ўвазе пэўны сімвалічны ўплыў стараквераў на традыцыю праваслаўных, якія значна больш згубілі і пацярпелі ў эпоху ваяўнічага, а затым пасіўнага атэізму. Староверы ж, вядомыя як упартыя ў сваім змаганні або супрацьстаянні Саветам, лепей захавалі стараправаслаўную спадчыну, шматлікія паўсядзённыя традыцыі. І ў эпоху *«вяртання рэлігійнага» (le retour du religieux)* (Kepel, 1991), у Беларусі гэта канец 1980-х – пач. 1990-х гг., менавіта дзякуючы стараверам у праваслаўе вярнуліся шмат якія згубленыя за савецкім часам традыцыі (Моррис, 2004).

## II. Стараверы Беларусі ў эпоху «этнаграфічнага буму» і падчас перапісу 1897 г.

Самыя першыя звесткі пра традыцыі, а таксама тоеснасць мясцовых старавераў можна атрымаць ад этнографаў, гісторыкаў і статыстаў, якія ў XIX ст. у гэтак званую этнаграфічную эпоху, этнаграфічны бум, апісалі іхныя нoравы і побыт. Досыць часта старaверская тэма паўставала як дадатак падчас вывучэння і апісання беларусаў (Сементовский, 1872; Сапунов, 1883; Никифоровский, 1895; Маркс, 1995; Горбачевский, 1895; Аникиевич, 1907). Так, Мікалай Нікіфароўскі апісваў, як беларускі і стараверкі абменьваліся модаю, фасонамі нашэння хустак і каптурыкаў (Никифоровский, 1895). Кірыла Анікіевіч, апісваючы побыт і мову старавераў, заўважаў, што ўсё больш у іхнай мове трапляецца беларускіх словаў (Аникиевич, 1907). Складальнікі-аўтары «Памятных кнігаў Віцебскай губерні» ў апісаннях мясцовых старавераў кожны раз падкрэслівалі, што на іхную мову істотна паўплывала *«белорусская речь»* – як у лексічным, так і фанетычным плане (Памятная книжка Витебской губернии, 1898: 102).

Сучасная беларуская мовазнаўца, даследчыца беларускага старaверства Аляксандра Манаенкава, напісала ў сваёй працы (прысвечанай, праўда, старaверам Веткі), што ўплыў беларускай мовы на старавераў меў месца, але пераважна сыходзіў з боку дыялектаў, а не літаратурнай мовы (Манаенкова, 1974: 36). Гэта датычыць усіх старавераў, у тым ліку віцебскіх. Насамрэч, з усіх гэтых апісанняў можна атрымаць вельмі скупую, пераважна другарадную інфармацыю пра старавераў. Апроч таго, моўны аспект беларуска-старaверскіх стасункаў, тым больш у гістарычнай перспектыве, даследаваны вельмі кепска. Пры адсутнасці выбару давядзецца задаволіцца гэтымі каліўцамі, з якіх усё адно можна вылучыць цікавыя звесткі пра кантакты паміж беларусамі і старaверамі, пра ўзаемны ўплыў у такіх сферах, як кулінарыя, адзенне, мода і мова.

Сапраўды новы этап у разуменні мясцовай старaверскай культуры пачаўся з першым перапісам насельніцтва Расійскай імперыі ў 1897 г. Тут магчыма атрымаць не прыблізную, а дакладную інфармацыю пра старавераў, і не толькі што датычыць іхнай колькасці, але і культуры. Так, падчас перапісу ўлічваліся такія аспекты, як родная мова і мясцовасць, у якой жылі апытаныя (горад, мястэчка ці вёска). Перапіс насельніцтва ёсць важнаю крыніцаю інфармацыі напрыканцы XIX ст., якая дазваляе агучыць некаторыя новыя высновы.

Дзіўна, але беларускія этнолагі дасюль ігнаруюць першы перапіс Расійскай імперыі. Толькі маладыя даследнікі пачынаюць уводзіць гэтую «новую старую» крыніцу ў сучасны агляд (Магалінскі, 2007: 56–58). Так, падчас перапісу выявілася, што ў Віцебскай губерні налічвалася 83 022 стараверы (для параўнання ў 1862 г., паводле звестак Аляксандра Семянтоўскага, іх было прыблізна 40 700 чалавек; сёння лічба сягае прыкладна

20 000). З 83 022 старавераў большыня прызналі роднаю расійскую мову (62 508 чалавек), але каля 25 % тагачасных старавераў (20 123 чалавекі) прызналі роднаю моваю беларускую.

Цяжка абвінаваціць царскі ўрад у завышэнні паказчыкаў беларускае прысутнасці ў краі. Вядома, можна дапусціць пэўны суб'ектывізм падчас перапісу, тым не менш агульная тэндэнцыя відавочная. Па сутнасці тэндэнцыя пэўнай беларусізацыі старавераў (прынамсі моўнай) ёсць цалкам натуральнаю. Частка старавераў, асабліва беспапоўскіх сагласаў, досыць актыўна мяшалася з беларусамі, а таму паступова пераймала іхную мову, як і беларусы пераймалі расійскую мову.

*«Беларусізацыя»* старавераў – гэта з'ява спантанная, натуральная і мае на ўвазе пэўны бок акультурацыі гэтай часткі насельніцтва ў выніку ўзаемных кантактаў з беларусамі. Вельмі цікава, што беларусізаваліся пераважна старавеpы этнічна беларускай зоны, дзе беларусы складалі абсалютную бальшыню насельніцтва (Полаччына, Невельшчына, Люцыншчына, Лепельшчына, Дзвіншчына, Гарадоччына, Вяліжчына). У шэрагу памежных раёнаў (Себежскі, Рэжыцкі, Дрысаўскі ўезды) старавеpы лепей захоўвалі сваю ідэнтычнасць і мову.

**Табліца 1. Родная мова старавераў (Перапіс, 1897)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 62 508 |
| Беларуская мова | 20 123 |
| Украінская мова | 2 |
| Іншая | – |
| Агулам | 83 022 |

**Табліца 2. Родная мова старавераў Вяліжскага ўезду (Перапіс, 1897)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 74 |
| Беларуская мова | 209 |
| Агулам | 283 |

**Табліца 3. Родная мова старавераў Себежскага ўезду (Перапіс, 1897)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 2 218 |
| Беларуская мова | 47 |
| Агулам | 2 265 |

**Табліца 4. Родная мова стравераў Рэжыцкага ўезду (Перапіс, 1897)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 27 106 |
| Беларуская мова | 2 562 |
| Агулам | 29 668 |

**Табліца 5. Родная мова стараверараў Невельскага ўезду (Перапіс, 1897)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 2 776 |
| Беларуская мова | 2 382 |
| Агулам | 5 158 |

Але нават у буйных гарадах (Віцебск, Полацк) значная частка стравераў лічыла роднаю моваю беларускую: у Віцебску з 1220 чалавек 245, у Полацку з 350 чалавек 86 прызналі беларускую мову роднаю. Трэба зазначыць, што гаворка ідзе не пра літаратурную беларускую мову, бо напрыканцы XIX ст. яна прызнавалася *«наречием»* і не мела літаратурнага стандарту. Але нават калі размова ідзе пра дыялекты беларускай мовы, беларусізацыя пэўнай часткі старавераў губерні не губляе сваёй значнасці і навізны ў агульным разуменні мясцовага стараверства.

**Табліца 6. Родная мова старавераў Віцебску (Перапіс, 1897)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 1220 |
| Беларуская мова | 245 |
| Агулам | 1465 |

праўдападобна выглядае з'ява ўзаемнага культурнага абмену і пранікнення адной культуру ў другую. Таксама хацелася б скіраваць увагу на характар і сутнасць беларусізацыі старавераў.

На розных этапах пад уплывам розных ідэалагічных мадэляў (царызм, бальшавізм) беларусізацыя набывала розныя вымярэнні ды маштабы: так, напрыклад, у XIX ст. яна адбывалася ў сферы культуры і мовы, пра што неаднойчы пісалі вышэй згаданыя этнографы і статысты. Затым у СССР (БССР) пэўная беларусізацыя старавераў перайшла ў рэчышча

На карысць моўнай беларусізацыі старавераў сведчыць і той факт, што абсалютная іх бальшыня жыла ў сельскай мясцовасці: з 83 тыс. старавераў толькі 7 300 жылі ў гарадах, астатнія – у мястэчках і вёсках. Зразумела, што ў вёсцы асабліва натуральна і

палітычнае. Напачатку пад уздзеяннем нацыянальнай палітыкі 1920-х гг., пазней, пасля вайны, з 1950-х гг., у выніку рацыянальных стратэгіяў, напрыклад, пашпартызацыі насельніцтва («пашпартная беларусізацыя»), калі шмат якія мясцовыя стараверы

запісваліся беларусамі толькі таму, што жылі ў Беларусі.

Адпаведна з гэтай эвалюцыяй і спецыфічнаю сітуацыяй першапачаткова беларусізацыя старавераў развівалася як акультурацыйны працэс, то бок працэс, у якім мянялася не толькі першапачатковая стараверская культура, але і беларуская культура. Праўда, стараверская культура змянялася хутчэй і больш інтэнсіўна, бо не магла супрацьстаяць ані большай аўтахтоннай беларускай культуры, ані дамінантнай расійскай, а затым савецкай культуры. Таму акультурацыя паміж старaверамі і беларусамі хоць і адбывалася спантанна, мірна, але ж усё адно была няроўная, хаця б таму, што паводле колькасці насельніцтва беларусы значна пераважалі старавераў, адпаведна першыя ўспрымаліся як аўтахтоны, а апошнія – як прышлы люд.

Такім чынам, акультурацыя старавераў заўсёды мела асіміляцыйнае адценне і развівалася ў бок поўнай асіміляцыі. Пры гэтым у развіцці кантактаў між старaверамі ды беларусамі ніколі нельга забываць пра элемент расійскі і затым савецкі. Напрыклад, хоць царскія ўлады ў XIX ст. і ставіліся да «раскольнікаў» з падазрэннем, але ж на землях былога ВКЛ іх успрымалі як сваіх, расійцаў, як носьбітаў роднай ці роднаснай культуры і мовы. Часцяком царскія ўлады карысталіся гэтым і звярталіся да старавераў, напрыклад, у змаганні супраць удзельнікаў антырасійскіх паўстанняў, супраць беларусаў і палякаў, якія выяўлялі нейкія формы процістаяння царызму.

За савецкім часам расейскі чыннік не меў імперыялісцкай скіраванасці, тым не менш, адсутнасць рэальнай нацыянальнай беларускай дзяржавы, секулярызацыя і русіфікацыя грамадства БССР і міграцыя з Расіі істотна паўплывалі на адносіны паміж старaверамі і беларусамі. Савецкасць, якая традыцыйна атаясамлівалася з расійскасцю і расійскамоўнасцю, паступова вынішчала або проста мінімізавала нацыянальнае, у прыватнасці беларускае вымярэнне. Асабліва выразна гэта адчувалася ва ўрбаністычным асяроддзі. У мястэчках і вёсках гэтая тэндэнцыя існавала мінімальна.

Яшчэ важна падкрэсліць паступовую змену характару акультурацыі старавераў. Як ужо пазначалася вышэй, спачатку яна мела мяккі характар, але паступова і з улікам усіх вымярэнняў (акрамя культурна-моўнага яшчэ і палітычны аспект) акультурацыя набыла радыкальную форму і ператварылася ў асіміляцыю. Хаця зноў жа варта зазначыць, што асіміляцыя закранула не ўсіх старавераў Беларусі. Групоўкі старавераў, якія зацята трымаліся і трымаюцца веры, у меншай ступені падуладныя працэсам асіміляцыі. Таму магчыма вывесці гіпотэзу пра тое, што высокая ступень рэлігійнасці стрымлівае працэс асіміляцыі. І наадварот, ступень адкрытасці новаму, секулярызацыі, беларусізацыі ды ўрбанізацыі абумоўлівае хуткі пераход ад простай акультурацыі да асіміляцыі.

Такім парадкам, згаданая беларусізацыя старавераў у гістарычнай і прасторавай перспектыве можа

азначаць (у залежнасці ад групоўкі і мясцовасці) як класічную спантанную акультурацыю, так і яе крайнюю форму – асіміляцыю (Bastide, 1971).

Натуральна, што такія змяненні староверскай тоеснасці, зафіксаваныя як этнографамі, так і статыстамі, не могуць пакінуць аўтара абыякавым. Нават дапускаючы пэўную памылковасць перапісу і недакладнасць інфармацыі, што датычыць звестак пра старавераў, у прыватнасці іхнай моўнай эвалюцыі, немагчыма ігнараваць сам перапіс. Цалкам імаверна, што частка старавераў асімілявалася ўжо ў XIX ст. Зрэшты, гэтая моўная беларусізацыя старавераў ідзе ў разрэз з агульнаю канцэпцыяй старaверства як з'явы выключна расійскай. Нагадаем, што сучасная расійская этналогія, напрыклад, дасюль трактуе старавераў як расійскі субэтнас (Пивнева, 2001: 129–130; Иванисов, Иванисова, 2003: 90).

Праўда, і ў расійскай сацыяльнай навуцы існуюць іншыя падыходы. Так, этнолагі канстатуюць, што старaверства перайшло межы выключна расійскага культурнага феномену і сталася натуральнаю часткаю шэрагу іншых культураў, напрыклад, комі (Власова, 1999), саамаў і беларусаў. З гэтай нагоды вельмі цікава пазначыць, што яшчэ напрыканцы XIX ст. у «Алфавітным спісе народаў, што жывуць у Расійскай імперыі» (Алфавитный список…, 2005) беларусы апісваліся як «разнавіднасць рускага племені», пераважна праваслаўнага, а таксама каталіцкага веравызнання. Акрамя гэтага, у спісе пазначаўся цікавы момант, што сярод беларусаў ёсць крыху раскольнікаў. Як бачна, з'ява змяшэння старавераў з іншымі народамі фіксуецца даўно.

Са свайго боку, і аўтар не можа перабольшваць беларусізацыю старавераў, бо гэтая з'ява была перадусім двухбаковаю: калі староверы запазычылі ў беларусаў звычаі ды мову, самі беларусы зведалі моцны ўплыў расійскай мовы і культуры (афіцыйна праз палітыку русіфікацыі краю, а неафіцыйна, лакальна, праз кантакты з прышлымі расійцамі, у тым ліку староверамі). Унікаючы абагульнення, варта сказаць, што тоеснасць часткі старавераў XIX ст. значна змянілася ў бок беларусізацыі, аднак вялікая колькасць старавераў, хоць і зведала пэўны беларускі ўплыў, захавала расійскую ідэнтычнасць.

Улічваючы, што расійская (як, дарэчы, і беларуская) нацыя ў сучасным палітычным разуменні сфармавалася толькі ў другой палове XIX ст., застаецца пытаннем, ці можна з пэўнасцю ва ўсіх гістарычных сітуацыях называць старавераў «расійцамі». Трэба быць вельмі асцярожнымі як з азначэннямі тагачасных этнічных і канфесійных суполак, так і з самімі статыстычнымі звесткамі. У той час, калі гэтая супольнасць перасялілася з Расіі (дакладней Масковіі), каб уратавацца ад знішчэння ці асіміляцыі, яшчэ не існавалі паняткі «расійцы», «расійская нацыя» ў сучасным разуменні. Натуральна, старaверства – першапачаткова «прадукт» расійскай культуры, але гэта не азначае, што староверы – аўтаматычна расійцы, тым больш тыя, што аказаліся далёка ад прарадзімы і на момант фармаван-

ня нацыяў Усходняй Еўропы былі інтэграваныя ў шматлікія іншародныя ды іншамоўныя супольнасці.

З апірышчам на этнаграфічныя і статыстычныя звесткі ёсць усе падставы меркаваць, што пэўная частка старавераў, якія жылі ў Беларусі, у прыватнасці ў Віцебскай губерні, праз асіміляцыю і гістарычную інтэграцыю ў беларускую традыцыйную супольнасць, развіваліся і фармаваліся разам з беларусамі і разам з імі склалі частку будучай беларускай нацыі. Такім парадкам, мінарытарная частка беларускіх стараверaў натуральна ўвайшла ў склад беларускай нацыі ў момант яе канчатковага фармавання. Гэта можа падацца дзіўным і складаным, але беларуская нацыя сфармавалася ў XIX–XX стст. насупор палітыцы русіфікацыі імперскага рэжыму, і ў працэс стварэння нацыі беларусы ўцягнулі пэўную колькасць прадстаўнікоў некаторых іншых этнічных супольнасцяў.

## III. Тоеснасць і стан культуры стараверaў на сучасным этапе

Гісторыя староверства Беларусі (як БССР, гэтак і беларускіх земляў у складзе Польшчы) у міжваенны перыяд даследаваная мала і цьмяна. Аднак дакладна вядома, што і савецкі таталітарызм, і польскі аўтарытарызм, і Другая сусветная вайна радыкальным і адмоўным чынам паўплывалі на стан культуры мясцовых стараверaў. Унутры стараверскіх супольнасцяў адбыліся радыкальныя дэмаграфічныя і адпаведна сацыяльныя змены (павялічыўся дысбаланс паміж мужчынскім і жаночым насельніцтвам, бо значная частка мужчынаў-стараверaў не вярнулася з вайны). Дэмаграфічныя наступствы вайны, а таксама атэізацыі ды урбанізацыі грамадства змянілі традыцыйны лад жыцця стараверaў, пасля вайны іхныя суполкі адкрыліся свету і пачалося інтэнсіўнае змяшэнне з іншымі жыхарамі Беларусі (Іваноў, 2008: 103). У XX ст. не праводзілася рэлігійнага перапісу насельніцтва Беларусі, таму не існуе колькасных звестак пра стараверaў. Дэмаграфічную дынаміку развіцця гэтай культуры можна аднавіць дзякуючы іншым звесткам і метадам (спроба прыблізнага падліку праз апытанне стараверaў, у прыватнасці, настаўнікаў, лідэраў суполак, аналіз гістарычнай памяці, рэканструкцыя і параўнанне месцаў рассялення стараверaў да вайны і цяпер).

Адзначым, што інфармацыя за 2000 г. – вельмі прыблізная, бо сучасныя беларускія перапісы не ўлічваюць канфесійнай кампаненты (Ладес,

**Табліца 7. Колькасць стараверaў паўночнай Беларусі ў гістарычнай перспектыве**

| 1862 | 1878 | 1880 | 1888 | 1893 | 1894 | 1897 | 2000 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 47 514 | 76 927 | 78 017 | 83 231 | 90 077 | 91 635 | 83 022 | Ад 20 000 да 50 000 |

2005). Па-другое, Віцебская губэрня была калі не большая за сучасную Віцебскую вобласць, то прынамсі мела іншую канфігурацыю (Рэжыцкі і Люцынскі ўезды, дзе кампактна пражывалі стараверы, увайшлі затым у склад Латвіі, а Невельскі і Себежскі ўезды – у склад Расіі). Таму значная частка старавераў былой Віцебшчыны не асімілявалася, а апынулася ў іншай дзяржаве і не ўлічваецца падчас перапісу насельніцтва Віцебшчыны.

Важна памятаць, што войны і рэвалюцыя таксама істотна паўплывалі на дэмаграфічную сітуацыю. Пры гэтым не варта адкідаць уплыў асіміляцыі. Зрэшты, трэба нагадаць, што падчас перапісу 1897 г. колькасць старавераў пазначалася без уліку адзінаверцаў. Наагул, варта звярнуць увагу на адвольны і часцяком незразумелы характар падліку колькасці старавераў, да таго ж варта памятаць, што шмат хто са старавераў унікаў перапісу. Таму тэндэнцыя да падзення колькасці старавераў у Віцебскай губерні напрыканцы XIX ст. – гэта, хутчэй за ўсё, недахоп статыстычнага падліку, а не рэальнае змяншэнне.

Вышэй ужо адзначалася, што падчас высвятлення і апісання тоеснасці трэба ўлічваць шматлікія чыннікі: месцазнаходжанне суполкі (вёска, мястэчка, горад), ступень рэлігійнасці, тып сагласу (папоўскі ці беспапоўскі), тое, як на тую ці іншую суполку паўплывалі вайна, ваяўнічы атэізм ды іншыя лёсавызначальныя фактары. Таксама вельмі важна, як ужо падкрэслівалася ў папярэдняй працы, улічваць такі чыннік як самавызначэнне (Іваноў, 2008: 102). У праведзеным у 2004–2005 гг. анкетаванні акрамя моўнай тоеснасці старавераў, якая лічылася цэнтральным і асноўным ланцугом даследавання, высвятлялася і іхнае этнапалітычнае самавызначэнне. Бальшыня рэспандэнтаў і рэспандэнтак вызначылі сябе як беларусаў (65 % апытаных), астатнія – як расейцоў ці адначасова расійцаў і беларусаў («мяшаныя мы»)[8].

Што да моўнай кампаненты тоеснасці, то вельмі цікава, што сучасныя даследаванні ў пэўнай ступені пацвярджаюць тэндэнцыю да пераходу часткі старавераў на беларускую дыялектную мову, а часцяком на трасянку. Падчас анкетавання старавераў Віцебшчыны ў 2004–2005 гг. (50 анкетаў) высветлілася, што не толькі расійская мова ёсць роднаю

---

[8] Анкетаванне ладзілася ў 2004 г. у межах аспіранцкай працы ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі ды фальклору імя Кандрата Крапівы (Мінск). Анкета складзеная і апрабаваная ў Віцебску і вёсках Віцебскай вобласці, апрацаваная ў 2005 г. У апытанні ўзялі ўдзел 50 чалавек, пераважна асобы пенсійнага і сталага веку, вясковыя і местачковыя кабеты. Гэтае анкетаванне, як пазначалася вышэй, мае малую выбарку. Гэта рабілася ў адпаведнасці з практыкаю «параўнаўчага даследавання», якое звычайна мае на ўвазе невялікую колькасць апытаных (Хелевик, 2002: 80; Althabe, 1990). Асноўнай умоваю такога апытання ёсць разумны адбор рэспандэнтаў. Таксама вельмі важна, каб пры сціслым параўнаўчым даследаванні адбіраліся не тыповыя выпадкі, сітуацыі ды асобы, а хутчэй палярныя і адрозныя.

**Табліца 8. Родная мова старавераў (паводле анкетавання 2004–2005 гг., 50 анкетаў)**

| | |
|---|---|
| Расійская мова | 20 чалавек (40 %) |
| Беларуская мова | 7 чалавек (14 %) |
| Абедзве, мяшаная | 22 чалавекі (44 %) |
| «Стараверская» мова | 1 чалавек (2 %) |

для сучасных старавераў. Праўда, на сённяшнім этапе нароўні з расійскаю і беларускаю мовамі значнае месца займае «мяшаная» мова. 40 % апытаных прызналі роднаю расійскую мову, 13 % – беларускую, каля 46 % – мяшаную ці адначасова расійскую і беларускую. Такім чынам, сёння моўную тоеснасць старавераў можна апісаць як пераважна мяшаную.

Апісваючы ідэнтычнасць старавераў на сучасным этапе, належыць падкрэсліць такую з'яву ў эвалюцыі стараверскай тоеснасці, як мяшанка (і, дарэчы, не толькі ў мове). Мяшанка – з'ява не новая ў дынамічным свеце культуры, тым больш ва ўмовах разнастайнасці культураў, ва ўмовах памежжа. Нават для досыць кансерватыўных і закрытых старавераў мяшанка – не навіна, бо, як пазначалася вышэй, ужо ў XIX ст., а магчыма, яшчэ і раней, яны пачалі мяшацца з беларусамі, палякамі ды літоўцамі, а таму зведалі ўзаемны ўплыў адзін на аднаго. Цікава, што сучасныя літоўскія даследнікі стараверства таксама часта сутыкаюцца з гэтаю мяшанкаю ў тоеснасці старавераў Літвы (Синочкина, 2010).

Як і раней, сто гадоў таму, у горадзе дамінуе расійская мова (або цяпер «мяшаная мова»), тады як 13 % беларускамоўных старавераў жывуць выключна ў вясковай мясцовасці.

## Высновы

Першапачаткова стараверы – этнічныя расійцы. Дасюль вялікая частка працягвае лічыць сябе расійцамі, рускімі. У інтэрв'ю і апытаннях шмат якія стараверы дэманструюць выразную гістарычную памяць – яны распавядаюць, што калісьці іхныя продкі прыехалі з Расіі. Пры гэтым, як дэманструе даследаванне 2004–2005 гг., з'явілася частка старавераў, якія лічаць сябе адначасова беларусамі і расійцамі. Апроч таго, у 1960-я–1970-я гг., падчас пашпартызацыі, шмат хто са старавераў запісаўся беларусам. Маладыя генерацыі старавераў, выключаныя з жыцця грамады, пераходзяць да атэістычнага ці арэлігійнага ладу жыцця, губляючы сувязь са стараверствам і ўрэшце стараверскую тоеснасць.

Таксама варта зазначыць, што ў Беларусі не існуе аднаго стараверства, але мноства розных стараверскіх культураў (папоўства з аднаго боку, разнастайнае беспапоўства – з другога), таму больш дакладна, як пазначалася ва ўступе, будзе весці размову пра стараверствы ў Беларусі. У розных мясцінах яны па-рознаму захавалі сваю першапачатковую культуру. Жывучы кампактна, як у Латгаліі, стараверы здолелі лепей захаваць сваю ідэнтычнасць, а жывучы ўпярэ-

мешку з беларусамі, як у Гарадоцкім, Невельскім, Себежскім, Полацкім, Віцебскім і Лепельскім уездах, яны часта радыкальна асіміляваліся, пераймалі мову і звычаі мясцовых жыхароў.

У выніку шматгадовых кантактаў паўстала спецыфічная беларуская староверская культура, адрозная ад староверскай культуры Літвы ці Расіі. На карысць гэтага сведчыць і тэндэнцыя да змешвання культураў, стварэння новай культуры і адносінаў з беларусамі. Гэта прывяло да арганізацыйнай аўтанамізацыі беларускіх староверaў-беспапоўцаў, якія выбралі сваім рэлігійным цэнтрам Полацк. Зрэшты, той факт, што некаторыя папоўскія лідэры заклікаюць сваю паству пазбавіцца беларускага ўплыву, таксама сведчыць пра тое, што староверы і беларусы выпрацавалі цягам стагоддзяў (асабліва апошніх дзесяцігоддзяў) новыя адносіны, якія насцярожваюць прыхільнікаў чыстае «рускасці».

Некаторым вясковым староверскім суполкам, якія хоць і не трапілі ў палон асіміляцыі, пагражае знікненне з прычыны дэмаграфічнай крызы і секулярызацыі грамадства, што разрывае пераемнасць традыцыі ды пакаленняў. Але пры гэтым з вяртаннем рэлігійнага чынніка ў беларускім грамадстве з 1990-х гг. пачалося абнаўленне староверства, адбыўся ўздым шэрагу значных староверскіх суполак у Віцебску, Полацку і Браславе. У асобных староверскіх суполках Беларусі мелі месца факты русіфікацыі (гэта найперш моўная ды ідэалагічная русіфікацыя, працэс аўтэнтыфікацыі, то бок спроба аднавіць першапачатковы стан культуры, наколькі гэта магчыма). Невялікая частка сучасных кансерватыўных староверaў Віцебшчыны пад уплывам настаўнікаў і святароў пачала пераглядаць сваю гісторыю і месца ў беларускай культуры. Так, святары віцебскіх папоўцаў (звычайна накіраваныя з Расіі) праводзяць курс на «ачышчэнне» мясцовых староверaў ад беларускай культуры і мовы, спрабуючы адрадзіць «сапраўднае» староверства, ці старажытнае праваслаўе (древлеправославье). Арганізацыйна віцебскія папоўцы падпарадкоўваюцца патрыярху ў Расіі, іхным духоўным цэнтрам ёсць горад Навазыбкаў у Бранскай вобласці. Кіраванне супольнасці староверaў-беспапоўцаў арганізаванае паводле іншай мадэлі – іхны рэлігійны цэнтр месціцца ў Полацку, што яшчэ раз дэманструе розныя тэндэнцыі ў сучасным грамадстве староверaў Беларусі.

Абапіраючыся на ўласныя даследаванні і назіранні, аўтар схільны да высновы, што сучасная староверская культура Беларусі ёсць сінкрэтычнаю і фрагментаванаю, яна складаецца з надзвычай розных, часам супярэчлівых як староверскіх, так і беларускіх элементаў. Больш не існуе і, магчыма, ніколі не існавала аднаго вобразу, адной мадэлі староверства, адной канкрэтнай, раз і назаўсёды вызначанай тоеснасці. Існавала мноства розных тэндэнцыяў развіцця староверскай культуры: побач з кансерватыўнымі ды закрытымі суполкамі, якія хаваліся ў аддаленых мясцінах губерні і захоўвалі свой першасны архаічны лад жыцця, існавалі адкрытыя для кантакту супольнасці гарадоў і мястэчак.

**Литература**

1. Althabe, G. *Ethnologie du contemporain et enquête de terrain* [Electronic ressource] // Terrain. 1990. № 14. Mode of access : http://terrain.revues.org/index2976.html.
2. Bastide, R. *Anthropologie appliquée*. Stock, 1971.
3. Bastide, R. *Le Prochain et le Lointain*. l'Harmattan, 1970.
4. Bastide, R. *Les Religions africaines au Brésil*. Puf, 1960.
5. Kepel, G. *La Revanche de Dieu. Chrétiens, juifs et musulmans à la reconquête du monde*. Paris : Le Seuil, «Points», 1991.
6. Souty, J. *Le croisement des cultures' de Jérôme* // Sciences Humaines. 2002. № 123. P. 44–46.
7. Tardieu, M. *Définitions et théories du syncrétisme* // Annuaire du Collège de France. 1990 –1991.
8. Thiesse, A.-M. *La Création des identités nationales*. Europe XVIIIe – XXe siècle Seuil, 1999.
9. Thiesse, A.-M. *La création des identités nationale* [Electronic ressource] // Multiculturalisme : politiques publiques et usages de l'ethnicité. 2000. № 6. Mode of access : http://urmis.revues.org/index304.html.
10. *Алфавитный список народов, обитающих в Российской империи* [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://www.demoscope.ru/weekly/2005/0187/perep04.php.
11. Аникиевич, К. *Сенненский уезд Могилевской губернии*. Могилев, 1907.
12. *Белорусское Поозерье: Язык и духовная культура*. Мн., 2001.
13. Болонев, Ф.Ф. *Семейские*. Улан-Удэ, 1985.
14. Власова, В.В. *Коми (зыряне) старообрядцы* [Электронный ресурс]. 1999. Режим доступа : http://www.komi.com/Folk/komi/31.htm.
15. Гарбацкі, А.А. *Гісторыя стараабраднiцтва на беларускіх землях* // Старообрядчество как историко-культурный феномен. Материалы международной научно-практической конференции 27–28 февраля 2003 г. Гомель, 2003. С. 47–61.
16. Горбачевский, И. *Лепельский уезд Витебской губернии*. Витебск, 1895.
17. Іваноў, У.В. *Пра беларускі ўплыў на віцебскіх старавераў* // Палітычная сфера. 2008. № 10.
18. Иванисов, А.М., Иванисова, В.А. *Исторические, социально-культурные аспекты старообрядчества* // Старообрядчество как историко-культурный феномен. Материалы международной научно-практической конференции 27–28 февраля 2003 г. Гомель, 2003.
19. *Інтэрвію з полацкім стараверскім сьвятаром Арловым П.А.* // Витебский курьер. 1998. 15 мая. № 36.
20. Ладес, Д. *Хранители традиций, или Как живут белорусские староверы* [Электронный ресурс] // Эспресс-Новости. 2005. 27 мая. Режим доступа : http://www.expressnews.by/1013.html.
21. Магалінскі, І.У. *Да пытання аб колькасці старавераў у Віцебскай губерні ў 1870-я – пач. 1900-х гадоў (па афіцыйных дадзеных)* // Труды молодых специалистов Полоцкого государственного университета. Гуманитарные науки. 2007. Выпуск 20.
22. Манаенкова, А.Ф. *Язык Ветки*: автореф. дис. на соискание степени канд. фил. наук. Мн., 1974.
23. Маркс, М. *Записки старика* // Віцебскі сшытак. 1995. № 1.
24. Моррис, Р. *Старообрядческие общины в Северной Америке* [Электронный ресурс // Старообрядчество Украины и России: прошлое и современность.

Материалы II Всеукраинской научно-практической конференции. 1–3 октября 2004 г. Киев. Режим доступа : http://portal-credo.ru/site/index.php?act=lib&id=1580.
25. Никифоровский, Н. *Очерки простонародного жития-бытья в Витебской Белоруссии и описание предметов обиходности*. Витебск, 1895.
26. *Памятная книжка Витебской губернии за 1898*. Витебск: Губернская типография, 1898.
27. *Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии*. Тетрадь 1. СПб., 1899.
28. *Первая всеобщая перепись населения Витебской губернии*. Тетрадь 2. СПб., 1901.
29. Пивнева, Е.А. *Работа Института этнологии и антропологии Российской академии наук в 2000 г.* // Этнографическое обозрение. 2001. № 4.
30. Подмазов, А.А. *Церковь без священства*. Рига, 1973.
31. Сапунов, А. *Витебская старина*. Т. 1. Витебск, 1883.
32. Сементовский, А.М. *Этнографический обзор Витебской губернии*. СПб., 1872.
33. Синочкина, Б. *Речь как зеркало самоидентификации (староверы о себе)* [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://www.gazeta.lv/story/11944.html.
34. Хеллевик, О. *Социологический метод*. М., 2002.

**Дадатковыя крыніцы**

1. Bayart, J.-F. *L'Illusion identitaire*. Fayard, 1996.
2. Copans, J. *L'enquête et ses méthodes : l'enquête ethnologique de terrain*. Paris : Armand Colin, «128», 2008.
3. *Jean-François Bayart*: *«Il n'y a pas d'identité française»* [Electronic ressource] // Le Monde. Mode of access : http://www.lemonde.fr/politique/article/2009/11/06/jean-francois-bayart-il-n-y-a-pas-d-identite-francaise_1263548_823448.html.
4. *Беларусы. Славянскія этнакультурныя традыцыі*. Т. 10. Мн., 2007.
5. Болонев, Ф.Ф. *Календарные обычаи и обряды Семейских*. Улан-Удэ, 1975.
6. Гарбацкі, А.А. *Лінгвакультуралагічнае апісанне мужчынскага і жаночага адзення стараабраднікаў у Беларусі* // Этноконфессиональные и конфессиональные процессы в трансформирующемся обществе. Ч. 2. Материалы международной научной конференции. Гродно, 2001.
7. Гарбацкі, А.А. *Стараабраднiцтва на Беларусі ў канцы 17 – пачатку 20 ст*. Брэст, 1999.
8. Лабынцев, Ю.А., Лабынцева, Л.Л. *Белорусско-украинско-русская православная книжность межвоенной Польши*. М., 1999.
9. Миловидов, В.Ф. *Современное старообрядчество*. М., 1979.
10. *Отрывки из выступления Председателя Центрального Совета Древлеправославной Поморской Церкви Республики Беларусь о. Петра Орлова* [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://www.starover.religare.ru/article6161.html.
11. Поташенко, Г. *Староверие в Литве. Вторая половина 17 – начало 19 вв. Исследования, документы и материалы*. Vilnius : Aidai, 2006.
12. Сементовский, А.М. *Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год*. СПб., 1864.
13. Сигма, Г. *О национализме* [Электронный ресурс]. Режим доступа : http://www.genocide.ru/lib/bhelp/i/i-72-nationalism.html.
14. *Традыцыйная мастацкая культура беларусаў. Віцебскае Падзвінне*. Т. 2. Мн., 2004.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Анджэй Пукшта

# Gente Lithuana, natione Lithuana

Dariusz Szpoper. Gente Lithuana, natione Lithuana. Myśl polityczna i działalność Konstancji Skirmuntt (1851–1934). Arche. Gdansk, 2009. 487 S.

Гісторык літаратуры, прафесар Ягелонскага універсітэту Тадэвуш Буйніцкі, чые родавыя карані сягаюць літоўска-латышскага памежжа, дваццаць гадоў таму на старонках выдання «Znad Wilii» назваў даўнія землі Вялікага княства Літоўскага «забытым кантынентам» (zasypanym kontynentem). Гэтым ён падкрэсліў неабходнасць комплексных, часта інтэрдысцыплінарных супольных даследаванняў унікальнай спадчыны згаданага кутка Еўропы навукоўцамі Літвы, Польшчы, Беларусі ды Украіны. А падзенне савецкай імперыі адкрыла доступ да архіўных матэрыялаў, паслабіла граніцы паміж дзяржавамі і прынесла іншыя выгоды, якіх раней не было.

У польскіх даследніцкіх асяродках на пачатку 1990-х гг. паўстала мноства ініцыятываў, скіраваных на вывучэнне польскай або польска-літоўскай (як і польска-беларускай) спадчыны па-за межамі цяперашняй Польшчы. На жаль, не шматлікія з тых праектаў рэалізуюцца да сённяшняга дня (хацелася б памыляцца, але саслаб познанскі асяродак, развіты ў 1980-я гг. Ежы Ахманскім, пазней Янам Юркевічам, Гжэгажам Блашчыкам, Кшыштафам Пяткевічам ды інш.). Гледзячы з іншага боку, паўстаюць новыя ініцыятывы, таксама вельмі каштоўныя, унёсак якіх у развіццё гістарычнай навукі робіцца ўсё больш выразным.

У Гданьскім універсітэце ўжо некалькі гадоў развіццё палітычнай думкі на тэрыторыі Літвы і Беларусі ў XIX – пач. XX ст. актыўна даследуе гісторык права Дар'юш Шпопэр.

Цягам апошніх дзесяці гадоў з-пад ягонага пяра апроч згаданай тут манаграфіі выйшлі тры працы (Szpoper, 1999; Szpoper, 2003; Szpoper i Bielecki, 2001), прысвечаныя польскай палітычнай думцы ў Літве і Беларусі. І калі асоба Аляксандра Мейштовіча была і застаецца фігураю больш ці менш вядомаю як сярод навукоўцаў, так і ў больш шырокіх колах, то дзейнасць Канстанцыі Скірмунт вядомая нашмат менш – як на польскім баку, так і ў Літве ды Беларусі. Нашмат большым «поспехам» сярод даслед-

чыкаў карысталіся яе стрыечныя браты – Раман і Канстанты Скірмунты.

А таму трэба адзначыць, што Дар'юш Шпопэр звярнуўся да мала вядомай постаці, адкрыў шмат новых архіўных дакументаў і гэтым нагадаў пра вельмі «запыленыя» старонкі ў палітычным і грамадскім жыцці польска-літоўска-беларускага памежжа канца XIX – пач. XX ст. Ужо сама назва кнігі, калі браць пад увагу польскамоўнасць яе гераіні, прымушае задумацца, што аўтар прадстаўляе нам дзяячку незвычайную, якую цяжка ўпісаць у кантэкст сённяшніх падручнікаў гісторыі ды нават некаторых манаграфіяў.

Ужо з першых старонак кнігі Дар'юш Шпопэр заахвочвае чытача – нават таго, хто добра знаёмы з паваротамі палітычнай гісторыі на тэрыторыі заходніх губерняў Расійскай імперыі ды гісторыяй нацыянальнага адраджэння літоўцаў і беларусаў, – задумацца над глыбінёй і складанасцю працэсаў фармавання сучаснай нацыянальнай свядомасці гэтых народаў. Аўтар манаграфіі пра Канстанцыю Скірмунт унікальным чынам, праз прызму дзеянняў адной публіцысткі і грамадскай дзяячкі, паказвае перыяд утварэння сучасных нацыянальных дзяржаваў, «цеснату» для гэтых дзяржаўных арганізмаў і актыўны пошук групаю інтэлектуалаў, «апошнімі грамадзянамі» Вялікага княства Літоўскага, наднацыянальных формулаў 100–150 гадоў таму.

Канстанцыя Скірмунт, у адрозненне ад Аляксандра Мейштовіча, рэдка бавіла час у палітычных салонах. Яна не была частаю госцяю ў дамах уплывовых дзеячаў у Мінску, Варшаве, Вільні ці Коўне. Большую частку свайго жыцця (цягам больш як дзесяці гадоў яна была прыкаваная да інваліднага вазка) Канстанцыя жыла і пісала ў Пінску, мястэчку, дзе дамінавала габрэйскае насельніцтва, мястэчку, атачоным унікальнымі палескімі краявідамі, з маляўнічымі маёнткамі, гаспадары якіх не засталіся ў баку ад антыцарскай дзейнасці нават у найбольш суровыя часы, што насталі ў 1864 г. Атмасферу гэтага землеўласніцкага свету вельмі дакладна (месцамі нават занадта падрабязна) набліжае да нас аўтар кнігі «Gente Lithuana, natione Lithuana».

Трэба памятаць аднак, што роля гарадскіх асяродкаў у палітычным і культурна-асветніцкім жыцці расійскіх губерняў у другой палове XIX ст. была значна меншая, чым хаця б у Галіцыі ці Трансільваніі, не кажучы ўжо пра заходнюю частку Еўропы. Пінск пацярпеў галоўным чынам ад вакууму, што ўтварыўся пасля закрыцця вядомага езуіцкага калегіуму (звязанага, натуральна, з імем Адама Нарушэвіча), і ад спынення шырокай дзейнасці ордэну езуітаў. Шкада, што аўтар не паказаў чытачу шырэйшае грамадска-культурнае жыццё гэтага незвычайнага рэгіёну, які нягледзячы на гістарычныя завірухі другой паловы XX ст. (яны, на жаль, працягваюцца і дагэтуль) не быў цалкам выкраслены з падручнікаў агульнай гісторыі або сусветнай культуры. Дастаткова прыгадаць, што Пінск і яго ваколіцы прысутнічаюць у біяграфіях вядомых габрэйскіх дзеячаў – рабіна і заснавальніка сіяніцкай арганізацыі «Мізрахі» Ісака Рэйнэса, першага прэзідэнта Ізраілю Хаіма Вэйцмана і

прэм'ера Голды Мэір. У Пінску ў 1932 г. нарадзіўся і пражыў першыя восем гадоў свайго жыцця Рышард Капусціньскі.

Гераіня кнігі Дар'юша Шпопэра Канстанцыя Скірмунт не заставалася аднак у баку ад галоўных падзеяў і палітычных працэсаў. І хоць яна не мела магчымасці, як яе маці – добра вядомая ў XIX ст. (і несправядліва забытая сёння ў Польшчы і Літве) мастачка і скульптарка Гелена Скірмунт, – бываць у шмат якіх еўрапейскіх сталіцах, а таксама ў Дрэздэне, Фларэнцыі ці Мілане, дзякуючы сваёй публіцыстыцы і поглядам, якія Канстанцыя Скірмунт смела выказвала на старонках прэсы, яна была постаццю, з якою вялі дыскусіі, спрачаліся, думкі якой уплывалі на погляды прадстаўнікоў розных слаёў насельніцтва. Сталае ліставанне з Элізай Ажэшка, лідэрамі літоўскага адраджэнскага руху Ёнасам Басанавічусам і прэлатам Адомасам Дамбраўскасам-Якштасам сведчаць пра актыўнасць публіцысткі.

За часоў царскай Расіі яна смела выказвала свае погляды на старонках пецярбургскага выдання «Kraj», віленскіх выданняў «Kurier Litewski» і «Gazeta Codzienna», а таксама ў пралітоўскай газеце «Litwa». Не пазбягала яна палемікі і з варшаўскім «Kurierem Polskim». У міжваенны перыяд яе публікацыі, палеміку, рэплікі можна знайсці таксама на старонках кансерватыўнага, рэдка да яе прыхільнага «Słowa» Станіслава Цата-Мацкевіча ды ідэалагічна блізкага «Przeglądu Wileńskiego».

Канстанцыя Скірмунт не была зусім забытая сучаснымі даследчыкамі. Біяграфічную нататку пра яе змясцілі ў вельмі папулярнай Літоўскай энцыклапедыі (Konstancya..., 1963: 55), якая выходзіла ў Бостане пасля заканчэння Другой сусветнай вайны. Даследчыкі гістарыяграфіі ацэньвалі ролю падручнікаў гісторыі Канстанцыі Скірмунт у фармаванні літоўскай свядомасці. Падручнікі напісаныя ў вельмі рамантычным стылі, які сённяшняму чытачу можа падацца нават смешным, што не змяншае іх папулярнасці сто і больш гадоў таму.

Аняле Буткувіене ў сваёй працы «Вядомыя жанчыны ў Літве: XIV – першая палова XX ст.» прысвяціла разгорнуты артыкул Канстанцыі Скірмунт і яе маці Гелене Скірмунт (Butkuvienė, 2007). На ролю Канстанцыі Скірмунт у развіцці асяроддзя краёўцаў таксама неаднойчы ў сваіх артыкулах звяртаў увагу літоўскі гісторык, вядомы даследчык палітычнай думкі пачатку XX ст. Рымантас Міксніс. Аўтару манаграфіі варта было б улічыць гэтыя працы літоўскіх аўтараў. Як і шэраг іншых працаў літоўскіх гісторыкаў, прысвечаных нацыянальнаму адраджэнню. У той жа час знойдзеная Дар'юшам Шпопэрам у Бібліятэцы Віленскага універсітэту надзвычай каштоўная карэспандэнцыя рэдактаркі газеты «Aušra» (галоўнага выдання лідэраў літоўскага адраджэнскага руху канца XIX ст.) Станіславы Пашкявічэне на польскай мове дадала б яшчэ больш інтрыгоўнага каларыту. Падобным чынам больш шырокага фону даследавання чытач можа чакаць у пытаннях наконт пазіцыі землеўласнікаў напрыканцы XIX – пач. XX ст. на

польска-літоўскім або польска-беларускім памежжы.

І хоць аўтар на шмат якія пытанні, датычныя дзеянняў кансерватыўнага асяродку, ужо адказаў у «Sukcesorzach Wielkiego Księstwa Litewskiego», усё ж падаецца, што непазбежнаю справаю будзе паслядоўнае параўнанне пазіцыі Канстанцыі Скірмунт з дзеяннямі іншых пралітоўскіх прадстаўнікоў землеўласнікаў – Балеслава Ялавецкага, Стэфаніі Яблонскай або Антона Завішы. Не кажучы ўжо пра Станіслава Нарутовіча і Міхала Ромэра, якія, на жаль, мінімальна фігуруюць на старонках кнігі. Хоць у лісце да Ёнаса Басанавічуса Канстанцыя Скірмунт называе сябе «апошняю з магіканак», яна аднак у сваіх пачуццях, у сваёй літоўска-польскай раздвоенасці, далёка не была адзінай асобай, якая не знайшла сабе месца ні сярод польскіх, ні сярод літоўскіх палітычных фармаванняў. У гэтым кантэксце аўтар мусіў згадаць таксама пра ліст землеўласнікаў да Антанаса Смятоны, апублікаваны на пачатку 1920 г., у якім яны дэклараваලі ахвоту дапамагчы маладой Літоўскай рэспубліцы.

Ды і болей згаданы «стараліцвін» Юзэф Пілсудскі ды ягоныя дылемы пры фармаванні ўнутранай і знешняй палітыкі адроджанай Польшчы або бясспрэчны лідэр віленскіх літоўцаў Міколас Біржышка (прымаючы пад увагу ягоныя шляхецкія карані) з літоўскага боку вельмі б дапамаглі ў тлумачэнні незвычайнай з'явы «gente Lithuanus, natione Lithuanus». І тым самым аўтар мог бы не абцяжарваць чытача частымі і «густымі» (без абзацаў) цытатамі памерам дзве–тры старонкі, хоць і паходзяць яны з вельмі каштоўных дакументаў і невядомых архіўных матэрыялаў.

Нягледзячы на ўсё, я горача рэкамендую прачытаць кнігу Дар'юша Шпопэра – асабліва даследчыкам літоўскай, польскай і беларускай палітычнай думкі канца XIX – пач. XX ст. Напэўна, яна ўносіць таксама шмат новага ў гісторыю землеўласнікаў былога Вялікага Княства, грамадскай групы, чые заслугі паслядоўна замоўчваліся ў савецкі перыяд на тэрыторыі ўсёй Усходняй Еўропы. Кніга яшчэ раз абвяргае тэзіс, які можна дагэтуль часта сустрэць і які яшчэ ў міжваенны перыяд вырас да катэгорыі міфу, што землеўласнікі на тэрыторыі сённяшняй Літвы, Беларусі або Украіны былі ў сваіх пазіцыях вельмі прапольскія ды катэгарычна і паслядоўна працівіліся нацыянальнаму адраджэнню народаў, сярод якіх жылі.

Пазіцыя Канстанцыі Скірмунт яшчэ раз нагадвае пра жывучасць ідэі Вялікага княства Літоўскага і глыбокай традыцыі Рэчы Паспалітай абодвух народаў на пачатку мінулага стагоддзя. Светапогляд гераіні кнігі толькі часткова фармуецца на падставе рамантызму слаўнай гісторыі літоўцаў і палякаў, а перадусім дзякуючы глыбока прадуманаму бачанню дзяржаватворных працэсаў, якое фармавалася на беларуска-літоўска-польскім памежжы дзякуючы перакананню ў цывілізацыйнай місіі, якая прыпісвалася уніі 1385 і 1569 гг., а таксама надрэлігійнай і нават палітычнай ролі Каталіцкага Касцёлу на ўсходзе Еўропы.

Канстанцыя Скірмунт не толькі ў Вільні, але і Варшаве смела выказвала свае погляды, якія ў яе асяроддзі ўспрымаліся як вельмі пралітоўскія. На старонках кансерватыўнага «Kuriera Polskiego» яна падкрэслівала, што *«нацыянальныя адрозненні пры адзінстве ў палітыцы, развіццё ўласнай індывідуальнасці пры братэрскай, непадзельнай сувязі, барацьба з шавінізмам, як польскім, так і літоўскім, на падставе здаровага нацыянальнага патрыятызму і вялікіх хрысціянскіх пачуццяў – гэта прынцыпы, якіх трымаюся і якія – веру – стануць прынцыпамі ўсіх маіх літоўскіх братоў, калі пакіне іх ліхаманка шавінізму, і застанецца шчыры, чысты, Богам дадзены патрыятызм. Але, каб надышоў гэты доўгачаканы момант, трэба таксама, каб старэйшыя браты-палякі ў Кароне і Літве не адкладалі яго надыходу сваімі дзеяннямі»*.

Хоць Канстанцыя Скірмунт не ведала літоўскай мовы, яна лічыла сябе літоўкаю, кіруючыся пры гэтым прынцыпам, што філалагічны крытэр ніколі не мае быць галоўным або адным з асноўных правілаў пры вызначэнні нацыянальнай тоеснасці. Яна тлумачыла варшаўскаму чытачу: *«Я належу да літоўскай стыхіі, якая безупынна жыве і дзейнічае, не толькі ў народзе, але і сярод шляхты, на зямлі Вітаўтаў і Гедымінаў. Gente Lithuana, natione Lithuana»*.

Дар'юш Шпопэр добра паказвае атмасферу польска-літоўскіх спрэчак пра мову ў публічным жыцці Літвы і заангажаванасць пісьменніцы ў гэтыя няпростыя дыскусіі (са шкадаваннем трэба адзначыць, што аўтар не быў у стане звярнуцца да літоўскамоўнай прэсы).

Кніга прыводзіць таксама забытае, поўнае розніцы поглядаў ліставанне Скірмунт з Мечыславам Давойна-Сыльвестровічам, які, выдаючы польскамоўную прэсу ў Вільні (сярод іншага прыгаданую вышэй газету «Litwa»), ставіў за мэту прапагандаванне сярод шляхты як мага хутчэйшага навучання і пераходу (часам нават у абавязковым, прымусовым парадку) на літоўскую мову. Уважлівы чытач заўважыць таксама незвычайны абмен поглядамі гераіні кнігі з Мар'янам Здзяхоўскім і Людвікам Абрамовічам, роля якіх у залагоджванні польска-беларускага ці польска-літоўскага канфліктаў у перыяд непасрэдна перад Першаю сусветнаю вайною і ў міжваенны перыяд цяжка пераацаніць.

Канстанцыя Скірмунт лічыла, што без заангажаванасці землеўласнікаў будаўніцтва літоўскай дзяржаўнасці асуджанае на паразу, з чым не пагаджаліся яе карэспандэнты Ёнас Басанавічус і Адомас Якштас, якія сцвярджалі, што прадстаўнікі гэтага слою занадта аддаліліся ад літоўскага грамадства, здрадзілі літоўцам. На іхную думку, толькі моцнае пачуццё раскаяння за праведзеную пасля Люблінскай уніі паланізацыю разам са шчырым жаданнем навучыцца літоўскай мове і поўнай адданасцю справам нацыянальнага адраджэння можа вярнуць «маладое пакаленне магнатаў» у шэрагі літоўскага народу.

Дар'юш Шпопэр нагадвае, што Крэўская і Люблінская уніі для Канстанцыі Скірмунт уяўляюць з сябе гістарычную неабходнасць: ад іх Вя-

лікае княства Літоўскае вельмі шмат атрымала, патрапіўшы ў вір заходняй хрысціянскай цывілізацыі. Яна цаніла Гедыміна, Альгерда, Кейстута, Вітаўта і, вядома, Ягайлу, які паклапаціўся, каб не толькі захаваць дасягненні бацькі і дзеда, але надаў ім новае, большае вымярэнне. У 1910 г. Канстанцыя Скірмунт заклікала варшаўскіх і кракаўскіх палітыкаў ды інтэлектуалаў, каб тыя ў цеснай супрацы з літоўцамі адзначылі юбілей Грунвальдскай бітвы. Яна меркавала, што польска-літоўская супраца, заснаваная на прынцыпах каталіцкай веры, была і застаецца гістарычнаю неабходнасцю, якой заўсёды будзе працівіцца расійская палітычная думка.

Кіруючыся прыгаданымі прынцыпамі, на пачатку 1920 г. Канстанцыя Скірмунт накіравала Юзэфу Пілсудскаму ліст пратэсту ў звязку з заняццем Вільні і Віленшчыны Польскім войскам і ўсталяваннем там Цывільнага кіравання ўсходнімі землямі (гэтая справа мала вядомая сярод прадстаўнікоў гістарычнай навукі, таму я мяркую, што гэты ліст варта было цалкам змясціць у дадатку).

*«...Няма Літвы без Вільні, гэтая нібы любая «сястрыца», што калісьці сваімі землямі і народамі ад мора да мора дала адразу Польшчы, аб'ядноўваючыся з ёй, вялікадзяржаўнае становішча, не мае сёння нічога вялікага са свайго вялікага мінулага, апрача спадчыннага клейноду – Вільні. [...] Польшча для здаровай палітыкі не мусіць прэтэндаваць на Вільню. Тады знікне галоўны прадмет спрэчкі паміж двума народамі, а даўні саюз расквітнее ў новых формах»*, – пісала яна кіраўніку польскай дзяржавы ў лісце, надрукаваным на старонках польскамоўнай газеты «Echo Litwy», органу віленскіх літоўцаў.

Яна шмат працавала, нягледзячы на слабае здароўе, не адмаўлялася каментаваць актуальныя палітычныя пытанні, таксама за часоў Сярэдняй Літвы ў складзе Польшчы, не звяртаючы ўвагі на тое, што падзеі адбываліся не паводле створанага ёй сцэнару. Дар'юш Шпопэр часта цытуе ў сваёй манаграфіі не вядомую раней працу К. Скірмунт пад назваю «Заўвагі ў звязку з тэкстам патрабаванняў Літвы, прадстаўленых польскаму ўраду дэлегацыяй літоўскага ўраду ў другой палове снежня 1920 г. у Варшаве»[1].

Пасля расчаравання чарговымі дзеяннямі польскіх палітыкаў у Варшаве і Вільні, яе таксама расчароўвалі рашэнні, прынятыя ў Коўне, часовай сталіцы Літоўскай рэспублікі. Найперш яна шкадавала пра заключэнне 12 ліпеня 1920 г. літоўска-савецкага саюзу, не скупілася на крытыку прынятых Заканадаўчым сеймам Літвы галоўных прынцыпаў аграрнай рэформы. Яна заклікала *«не крыўдзіць літоўскай шляхты празмерным адабраннем у яе зямлі, больш, чым гэта трэба краю, бясплатным адабраннем»*. Яна называла рэформу

[1] Арыгінальная назва: «Uwagi z powodu tekstu żądań Litwy, przedłużonych rządowi polskiemu przez delegację rządu litewskiego w drugiej połowie grudnia 1920 roku w Warszawie».

«памылковаю выхадкаю сацыяльнай тэорыі». Пасля ўтварэння Віленскага ваяводства яна не скупілася на словы крытыкі наконт палітыкі польскага ўраду ў галіне правоў і свабодаў літоўскай і беларускай нацыянальных меншасцяў на Віленшчыне.

Незвычайна ўсебаковую грамадска-палітычную і пісьменніцкую дзейнасць Канстанцыі Скірмунт аўтар манаграфіі паказаў у пяці раздзелах: «Дарогі жыцця. Біяграфічны нарыс на фоне эпохі», «Традыцыя Вялікага княства Літоўскага і нараджэнне этнічнай Літвы», «Спробы кампрамісу і мадэрнізацыі публічнага жыцця паўночна-заходніх губерняў», «У рэаліях адраджэння Польшчы», «Разам з Каталіцкім Касцёлам». Невядома, з якой прычыны не з'явіўся раздзел, прысвечаны беларускаму пытанню. На шчасце, гэтае пытанне не засталося зусім па-за ўвагай аўтара, і стаўленне землеўласніцы з Пінску да беларускага адраджэння можна прасачыць на асобных старонках кнігі.

Нягледзячы на некаторыя крытычныя заўвагі, трэба адназначна прызнаць, што Дар'юш Шпопэр сваёй кнігаю вярнуў з забыцця унікальную постаць, да чыёй інтэлектуальнай спадчыны мы будзем звяртацца ўсё часцей.

*Друкуецца паводле аўтарскага арыгіналу*
*Пераклад з польскай мовы Сяргея Кузняцова*

**Литература**

1. Butkuvienė, A. *Garsios Lietuvos moterys: XIV – XX a. pirmoji pusė.* Vilnius, 2007. P. 191–199.
2. *Konstancya Skirmuntaitė* // Lietuvių enciklopedija. V. 28. Boston, 1963.
3. Szpoper, D. Bielecki, A. *Aleksander Meysztowicz – portret polityczny konserwatysty.* Gdańsk, 2001.
4. Szpoper, D. *Pomiędzy caratem a snem o Rzeczypospolitej. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich w guberniach zachodnich Cesarstwa Rosyjskiego w latach 1855–1862.* Gdańsk, 2003.
5. Szpoper, D. *Sukcesorzy Wielkiego Księstwa. Myśl polityczna i działalność konserwatystów polskich na ziemiach litewsko-białoruskich w latach 1904–1939.* Gdańsk, 1999.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

Аляксей Ластоўскі

# Расія як хвароба, літаратура як зло

Эва М. Томпсан. *Песняры імперыі: расійская літаратура і посткаланіялізм* / Пераклад з англ. мовы Т. Нядбай. Мн. : Медыясонт, 2009.

*Чаму ж усё-ткі Лермантаў не жадаў бачыць расійскае грамадства як кіраваную ўрадам арду качэўнікаў?*

Менавіта гэтае пытанне мне ўяўляецца ключавым для ўсёй кнігі «Песняры імперыі: расійская літаратура і посткаланіялізм»: у ім у надзвычай канцэнтраванай форме зводзяцца разам тыя праблемы, якія хвалююць амерыканскую даследчыцу Эву Томпсан.

Кніга прысвячаецца даследаванню расійскай літаратуры, але праца вельмі далёкая ад літаратуразнаўства, хутчэй гэта прачытанне класічных твораў праз посткаланіяльную прызму. Таму на першы план тут выносяцца менавіта дачыненні імперыі ды калоніяў у дыскурсіўнай прасторы, і галоўны тэзіс Эвы Томпсан зводзіцца да таго, што расійская літаратура абслугоўвала імперскія інтарэсы. А менавіта: 1) расійскія пісьменнікі зыходзілі з нерэфлексіўнай імперскай пазіцыі, 2) наогул не заўважалі ці прыніжалі іншыя народы імперыі ды 3) прыглушалі / адбіралі права голасу ў прыгнечаных народаў.

Адразу давядзецца адзначыць даволі сумбурны стыль пісання, характэрны наогул для гэтай кнігі. Першае ж уражанне – кніга рабілася на падставе кампіляцыі шэрагу артыкулаў на тэму расійскай літаратуры і потым камбінавалася як цэласнае даследаванне. Але сам гэты крок пры якасным выкананні мог бы і не залічвацца ў мінус, калі б не прыводзіў да павышанай фрагментарнасці, шматлікіх неабгрунтаваных пераходаў, лагічных недарэчнасцяў і г. д., якія чытачу даводзіцца адмыслова адольваць.

Яшчэ трэба адзначыць адну стылістычную асаблівасць кнігі «Песняры імперыі», дзе разважанні пра класічную расійскую літаратуру часта суправаджаюцца спасылкамі на актуальную палітычную сітуацыю (то бок, 1990-я гг., бо ўпершыню кніга выйшла ў 2000 г.). Пры гэтым у адну лагічную лінію зводзяцца апісанні іншаземцаў расійскімі пісьменнікамі XIX ст. і непрыязнае стаўленне да «чужых» на вуліцах сучаснай Масквы, з чаго вынікае вечнасць і непарыўнасць аднаго і таго ж імперскага дыскурсу. Гэта служыць галоўнай мэце амерыканскай даследчыцы –

выкрыццю і крытыцы паталагічнага імперскага характару расійскай дзяржаўнасці. Штучнасць і неабгрунтаванасць такіх апеляцыяў да сучаснасці зусім ёй не замінаюць.

Паспрабуем зрабіць невялічкую рэканструкцыю тых тэарэтычных падвалінаў, з якіх пачынала сваю працу Эва Томпсан (гэта зноў жа ўскладняецца тым, што яны не сабраныя цалкам ва ўводзінах «Нацыяналізм, каланіялізм, ідэнтычнасць», як можна было б чакаць, але ў большай ступені прысутнічаюць у наступным раздзеле – «Праблема»). Амерыканская даследчыца адкрыта пастулюе, што зыходным тэарэтычным фундаментам для яе былі посткаланіяльныя даследаванні, найперш гаворка ідзе пра запазычанне тэорыі ды метадалогіі з працаў Эдварда Саіда «Арыенталізм» і «Культура ды імперыялізм» (с. 62). Акрамя таго, хоць гэта ўжо адкрыта і не пастулюецца, відавочна, што значны ўплыў на Эву Томпсан аказала і сучасная феміністычная думка, якая даволі часта змыкаецца і з посткаланіяльнымі даследаваннямі.

Посткаланіялізм у інтэрпрэтацыі Томпсан набывае дужа спрошчаную і часам нават прымітыўную форму, чаго нельга было закідаць тым жа Саіду ці Бхабху. Хутчэй тут можна казаць пра базавае разыходжанне з прынцыпамі і каштоўнасцямі постмадэрнізму, якія грунтаваўся на плюральнасці падыходаў і адмаўленні ад метанаратываў. Томпсан жа сваім рэіфікаваным посткаланіялізмам прапаноўвае нам новае вяртанне Маралі ў навуковыя даследаванні. Множнасць і складанасць постмадэрнага свету падмяняецца жорсткім дыхатамічных бачаннем, дзе лёгка вылучаюцца полюсы Дабра і Зла, што адпаведна прыводзіць да неабходнасці ўжывання маральных імператываў – асуджэння, пакарання, выпраўлення.

З лёгкім дапушчэннем мы паспрабуем аднавіць асноўныя полюсы Дабра і Зла, якія выкарыстоўвае Эва Томпсан. Бінарныя апазіцыі будуць пачынацца са «злога» полюсу як найбольш істотнага для амерыканскай даследчыцы, бо яна ў першую чаргу змагаецца са Злом:

- *Імперыя – прыгнечаныя Народы,*
- *агрэсіўны нацыяналізм (імперыялізм) – абарончы нацыяналізм,*
- *Расія – Еўропа,*
- *мужчынскае – жаночае,*
- *улада – штодзённасць.*

Імперыя разумеецца выключна як рэпрэсіўны інстытут, які займаецца толькі тэрытарыяльнай экспансіяй ды эксплуатацыяй захопленых тэрыторыяў і народаў. Зразумела, што такая спрошчаная візія пакідае за бортам пытанні ўзаемадачынення элітаў, палітычнага ўпарадкавання, легітымнасці ўлады, культурнай уніфікацыі, мадэрнізацыі ды нацыяналізацыі, якія трапляюць апошнім часам у фокус даследчыкаў імперскай і савецкай гісторыі. У вачах амерыканскай даследчыцы з дачыненняў Імперыі з рознымі суб'ектамі застаецца толькі прыгнёт, пераважна сілаю зброі, але таксама і праз сімвалічнае прыўлашчэнне. Зразумела, што нейкай істотнай розніцы паміж Расійскай

імперыяй і СССР для Эвы Томпсан таксама не існуе, бо абодва дзяржаўныя ўтварэнні маюць аднолькавую сутнасць расійскага каланіяльнага праекту.

У аналізе нацыяналізму Томпсан знешне зыходзіць з модных цяпер канструктывісцкіх пазіцыяў, але насычае свой тэкст такімі перлінамі мыслення, якія шчыра здзіўляюць. Варта прывесці прыклад: *«У даіндустрыяльную пару жыццё большасці людзей было занадта кароткім і бедным для таго, каб яны маглі думаць яшчэ і пра стварэнне нацыяў»* (с. 23). Але амерыканская даследчыца на гэтым не спыняецца і спрабуе абгрунтаваць падзел нацыяналізму на «добры» і «благі». Такім чынам, абарончы нацыяналізм, на думку Томпсан, характэрны для народаў, якія адчуваюць пагрозу ад сваіх агрэсіўных суседзяў, агрэсіўны ж нацыяналізм скіраваны на падпарадкаванне Іншых (с. 25–26). Відавочна, што мы маем справу са спробаю пабудаваць сутнасныя характарыстыкі нацыяналізму на падставе сітуацыйных рысаў. І польскі, і ўкраінскі, і літоўскі нацыяналізм быў абарончы ў дачыненні Расійскай імперыі ды СССР, але мог быць агрэсіўны ў дачыненні Іншых. Класіфікацыя нацыяналізму, якую ўводзіць Томпсан, можа спрацаваць толькі пры аналізе адносінаў паміж Імперыяй і «малою» нацыяй і адразу ж аказваецца непрыдатнай у любых іншых умовах, у тым ліку і постымперскага развіцця. Або, на канкрэтным прыкладзе, якую версію нацыяналізму прапаноўвалі АУН-УПА? Калі ўкраінскія нацыяналісты змагаліся з савецкімі камуністамі за незалежную Украіну, то мы бачым абарончы нацыяналізм, а калі вынішчалі палякаў у Галіччыне і Валыні – тады зразумела, што гэта агрэсіўны нацыяналізм. То бок класіфікацыя аказваецца абмежаванаю, хоць гэта ўласціва ўсяму даследаванню расійскай літаратуры пад посткаланіяльнаю маркаю, якое ажыццяўляе Эва Томпсан.

Кніга «Песняры імперыі» насычаная вялікаю колькасцю рэзка негатыўных і прыніжальных сцверджанняў у бок Расіі, якая ўяўляецца агрэсіўным монстрам, што займаецца не толькі знішчэннем іншых народаў, але і «пажырае» сваіх жа грамадзянаў. Магчыма, значную ролю тут адыграла сямейнае паходжанне Эвы Томпсан, бо амерыканская даследчыца нарадзілася ў польскай сям'і ў Коўне і яўна мае шмат біяграфічных падставаў для таго, каб не любіць савецкай улады (якая для яе беспраблемна атаясамліваецца з расійскім панаваннем).

Ледзь не на кожнай старонцы мы можам сустрэць сцверджанні пра адсталасць, ніжэйшы ўзровень, дзікунства расійскай дзяржавы і культуры. А ці не сустракаем мы зноў тую ж стэрэатыпізацыю і сімвалічнае прыніжэнне, у якіх абвінавачваюцца расійскія пісьменнікі?

Больш за тое, каб як мага больш прынізіць расійскі імперыялізм, амерыканская даследчыца паслядоўна праводзіць лінію на яго негатыўнае параўнанне з заходнім імперыялізмам і тым самым даходзіць да рэабілітацыі апошняга, што выглядае

зусім дзіўным для даследчыцы, якая падтрымлівае посткаланіяльную парадыгму.

Адмыслова трэба заўважыць: нягледзячы на тое, што Эва Томпсан прыкладае шмат намаганняў для таго, каб паказаць розніцу паміж заходнім і расійскім імперыялізмам / каланіялізмам (і робіць гэта цалкам слушна), у яе не паўстае ніякіх сумневаў, што метадалогію посткаланіялізму, распрацаваную Саідам у дачыненні выключна заходняга імперыялізму, можна без усялякіх змяненняў і адаптацыі ўжываць для аналізу расійскага выпадку.

Агрэсіўны нацыяналізм (або імперыялізм, розніца на старонках разгледжанай кнігі паміж імі неістотная) цалкам адпаведна модным гендэрным даследаванням паўстае як маскулінная з'ява, адкуль непасрэдна і выцякаюць яго ўстаноўкі на захоп, падпарадкаванне і гвалт. У вачах Эвы Томпсан пачварная і жахлівая Расійская імперыя– гэта прадукт дзейнасці мужчынаў, дзе жанчынам, зразумела ж, адводзіцца выключна падпарадкаванае становішча, а іхныя інтарэсы робяцца ахвярай імперскай палітыкі: *«Мужчыны прыўлашчвалі сабе этыялогію і перавагі імперскай улады, а жанчыны мусілі расплачвацца за тое, што патрэбы дзяржавы стаялі вышэй за патрэбы сям'і ці асобы»* (с. 332).

Апошні сказ вельмі істотны для разумення пазіцыі амерыканскай даследчыцы, бо паказвае негатыўнае стаўленне не толькі да Імперыі як такой, але і да палітыкі / дзяржаўных інтарэсаў. Яны ўспрымаюцца як варожыя «сапраўдным» чалавечым інтарэсам, абмежаваным гарызонтам сям'і і побыту, што асабліва відавочна ў апошнім раздзеле кнігі, прысвечаным дэканструкцыі імперскага дыскурсу ў творчасці Людмілы Петрушэўскай.

У выніку мы бачым, што падставаю для даследавання расійскай літаратуры і імперскага дыскурсу ў кнізе Эвы Томпсан ёсць сцверджанне, што Расія – гэта Зло. А Расійская імперыя – гэта Мегазло. Хоць гэта ўжо радыкалізацыя зыходнага тэзісу, а сама амерыканская даследчыца выказваецца больш памяркоўна: *«Хвароба Расіі не ў палітычнай сістэме, сама імперская Расія – гэта хвароба»* (с. 352).

Пра тое, што для Эвы Томпсан куды большае значэнне мае абгрунтаванне ідэалагічных сцверджанняў, чым навуковая аб'ектыўнасць, сведчаць і шматлікія рэзкія выказванні, якія лёгка можна абвергнуць нават без ведання расійскай літаратуры, дастаткова прагартаць некалькі старонак кнігі «Песняры імперыі». Напрыклад, адно з галоўных абвінавачванняў у бок расійскай літаратуры гучыць такім чынам: *«Ні расійскія пісьменнікі, ні расійскія інтэлектуалы ніколі нават у агульных рысах не апісвалі імперскай палітыкі на заваяваных тэрыторыях... Ідэя каланіяльнага захопу і яго кошту для заваяваных народаў не пранікала ў расійскі нацыянальны дыскурс»* (с. 66). Між тым, калі мы дачытаем да с. 116, то знойдзем там апісанне аповесці Льва Талстога «Хаджи Мурат», і гэты твор ацэньваецца як дэканструкцыя рамантычнай каланіяльнай прапаганды: *«Талстой*

*адэкватна ацаніў палітыку выпаленай зямлі, што была падставай поспехаў Ярмолава і Паскевіча... «Хаджи Мурат» апавядае пра жахлівыя сцэны захопніцкай вайны...»*

Больш за тое, супярэчнасці з поспехам можна знайсці і ў межах аднаго абзаца. Пушкіну робіцца закід у бесклапотным тоне твору «Путешествия в Арзрум» і праз некалькі радкоў з гэтага твору прыводзіцца такая цытата: *«Черкесы нас ненавидят. Мы вытеснили их из привольных пастбищ; аулы их разорены, целые племена уничтожены»* (с. 117). Вось такім бесклапотным тонам Пушкін апісвае міралюбівую імперскую палітыку на Каўказе.

Мы прысвяцілі шмат увагі разбору тэарэтычна-метадалагічных падставаў кнігі Эвы Томпсан, але ж яе асноўны тэкст складаецца менавіта з інтэрпрэтацыяў класічных твораў расійскай літаратуры («Путешествие в Арзрум» Пушкіна, «Герой нашего времени» Лермантава, «Война и мир» Талстога, «Раковый корпус» Салжаніцына і г. д.). Зразумела, што такія інтэрпрэтацыі можна рабіць толькі зыходзячы з нейкіх рамак, якія мы абазначылі як дэканструкцыю імперскага дыскурсу.

На жаль, амерыканская даследчыца не толькі паказвае сваю тэарэтычную слабасць, але і яе прачытанне розных сюжэтаў расійскай літаратуры вельмі часта спалучаецца з ігнараваннем кантэксту, нацягнутымі інтэрпрэтацыямі ды нават адмысловымі фальсіфікацыямі. Некаторыя чытачы гэтай кнігі нават не паленаваліся наноў узяцца за прааналізаваныя творы, і праведзеная крытыка хадоў і тлумачэння даследчыцы паказвае на яе відавочную ідэалагічную перадузятасць, якая прыводзіць да скажэнняў і памылак[1].

І ўсё ж менавіта разбор класічных твораў – гэта найбольш моцнае месца гэтай кнігі, дзе можна знайсці шмат цікавых і пранізлівых заўвагаў, якія паўстаюць пры прачытанні знаёмых твораў «супраць шэрсці», праз пошук тых схаваных сэнсаў, якія імпліцытна закладалі ў літаратурныя творы іх аўтары. Найбольш слушным і вытрыманым уяўляецца аналіз эпасу «Война и мир», дзе Эва Томпсан даволі ўдала і без звычайнай для яе эмацыйнай абвінавачвальнай рыторыкі выяўляе асноўныя тропы рэпрэзентацыі гісторыі ды рускага народу Львом Талстым, якія добра пакладаліся ў велічны вобраз Расіі, запатрабаваны імперскай уладаю.

Як ні дзіўна, але менавіта прастата і радыкальнасць даследчыцы, эмацыйная зараджанасць тэксту прымушаюць з цікавасцю ўчытвацца ў старонкі, прысвечаныя развенчванню тых імперскіх стэрэатыпаў, якімі прасякнутая расійскай літаратура.

Найбольш слабым месцам кнігі несумненна ёсць шосты раздзел – «Навука і імперыя. Імперская ідэалогія ў савецкім літаратуразнаўстве: Віктар Шклоўскі і Дзмітрый Ліхачоў». Сама назва гэтага раздзелу

[1] Варта паглядзець каментарыі А. Пашкевіча да рэцэнзіі Ігара Гафарава: http://arche.by/by/21/60/1302/. Розныя пасажы з кнігі Томпсан праходзяць праз падрабязны разгляд у блогу: http://malanka-klein.livejournal.com/.

зусім не адпавядае зместу, бо аналіз твораў Шклоўскага і Ліхачова складае толькі чацвёртую частку раздзелу. Сюды ж чамусьці трапілі аналіз ідэалагічнага абгрунтавання «паходу на Польшчу» ў верасні 1939 г. у цэнтральных дзяржаўных выданнях Савецкага Саюзу і разгляд шэрагу падручнікаў гісторыі постсавецкай Расіі. Эва Томпсан тут яўна выходзіць за межы ўласнай кампетэнцыі, гэтыя кавалкі адчуваюцца чужымі для «Песняроў імперыі» ды вельмі слаба выкананыя ў метадалагічным плане.

Апошні ж раздзел лагічна падсумоўвае развенчванне і крытыку агрэсіўна-маскулінна-імперскага характару расійскай літаратуры праз пабудову пазітыўнага полюсу, куды змяшчаюцца сучасныя расійскія пісьменніцы Людміла Петрушэўская і Таццяна Талстая. «Дэканструкцыя імперыі» адбываецца праз элімінацыю ўсіх «высокіх» тэмаў, звязаных з дзяржаваю, патрыятызмам і г. д. Жыццёвы свет гераінь гэтых твораў складаецца з трывогаў за абмежаванасць жыллёвай плошчы, асабістага няшчасця, абортаў і прыбіральняў. *«Замест гонару ў творах Петрушэўскай на першы план выступаюць цялесныя функцыі і экскрэменты»*, – падкрэслівае перавагу такой літаратуры Эва Томпсан (с. 356). Інверсія ўсіх усталяваных іерархіяў падыходзіць, такім чынам, да свайго лагічнага завяршэння.

Трэба адзначыць, што пераклад кнігі, выкананы Таццянай Нядбай, выклікае пераважна станоўчыя эмоцыі, бо зроблены сакавітаю і прыгожаю літаратурнаю моваю, таму чытаюцца «Песняры імперыі» вельмі лёгка, практычна на адным дыханні.

Але ўсё ж ёсць некалькі момантаў, развязанне якіх здаецца даволі спрэчным. Адзін з найбольш прынцыповых момантаў для перакладу – як перадаць розніцу паміж дзяржаўным і этнічным вымярэннем рускага / расійскага, якое нівелюецца ў англійскай мове праз ужыванне толькі аднаго слова-адпаведніка (Russian), але для кнігі Томпсан гэтае адрозненне – прынцыпова важнае. На жаль, варыянт, рэалізаваны Т. Нядбай у перакладзе, цяжка назваць ідэальным. Па-першае, сама амерыканская даследчыца спрабавала аднавіць гэтае размежаванне праз ужыванне вызначэння «Russian» (менавіта ў двукоссі), калі гэтае слова адносіцца да ўсёй дзяржавы, і вызначэння Russian (ужо без двукосся), калі падкрэсліваўся этнічны кампанент. Пры гэтым у самой мове нашых суседзяў гэтае адрозненне фіксуецца даволі проста – «российский» / «русский» або «россияне» / «русские», і як нам выдаецца, было б больш натуральна звярнуцца да гэтага прыкладу і ўжыць беларускамоўныя адпаведнікі «расійскі» / «рускі» і «расійцы» / «рускія». Таццяна Нядбай усё ж вырашыла не выкарыстоўваць магчымасцяў беларускай мовы і паўтарыць услед за Томпсан ужыванне аднаго і таго ж прыметніка «расійскі» – але ў двукоссі ды без яго. Гэтае рашэнне агучанае ў заўв. 41 на с. 36, але дзіўным выглядае, што ў самім тэксце яно так і застаецца нерэалізаваным. Фактычна ў тэксце перакладу ўжываюцца толькі расійскі ды расійцы,

прычым без двукосся, і гэты прынцыпова важны падзел вынішчаецца, так што даводзіцца яго самастойна аднаўляць па ўсім тэксце кнігі. Вылучэнне ў расійскім грамадзянскага і этнічнага кампанентаў, такім чынам, пры перакладзе на беларускую мову фактычна ліквідуецца і чытачу даводзіцца праводзіць самастойную працу для яго ўзнаўлення.

Ёсць і проста памылкі. Напрыклад, вядомы даследчык нацыяналізму, марксіст Эрык Хабсбаўм чамусьці пераўтварыўся ў Хабсбаўна, прытым і арыгінальнае прозвішча ў англамоўных спасылках заўсёды падаецца з памылкаю (Hobsbawn замест правільнага Hobsbawm). Здаецца, што памылка ў адной літары і не вартая такой увагі, але гэтае прозвішча даволі часта сустракаецца на старонках кнігі, таму за яе пастаянна чапляецца вока (тым больш, што на с. 16 ён увогуле пераўтвараецца ў Р.Дж. Хабсбаўна). Хоць кажуць, што дакладна такая бяда ёсць і ва ўкраінскамоўным выданні[2].

Дзіўнаю выглядае і практыка ўжывання ў перакладзе беларускамоўнай калькі такіх паняткаў як ressentiment (рэсантымент) і Orient / Occident (Арыент / Аксідэнт). Магчыма, тут чытаецца жаданне як мага больш абстрагавацца ад тых практыкаў, якія склаліся ў расійскамоўным дыскурсе, дзе, напрыклад, ужыванне арыгінальнага напісання ressentiment без перакладу стала даўно легітымным пасля класічных перакладаў Ніцшэ. Але тут нічога не зробіш, чытаць пра рэсантымент у беларускамоўным тэксце неяк нязручна.

Яшчэ адным пажаданнем было б пабачыць у кнізе каментатарскі апарат, бо Эва Томпсан яўна не грэбуе фрывольнымі дапушчэннямі ды робіць ужо задужа памылак для навуковага даследавання (кшталту сцверджання, што Кацярына Вялікая ліквідавала Грэка-каталіцкую Царкву ва Украіне і Беларусі). Таму навуковы каментар яўна пайшоў бы на карысць гэтаму выданню.

У безумоўны плюс «Песнярам імперыі» можна залічыць тое, што да гэтай кнігі вельмі цяжка застацца абыякавым. Яна лёгка выклікае абурэнне – асабліва ў тых, хто выхоўваўся на творах расійскай літаратуры. Інтэлігенцыі «прыгнечаных Народаў» гэтаю працаю лёгка захапіцца і ўбачыць тут надзвычайнае інтэлектуальнае дасягненне, бо Эва Томпсан паслядоўна і ўпарта сцвярджае каланіяльны характар расійскай літаратуры. А гэта ж адна з найбольш фундаментальных падставаў расійскай культуры, якая ўжо даўно не існуе як нейкая самастойная з’ява, а мае цесныя і непарыўныя сувязі з вялікадзяржаўнаю знешняю палітыкаю.

Між тым, пасля ўсіх крытычных словаў і заўвагаў у бок Эвы Томпсан даводзіцца прызнаць, што першапачатковая інтэнцыя даследчыцы на пошук прыхаванай імперскай свядомасці ў творах расійскіх пісьменнікаў – гэта цалкам слушная і адпаведная задача. Толькі вось асабістая ідэалагічная заангажаванасць даследчыцы

[2] Гл.: http://gluk16.livejournal.com/92185.html.

і вельмі слабая метадалагічная база паспрыялі таму, што рашэнне гэтай задачы пакідае даволі сумнае ўражанне ў тых, хто прагне глыбокага і сур'ёзнага аналізу дачыненняў паміж палітыкай і культурай, уладай і ведай, Імперыяй і Народамі.

У любым выпадку прачытанне гэтай кнігі пакідае ў душы бацылу сумнення і падазрэння да вялікіх літаратурных наратываў, пасля чаго «дыскурс замоўчвання» мае мала шанцаў на поспех. Вось толькі на старонках кнігі Томпсан Вялікае Падазрэнне так і замыкаецца ў межах ressentiment. Імперыя яшчэ чакае сваіх паслядоўных дэканструктараў.

© ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819–3625 №14, 2010

# Кароткая інфармацыя пра аўтараў

***Сяргей Богдан*** *– палітолаг, іраніст, даследчык Інстытуту палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» (Беларусь–Літва), палітычны аглядальнік тыднёвіка «Наша Ніва» (Мінск, Беларусь)*

***Салвіта Дэніс (Solvita Denis)*** *– даследчыца медыяў, дактарантка аддзялення камунікацыйных навук Латвійскага універсітэту (Рыга)*

***Уладзіслаў Іваноў*** *– магістр палітычных навук, выкладчык палітычнай гісторыі і палітычнай навукі Еўрапейскага гуманітарнага універсітэту (Вільня, Літва)*

***Андрэй Казакевіч*** *– палітолаг, PhD (political science), дырэктар Інстытуту палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» (Беларусь–Літва)*

***Аляксей Ластоўскі*** *– сацыёлаг, кандыдат сацыялагічных навук, супрацоўнік Інстытуту сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Мінск), даследчык Інстытуту палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» (Беларусь–Літва)*

***Іван Лысюк*** *– магістр палітычных навук, дактарант Школы сацыяльных навук пры Польскай акадэміі навук (Варшава)*

***Аляксей Міхалёў (Алексей Михалёв)*** *– гісторык, кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік Бурацкага універсітэту (Улан-Удэ, Расія)*

***Анджэй Пукшта (Andžej Pukšto)*** *– гісторык і палітолаг, PhD, загадчык кафедры паліталогіі Універсітэту Вітаўта Вялікага (Коўна, Літва)*

***Пэр Андэрс Рудлінг (Per Anders Rudling)*** *– гісторык, PhD (history), супрацоўнік Універсітэту Альбэрты (University of Alberta) (Эдмантан, Канада)*

***Хакі Таш (Hakki Taş)*** *– палітолаг, дактарант Білкенцкага універсітэту (Bilkent University) (Анкара, Турцыя)*

***Аляксандр Філіпаў*** *– арабіст, гісторык, аспірант Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь (Мінск, Беларусь)*

***Аляксандр Шамякін*** *– гісторык і палітолаг, магістр палітычных навук (Мінск, Беларусь)*